# *Міласэрнасць плахі*

## *кніга паэзіі*

*Мінск «Мастацкая літаратура» 1992*

ББК 84Бел7
Б24

Новую книгу поэзии Рыгора Бородулина составили стихи и поэмы последних лет. Вечный вопрос к небу и к Богу: что есть жизнь, отчаяние чернобыльской катострофы, корни язычества в душе и в понимании мира, взгляд на далекую уже теперь партизанщину глазами сегодняшнего дня, лирическая исповедь и улыбка, интимные строки — таков тематический охват книги поэзии «Милосердие плахи».

Б $\frac{4702120202-054}{М\ 302(03)-92}$ 42—92

ISBN 5-340-00895-9

*Спачатку, ад яйка — Ab ovo,*
*З Вялікадня,*
*З дня ўваскрашэння*
*Стараецца матчына слова*
*Прынесці душы суцяшэнне,*
*Каб зноў паўтарыцца, напіцца*
*Ex ipso fonte —*
*З самой крыніцы.*

* * *

А напачатку далёка да меж,
А напачатку дарога шырокая,
Дзень твой і век —
Маладою сарокаю:
Белага болей,
Чорнага менш.

А напачатку далёкі канец,
А напачатку дарога бясконцая,
А на світанні
Ні смогу, ні стронцыя, ,
І не разліты на кулі свінец.

А на змярканні гусцее сыта,
Дзень сваё ўбранне пераніцоўвае:
Досвітак шэры, і хмары свінцовыя,
І чарната,
Чарната,
Чарната.

Доўжыцца цень,
Карацее вярста.
Пасека ў роздуме,
Гай у куродыме.
І, асланяючы далечы родныя,
Толькі сарока бялее з куста....

* * *

У жыцці сваім местачковым,
У малечым сваім жыцці
Я не верыў набожна словам,
Дужа іх не стараўся пасці.

А былі канкрэтныя словы,
Як дзядоўнік, як паплавы,
Як аблокі і як каровы,
Па якіх тужылі хлявы.

Я, не вывараны ў варунках
У жыццёвых,
Любіў святло.
Мне на здымках
І на малюнках
Прыгажэйшае ўсё было.

Толькі ў рэчцы жыццёвай
Лункі
Час прабіў,
Каб дыхнула тхло.
І на здымкі,
І на малюнкі
Пераходзіць усё пачало.

Заяц шустры, конь ціхагаловы,
Верацяно, памяло
Моўчкі папераходзілі ў словы,
Быццам іх зусім не было.

Роўнай робіцца сцежка крывая
Просіць ушанаваць пехатой.
Слова ўпірыстае трывае,
І са здымкаў усё ажывае—
Толькі пах,
Толькі смак не той.

* * *

Слоў не хочацца кідаць на ўзвей—
Вецер,
Як гаварыла мама.
Я туман прашу: не сівей,
Бо сівею з табой таксама.

Дня кароткага хітры зман
Непрыкметны ў сваім старанні.

Пасівею ўвесь,
Як туман,
І таксама растану ўранні.

* * *

Лёс да кожнага прыходзіць босы,
Як Хрыстос,
Каб бядзілі кожнага турботы,
Як абуць свой лёс, у лапці, ў боты.
А яму не занасіць калёсы:
Боссю — каб нячутна! —
Ходзіць лёс.

Ты, нявольнік, вольны выбраць путы,
Пасталы змяніць на кірзачы,
Грукай збітым, як парог, абцасам,
Смелы і ў руцэ з кавалкам ласым
Помні заўсягды пра лёс разуты,
Ногі босаму на адтапчы!

## *MEMENTO*

Глядзі на старасць
І прымірайся
На гэтым свеце
Жыць ва ўспаміне.
Глядзі на старасць
І прымярайся
Апошняй кропляй
Дрыжэць на галіне.

## *ЯНА І ТЫ*

Веяцьме час малады ў старбе
Кожную хвілю праз сітца.
Старасць здзяцініцца—
І да цябе
Будзе на ўлонні прасіцца.
Ты, як унучку капрызную дзед,
Возьмеш на рукі назолу.
Будзе расці яна
І неўпрыкмет
Гнуць цябе долу і долу.

Сіліцца будзе,
Каб скручыўся ў крук.
Як запярэчыш малечы?
Будзе смялець і нахабнець—
І з рук
Перабярэцца на плечы.

Не абхітрыць яе
І сатана.
Бач, з-за спіны выглядае.
Ты ацішэў, астарэў,
А яна
Дзеўчыцца, бо маладая!

## *УШАЦКАЙ КНІГАЎЦЫ*

Нада мною кнігаўка ўзлятае,
Гэта тая,
Гэта тая, тая,
Што мяне ў дарогу перахсціла
Чорна-белым, як жыццё, крылом,
Каб у свеце карта мне лісціла,
Каб святло не зарасло быллём.

Нада мною кнігаўка ўзлятае.
Дзе мае сляды?
Трава густая
Іх загаварыла глухавата.
Дзе мой дом бацькоўскі на гарэ?
Чую нечы голас: дзе ўзарата...
Цёплы плуг і памяць заарэ.

Нада мною кнігаўка ўзлятае.
Я пытаю, і яна пытае.
Цяжка нам свае бяды зрачыся.
Лёс не прызнае дугу тугі.
Сном і палыном прапахлі высі.
Белы конь скубе сабе лугі.
Кнігаўка, ачахні,
Не скрычыся.
Пад прыглядам Богавым сышліся
Нашыя апошнія кругі.

* * *

Ссыплецца змрок з латака
Калюча-калюча.
Зрываецца яблык з сука
Балюча-балюча.
Далёка шуміць асака
Сырая-сырая.
Зрываецца яблык з сука.
Сябе да яго прымяраю...

* * *

На *ты* лепей з Богам і з маці.
Чужое, халоднае *Вы*,
Як тыя пустыя палаці,
Дзе ні пер'іны, ні травы.

На *ты* са шпакамі шпакоўня,
На *ты* з каранямі віры,
На ты з паднявольным катоўня,
На *ты* з морам вецер сыры.

Калі ў цішыні дамавіны
Ашчэраць да дзяснаў раты,
З жывіцай яшчэ габлявіны
З нябожчыкам будуць на *ты*.

Жывы ў здрадным плоцевым грыме
Спяшаецца, вязень вярсты,
А змоўкне—
І дол яго прыме,
Бо з прахам няўмольнасць на *ты*.

## *МАЛЕННЕ ЗА БЕЛАРУСЬ*

Божа, пашлі Беларусі
Ласку з Тваімі вачамі,
Сэрцы суцеш у скрусе,
Злітуйся над крывічамі.

Знікнуць, Святы, не дай нам
Ад рукатворнага жаху,
Верацьмем вечным тайнам
Руху Твайго і шляху.

Божа, вярні дадому
Блудныя душы з выгнання.
Поперак духу злому
Воля гасподняя стане.

Хай беларус беларуса
Будзе любіць як брата.
Светлая імем Ісуса
Наша крывіцкая хата.

Божа, на ўсіх раздарожжах
Нас ад напасцяў варожых
Твой зберажэ напамін.
Амін.

## *КУЦЦЯ*

Чэкістамі закатаваны,
На могілках непахаваны,
Паўстань, крывіцкі зорны дух!
Кіпіць наш розум раззлаваны,
Злучае ўсіх пакут ланцуг.

Сын, неаплаканы матуляй,
Застрэлены айчыннай куляй,
Прыйдзі, гаротнік, на Дзяды,
На плечы збітыя
Кашуляй
Ускінь туман на халады.

Працаўнікі зямлі забранай,
Абрабаванай, згвалтаванай,
Як без'языкія званы,
Хоць разгавейцеся пашанай—
Куццёй,
Што звараная з віны.

Пасля ўсяго, што чулі вушы,
Што вочы бачылі ў двурушшы,
Як называцца нам людзьмі?
Пакутнікаў святыя душы,
Ўсявышні,
Да сябе прымі!

* * *

Нічога мой імгнення лёс
На лёгкіх шалях часу не заважыць,
Ніхто майго знікнення не заўважыць.
Імчыць сабе жыцця вясёлы воз.

Як пасылала ў свет мяне,
Настрой, відаць, някепскі вечнасць мела.
І мне ў жыцці было куляцца смела,
Пачуўшы першы гром на ярыне.

Наіўнай радасці пасла,
Мяне надзея мела на прыкмеце.
І ад мяне след застанецца ў свеце,
Як на вадзе ад летуценнага вясла.

* * *

Чалавек, як і дрэва,
Расце, карэніцца,
Галее паволі ствол,
Засыхаючы ападаюць сукі
Знаёмых, родных, сваіх,
І толькі карані
Глыбей ідуць у зямлю,
Напамінаючы пра вечны дол.
І вяршалінам памкненняў
Адно на зямлі застаецца—
Трымацца за неба...

* * *

У кастрычніцкае ранне
Светла стане.
Адміранне, дагаранне,
Развітанне
У апошні раз сышліся
Пры раздзеле.
Сціхлы дол, глухія высі
Парудзелі.
Адшумелі звон і тлумаць,
Дзякуй Богу.
І самому трэба думаць
Пра дарогу.

* * *

Спачатку,
Як будуць грошы...
Потым,
Як будзе час...
Па часе,
Як будзе здароўе...
І, урэшце,
Калі мы будзем...

Збіраемся
Разам сабрацца —
Сябры,
Знаёмыя,
Людзі.

## *ЗА СЛОВАМ БЫКАВА ІДУ!*

Чытаю Быкава—
І зноў
Вяртаюся ў краіну сноў,
У старану маю лясную,
Якую,
Покуль я існую,
Люблю ў затуле туманоў,
Ёй плачу, бачу, ёй блазную.

Завецца ўшацкай старана,
Там Селішчы і Старына,
Бычкі, і Дольцы, і Гарані,
І Чарапоўшчына,
І ўранні
Лубее ў елкі карына,
І каня нікне ў дакаранні.

Ашчадны быкаўскі радок,
Як непрытомлены хадок,
Вядзе на топішча,
На ляды,
На Посніцу, Дзяды, Каляды.
І рада, ўчуўшы халадок,
Душа, сабе не даўшы рады.

З раўка бярэ разгон рака,
З рыўка вітае ўзмах
Рука
Абнылае крыло самоты.
 Пачуеш з даўніны само ты

Напрок шпака
І крок грака,
Напоўніш золлю смутку соты.

Узмежкам, палазнёй, лядком
За словам быкаўскім,
Радком,
Не ўзяўшы ў павадыркі стому,
Іду,
Вяртаюся дадому,
Што выціраў слязу крадком,
Не пахваліўшыся нікому.

* * *

А лясныя галубы
Ў гарады пераляцелі.
Ці яны перахацелі
Сесці-пасці на дубы?

Ці не стала ўжо куды
Лётаць у гарох у шкоду?
Ці дубовую калоду
З'еў зімой агонь худы?

Гарадскімі галубы
Сталі.
І галубяняты
На гарышчах інтэрнаты
Маюць.

Выскублі чубы
Галубам клапоты дня.
І крылатыя сяляне
Тужаць па сваёй паляне,
Дзе дзічэла ўся радня.

Рассялянены яны —
Разгалублены.
Галубка
Тупае па гзымсе цупка,
Забывае дол лясны.

## *ДВА*

Ушацкі селянін жыве ўва мне,
І падсяліўся гараджанін мінскі.
Спрачаюцца,
Ядуць з адное міскі,
І самагонкай абзываюць віскі,
І часам бачаць ісціну на дне.

Сябе ў сваёй не чуюць гамане,
Бы двух люлялі розныя калыскі.
І кожны сам сабе бывае блізкі
І зразумелы толькі ў даўнім сне.

## *УЦЯКАЧ*

Я некалі
Час абагнаць стараўся,
Потым уполеч ісці прыхітраўся.
Адстаў.
Упарты час даганяць загараўся.
І стаў.

Даўно мой час
Без мяне ідзе.
Не азірнецца назад
Нідзе.

* * *

Ашчэрыцца паспееш, лёх,
Не размярзай, зямля сырая!
А недзе ўжо на небе
Бог
На свой гадзіннік пазірае.

Не мог, не змог, не дапамог...
Я пастаяў ля небакраю.
А недзе ўжо нервова
Бог
На свой гадзіннік пазірае.

На цень мой водцень смутку лёг.
Я адганяю злую зграю.
А недзе, мне здаецца,
Бог
На свой гадзіннік пазірае.

А мне б у торбу ўзяць пірог
І аж да веснавога граю
Ісці,
Каб стаць на свой парог,
Нібыта на прыступак раю,
Паспець,
Пакуль ласкавы Бог
На свой гадзіннік пазірае.

## *СЛУХАЮЧЫ МОРА*

*ХВАЛЯ-ПАЭМА*

*Леаніду Дранько-Майсюку*

Мора — чарупіна Бога,
якую ў гуморы Усявышні
прыкладвае да вуха,
каб пачуць, як гудзе
трывога.

Мора — нервовыя шалі,
на якія духі глыбіняў
настрой надвор'я
паклалі.

Мора — глыток акіяна,
яго акіян у маркоце
доўга трымае ў роце
нерассмакавана.

Як камень-лізун карова,
мора языком ад пяску казытлівым
бераг ліжа, жмурачыся
белаброва.

Нябеснае мора і мора зямное.
Глядзі ў адно, каб бачыць другое,
а кожнае з іх па-свойму жыве
гаманою.

Салёна жартуе вясёлае слова:
гора маё, гора — хата як мора,
а за вугол трэба вон хадзіць
абавязкова.

У песні свацця ў п'яным гудзе
пусціла сікі на чаравікі,
прыгаворваючы — усё ў моры
будзе.

Работы мора, а рабіць няма каму.
Зямля мора слёз праліла, солі, як долі,
наплакала.

Як на моры без вясла застацца—
аднаму, і толькі гора паўтарае,
як мора, адно — прыслухайся: пра-ца,
пра-ца.

Мама мая маладая
у Задаброцці на камені, які
рэчка Добрыца гладка абгладзіла,
бялізну прызімкам прала. Яшчэ і цяпер
яе маладзенькі голас там
халадае:

А як пайду я на сіне мора
Платкі праць,
А як зойдуцца мае ручачкі,
Хоць ты плач...

І прыходзіў рыбак, што зваўся Іванам,
і ручкі грэў губамі гарачымі і
цёплым жупанам.

Мора белае разлівалася гэтак, бывала,
што толькі комін з хваляў тырчэў,
а мору выстыламу было ўсё
мала.
І па хвалях ішла ці плыла,
як плотка, у белым кажусе, у белай хусціне,

лёгкая на ўспаміне, Зімавея —
крамяная цётка.

Мора рунявае ад ганку да далягляду
разлівалася і залівала, буяючы,
сцежкі стаптаныя і платы, як плыты, і
грады.

І, аж шапталася з ветрам сукенка,
па хвалях ішла на галаве з вянком,
на плячы са збанком, дзе бярозавік смяг,
з вачыма затуманенымі Веснавея —
недаткнёнка-паненка.

Мора зялёнае па вершаліны высокія
разлівалася, і плылі ў ім гаі і дубровы
і паплавы і ўзлескі перагукваліся канямі,
сойкамі.

І, аж падалі цені ніца,
па хвалях жураўкай плыла з аблачынкай
на галаве,
з перапёлкаю ў рукаве Летавіня —
рухавая маладзіца.

Мора бурштыновае
ад ускоту і да закоту
разлівалася, загадвала млынарам загадку
(поўна печ перапеч, а пасярэдзіне кныш),
чакаючы асцюкаватага
абмалоту.

І са жніва, як з гуляння,
па хвалях ступала са званочкам
пад падалочкам, з пацьмячком снапком
ці з сынком Асянея —
мажная паня.

Мора — павелічальнае шкло,
якое Ярыла
наводзіць зайцу на пяткі, і той
без аглядкі імчыцца ў кусты
як сіла.
Ды неўспадзеўкі дагоняць
падпаленага папеўкі:
Ці бачылі, мальцы,
Баравога зайца,
Сам шэр, хвост бел,
Паджарыя (ў рыфму).

Мора — начоўкі, ў якіх чалавецтва
купала міфы, легенды, паданні—
яшчэ галазадых сваіх немаўлятак.
І азёры мае—
Чарсцьвяды, Вечалле, Чаравэчча
таксама ад мора вядуць свой пачатак.

Мора — вясляр, што не ведае зморы,
вяслуе, вяслуе, вяслуе,
ды нікуды не вырвецца з цеснай каморы,
і не наракае на долю злую.

Выдмы — застыглыя хвалі.
Хвалі — рухавыя, зменлівыя,
як настрой, выдмы.
Аблокі несуцешнымі выдмамі сталі.
Мора, вядома, Бог ўсёўладны выдумаў.

З прадоння вырвацца марыць з часам
сцятая берагамі прастора.
Толькі цішыня са скрухаю сам-насам
слухае, як шумяць беспрытульныя думкі
мора.

*ЗДАЕЦЦА...*

З берага пачынаецца небасхіл,
З небам мора мжыста злілося.
Як Дубоўка пісаў,
Чуцен чаек сквіл.
Разлілося рознагалоссе.

І, здаецца, буру суцішыў Хрыстос,
Змусіў гнеў прарасці лясамі,
Рыбакам цвёрдаверам зыначыў лёс:
Сталі душаў людскіх лаўцамі.

Гэта ў моры ці ў небе
Трымцяць сляды?
Днее снег чаечага пер'я.
І душа прагне трапіць у невады
Веры,
Вырваўшыся з нявер'я.


2—1427

## *БУЛЬБЯНАЯ БАЛАДА*

*Ігару Шклярэўскаму*

Гаспадыня стала,
Багіня,
Беларуска ружовашчокая.
Над катлом німб гарачы гіне,
Рупіць німбу расплыцца аблокамі.

Гэта з пары над бульбай
Хмары
Над планетай бульбападобнаю.
Непадробная ў неба на твары
І сляза, як бульбінка дробная.

З бульбай хрэсьбіны, і Каляды,
І Дзяды з паганскаю кульбаю,
І адведкі, і тыя нарады,
Дзе прамоўцы трывалыя бульбаю.

У прысмакаў слабая спакуса.
Пахнуць бульбаю нашыя хронікі.
Маннай з неба кармі беларуса,
Ляжа спаць—
Сняцца клёцкі, дзяронікі.

Бульба з намі ідзе вякамі,
Бульба тоўчаная, цалкамі,
Бульба параная, бульба вараная,
І нішчымная, і засквараная.
Бульбай посцім і разгаўляемся,
З бульбы выгнанай пахмяляемся.

Мы на бульбу не наракалі,
Бульбу есці звykліся ўсякую—
З селядцом, з грыбамі, з гуркамі,
З поліўкаю, з кісялём, з верашчакаю,
З сырапеняю, з канцэнтратамі,
І астатнім часам — з нітратамі!

Смачна елася з макам і з такам,
Ды, нітратамі перасычаная,
Развіталася бульба са смакам,
Як у злога суседа пазычаная.
Бульба годнасць губляе фамільную,
Бушлаватая робіцца мыльнаю.

Да ўсяго звыкаем памалу,
Аж не верым, што родам з Амерыкі
Бульба.
Думаем, ад крухмалу
Мы не гнемся, як і каўнерыкі!

Мы — бульбянікі,
Не абраза
Гэта фраза.

. . . . . . . . . . . . . .

Апошняю кропкаю
У канцы жыццёвага сказа
Стане некалі бульба сопкая...

* * *

Звыкаюся слухаць глухую стому,
Смялей каляндар пачынае гартацца.
Здаецца, учора я выйшаў з дому,
А ўжо дадому пара вяртацца.

Мае трывогі, мае дарогі
Парастрасала, паразмывала,
Прымлелі рукі, престалі ногі,
Хацеў багата, а маю мала.

Пусціў на вецер свае дукаты,
Набыў сумненне, набіў аскому.
Здаецца, ўчора я выйшаў з хаты,
А ўжо вяртацца пара дадому.

Туды, дадому, дзе лугавіна
Улетку цёплая, як палаці,
Дзе долу кланяецца дамавіна.
Там мама сустрэне ў вечнае хаце.

## СОН

Сон —
На гэтай зямлі край адзіны,
У які яшчэ можна ўцячы
Ад людзей, ад сябе,
Ад радзіны
І замкнуцца,
І кінуць ключы
На дарогу,
Дзе ходзіць маленства,
Дзе стамляецца матчын пагляд,
Верачы,
Што адрынеш шаленства,
Вернешся ў паслушэнства
Назад.

Сон —
Той край,
Дзе сябры ўсе жывыя,
Дзе ты вольны
Застацца адзін,
Дзе ваўчыца чарнобыльская не вые,
Дзе не сходзіцца
Свет на клін.

* * *

Я адышоў далёка ад сябе,
Ад утрапёнага і маладога,
І толькі зоры ў золкай варажбе
Загадваюць, куды пайшла дарога.

Я адышоў далёка ад сябе,
Ад шчырага ў сваім святым наіве,
Самотны і ў маленні і ў кляцьбе,
Як грак цяжкі абзімаваў на ніве.

Я адышоў далёка ад сябе,
Ад самаўпэўненага і нязлога.
Мех смутку
На сваім цягну гарбе,
Дзе літасці і лютасці замнога.

Пазычыць дзён прашу ласкава
Бога,
Хачу вярнуцца да сябе самога...

* * *

Жыву я
Ці толькі шукаю свой след,
Што збег утрапёна.
Адзін я, як і Сусвет—
Мой сусед.
І мне і суседу сцюдзёна.
Я — толькі тая кропля цяпла,
Што ные,
Што вочы мае,
Якую нябыту на тлум аддала
Вячніна няўмольна глухая.

Ніхто не прыгорне
І не прыхіне.
Па звычцы ад продкаў шчырую.

Сырая зямля не сагрэе мяне,
І я не сагрэю сырую...

* * *

Ці радасці апошняй прамяні
Старацца выхапіць,
А ці ў дарогу
Апошнюю збірацца дзень пры дні,
Час прысмеркаў
Марнуючы патроху?

Лёс прытайкам
За сэрца, як ляўша,
Трымаецца.
Адводзіць вочы сорам.
Табой не ашуканая душа
Чакае,
Пазіраючы з дакорам.

## *ПРАДЧУВАННЕ ВЯСНЫ*

Бяроза голая, як ісціна,
Ды сок прачнуўся пад карой,
Шукаючы вясёла выйсця на
Прасцяг,
Святлейшы за настрой.

І сакавік халоднай глоткаю
Уранні з конаўкі глыне—
Аж у бярозы па спіне
Мурашкі пабягуць
Салодкія...

* * *

Я цяпер падабаюся дзвюм,
Кожны дзень уцякаю ад дзвюх,
Гэтых дзвюх унікае мой сум,
Гэтых дзвюх унікае мой дух.

На сябе ў люстэрка зірну,
Каб пачуць ад гадоў прысуд—
Бачу перад сабой адну,
А другая шэпча: «Я тут».

Кладку знесла з вадой вясна,
Каб не змог ад дзвюх уцячы.
Старасцю завецца адна,
А другая—
З іржавай касой на плячы.

Называць яе не хачу.
Я маўчу.
Я маўчу.
Я маўчу.

* * *

Вырак ног абыякава босых.
Марны ўздых у глухім палыне.
Послух шляху ахвярнага—
Посах
Горкі пыл аддае меліне́.

Як апірышча мары і веры,
Ўсе шляхі абышоўшы ў жыцці,
Посах грукне ў нябесныя дзверы,
Ціха ў хату збаіцца зайсці.

* * *

Выжывалі ў зямлі карані,
Вершаліну маланкі ссякалі.
Ратавалася дрэва сукамі —
Менела самавітай радні.

Я — атожылак толькі,
Які
Цягнецца затрымацца лістамі.
І калі майго ценю не стане,
Не заўважаць прапажы вякі.

І працягнецца
Мой радавод
У кара́вай раллі каранямі.
І атожылак зноў акрыяе,
Новых дзён прывітаўшы прылёт.

## *СВЯТЫЯ ГРЭШНІКІ*

Гаварылі часта ў нас:
— Пасядзім, пабудзем,
Гэтых раз не кожны раз,
Дзе мы потым будзем...

Сніўся кожнаму свой сон,
Часта паўтаралі:
— Гэтых дзён не кожны дзён.
І па чарцы бралі.

І нізаліся званчэй
Словы, як каралі.
У радні маёй з вачэй
Слёзы смутак кралі.

І збіралася радня,
Што каралі тыя.
Смех кавалі, як каня́.
Грэшнікі святыя.

Тут усё было з рукі.
Уцалець бы шыбам.
Рагаталі землякі—
Аж яліны дыбам.

Дзе цяпер разы і дні—
Землякі забралі.
Развязаліся радні
Сумныя каралі.

* * *

Ветэраны,
                    як у ціне прыглухлыя шчупакі,
Выплываюць на свет з затокаў сямейных.
Варухнуцца ім цяжка ад бліскучай лускі
Ордэнаў, медалёў і значкоў юбілейных.

Шчэлепамі ўстаўнымі
                              слаба зя́ваюць шчупакі,
А над імі занесены вострыя восьці.
Захапляцца героямі прытаміліся хлапчукі.
Пратаптаўся асфальт.
Сумнаватыя госці.

Глушаць гучныя словы і шчаслівая медзь.
А было —
Цішыню з грукату вырывалі.
Ім — аглушаным —
                              цяжка цяпер зразумець,
Што яны здабылі?
Што ім — там! — абяцалі?

## *ЛЯСНАЯ ЎСМЕШКА*

Запытаўся воўк у сабакі:
— Ці да лесу яшчэ далёка?
— Дзве вярсты з невялікім гаўкам.
— Сорак, сорак,—
Сакоча сарока.

## *ПЛАНЕТА МАТУЛЬ*

Ты прахукваеш у шыбіне сваё акенца ў зімовы свет. А на плечы табе цёплай аблачынкай апускаецца апранашка, сагрэтая матчынымі плячыма.

Снег на шчацэ растане, і зашчыміць прытухлым болем трывога. Адчуеш адразу, як пачынае цяплець у цябе пад нагамі зямля, адтуль, з малых гадоў, з малечых слядоў.

І першы мароз запахне матчыным дыханнем, халодным малаком і самым смачным у свеце, бо часцей яго не хапала, хлебам паслявайны...

Праталкі першыя, першыя прысмалкі на санным следзе — сляды вясны.

Гэта матчыны вочы першыя выглядзелі здалёку вясну. На сакавіцкія кветкі зірнеш і сорамам зойдзешся. Некалі не прынёс іх маці, забыўся прынесці, вырашыўшы, што гэта здасца занадта сантыментальным учынкам, не мужчынскім. Адно забыўшыся, пакуль жывая маці, ты ўсё роўна дзіця горкае і дужа безабароннае...

Лета на аграблях дасушвае на вятрах падвялае сена, на матчыных аграблях.

І навальніца летняя гразіцца зусім не грозна, не злосна, яна спагадліва дакарае, як маці. Пазней дойдзе да цябе сэнс прымаўкі: граза у лес не йдзець...

Восень у матчыных далонях трымае

важкія пахі з гароду і саду. Кожнаму каліўцу кланялася маці не адзін раз, з кожным яблыкам гаварыла, горам і радасцю дзялілася.

Незабытна пахне варыва з маладых прыпасаў. Новая навіна на старое чэрава — усміхаецца прыгавор разам з маці...

Увесь год усяго жывога і зялёнага пачаты і завершаны матчынымі клопатамі, матчыным стараннем.

І год жыцця нашага ад вясны да зазімка ці да глухой зімы — ён матчын, ён нам дадзены матуляй.

Памяць наша пра сябе малых і веданне сябе саміх — ад маці. Пакуль жыве маці, жыве наша памяць жывая.

Толькі маці і зямля, яны ж абедзве жанчыны, разумеюць сэнс жыцця, нас, дзяцей сваіх.

Экзюперы назваў зямлю нашую планетай людзей. Я назваў бы — планетай Матуль.

* * *

З Ваўчэнскім возерам апошні раз
Была.
Вязала качачку з аеру
І на ваду пускала.
Вечар гас.
Ваўчо — насупраць вёска—
На вячэру
Збіралася збіраць усіх сваіх
З узлескаў, з гоняў,
З пашы, з лугавіны.
Бруёк, як ціхі ўсхліп,
Памалу ціх.
Вязалі рукі бабы Акуліны,
Каб бачыла
Унучачка, калі
З аеру качка спішыцца ў аеры.
Яна плыла далей
І, даўшы веры,
Жывыя качкі ўслед за ёй плылі...

Калі ў Ваўчы засклыгае асвер,
З вядра ваду расплiхаўшы нядбала,
На возеры Ваўчэнскім
І цяпер,
Здаецца, той усё шуміць аер,
З якога мама качачку вязала.

## *ЧАКАННЕ І АДЧАЙ*

Чаканне і адчай
Перагукаюцца.
Чаканне і адчай—
Яны звыкаюцца.

— Чакай мяне, адчай!—
Чаканне просіць.
— Чаканне, не знікай!—
Адчай галосіць.

Дарогай прыкмячай
Сцяжынкі пыльныя.
Чаканне і адчай—
Дазорцы пільныя...

* * *

У душы маёй цёмна,
Як у труне,
Дзе нябыт і развага
Закончылі спрэчку.
Мама нават і ў снах
Не ідзе да мяне,
Каб зацэпліць
Спагадную свечку.

* * *

Якому зерню лепш, што прарасло
Ці непраросламу сляпому тому,
Што, не зазнаўшы намаганняў стому,
Ператварылася маўкліва ў тло?

І зерне, што дапала да святла,
З гарачай далані, з катла, стала
У цемру вернецца, каб стацца глебай.

Жыві, жывы, глухой зямлёй
не грэбуй,
Малі, каб зернем да сябе ўзяла.

## *ПАШТОЎКА З ПРЫМОР'Я*

Хмарка задумалася на сопцы
І зазелянелася ад тайгі.
Ды схамянулася:
Усе сяброўкі яе
Плывуць у небе з аблокамі.
І яна, колячыся аб вяршаліны,
Даганяе іх і худнее
Ад страху і суму.
Даганяе іх і худнее
Ад роспачы...

* * *

Маме я не ўсё гаварыў,
Часта клікаў ману на падмогу.
І застаўся адзін,
Як абрыў,
Што ўдзічэў ад глухога глогу.
Лёс
Апошні адчай падарыў—
Гаварыць шчыра толькі
Богу.

* * *

Адыходзячы з дому, з гасцей,
з пагасцін на зямлі наогул,
мы забываемся нешта
абавязкова,
каб не забыцца Хацець
вярнуцца дамоў, у госці
ці на зямлю наогул
думкаю,
успамінам,
сном,
каб не запыніўся
на вокамгненне
кругазварот жыцця...

* * *

Рад бы ў рай,
Ды грахі не пускаюць—
Помню гэтую ўсмешку змалі.
А цяпер думаю,
Што трымаюць
Нас грахі як даўжэй на зямлі.

Бо з вязанкай грахоў за плячыма
Цяжка ў райскую браму ўвайсці,
І з плячэй скінуць груз немагчыма.
Вось і носімся з ім па жыцці.

## *ПЕРАД ПОШЧАКАМ*

Блакітна дрыжыць бліскавіцы кроіва.
Краявід сшываецца
З кволых штрышкоў.
Гітару вярбіны
Вясна настройвае—
Падкручвае белыя калкі каташкоў.

* * *

А дрэва, вяртаючы долу лісты,
На новыя мае надзею.
На тыя,
Што выбухнуць з нематы
І так зашумяць,
Як пад чаркай сваты,
Аж дрэва само анямее.
Мяняючы зяляніну на медзь
У восені — ў хіжай ліхвяркі,
Зялёна захоча шумець,
Але лістабой загадае нямець,
Глядзець,
Як звыкаюцца тлець недагаркі
Красы залатое,
А там скразнякі
Галіны аголяць,
Завострацць сукі.
І дрэва з лістамі ў расстанні
У сум каранямі ўрастае.

## *ДАБРАНАЧ!*

Бачыць свет свой жывое па-рознаму
З-пад адгорнутага скрыля...
Ахінаючыся баразнамі,
Спаць паклалася аралля...

* * *

Сябры,
Якім давяраў я
Свае таямніцы бессаромныя,
Паступова туды адышлі,
Дзе маюць час зразумець
Таямніцу вечнасці.
Тое, што не паспеў адкрыць,
Што не даверыў ім,
Што вагаўся сказаць,—
Адкрыю,
Даверу,
Скажу.
Пры сустрэчы.

## *ВЯНОК ЦЫБУЛІ ДЗЁН*

Хоць цесна сплятаўся
Скупечымі пальцамі часу
Вянок цыбулі дзён,
Ды любую цыбуліну
Выпадку лёгка выцягнуць
З выпетралага вянка.
І цыбуліна мыту з вачэй
Бярэ слязамі,
Бо зусім салодкае
На няполатых лехах жыцця
Не бывае цыбулі.
І ўрэшце ён разарвецца,
Вянок цыбулі дзён тваіх,
І ўсе цыбуліны параскоцяцца.
Ды ці дужа горкаю будзе
Апошняя твая цыбуліна,
Якой ты праз слёзы
Мусіш яшчэ ўсміхнуцца.

## *РУХ*

Жыццё, як базар,
Дзе заўсёды
Два дурні не прыйдуць да згоды,
Адзін з іх просіць багата,
Другі дае малавата.
Таргуецца ўсё чалавецтва,
І торг гэты рухам завецца.

## *MEA CULPA*[1]

Каб лёс
Не гнуў з мяне ду́гі,
Не выпусціў з мяне духí,
Матчынай хаты
Клапатлівыя духі
Пасвяць, як пастухі,
Гадоў маіх статак,
Што маўкліва радзее.
Калі б гадоў да ста так
Даў Бог на дастатак,
Тады б вятры-дабрадзеі
Дзьмулі б не дужа
І толькі ў спіну.
Ды сам свой папрок адкіну,
Сабе самому скажу я: дружа,
Дзякуй скажы і на тым,
Што маеш.
А што ты пусціў на дым,
Сам вінаваты,
Сам аблавухі.
Клапатлівыя духі
З матчынай хаты
Далі табе дні залатыя.
Яшчэ пячэцца ў прысаку бульба...
І ты паўтары за латынню:
Mea culpa, mea culpa,
Mea maxima culpa.

---

[1] Мая віна *(лац.)*.

## *ВІТАЛЬНАЯ*

Як лісічка тая каля пня,
Каля дзеда ўнучка Дамініка.
Дык расці шчаслівa і вяліка,
Самая чаканая радня!

Значыцца, не толькі парахня
Застанецца каля пня старога.
Падрастай жа, радасць і трывога,
Самая балючая радня!

Хай жа будзе ў лёса даланя
Для цябе на шчасце не скупая.
Хай жа ў лесе вечнасці ступае
Сцежкаю жыцця твая ступня.
Толькі не апошняй будзь,
Радня!


3—1427

* * *

У думках рэшту дзён перабіраю,
Не ўспамінаючы той дзень знарок,
Калі ў чарзе ў нябыт я стану з краю,
Калі прыстане мой слухмяны крок.

І цень мой упадзе пад ногі гаю,
Дзе дрэвы кайнасці далі зарок
Не варухнуць галін свайго адчаю,
Пакуль не зробіцца вачыстым змрок.

Душа даношвае старое ўбранне
І мусіць адляцець у тое ранне,
Што з вечнага, як і яна, святла;
І ўжо ў апратцы новай боль прачуты
Згадаць і зноў вярнуцца на пакуты
Пад засенню нябачнага крыла.

* * *

Гудкі буксіра ў тумане,
Гудкі асіплага буксіра.
Ці гэта кліча хто мяне,
Ці хто мяне чакае шчыра?

Каб разам з берага тугі
Адплысці,
Покуль змрок ніцее,
На бераг прывідны другі,
Дзе ўсё яшчэ жыве надзея.

Што можна ўсё пачаць наноў,
Што можа напаткацца тая,
Якая недаснёнкай сноў
Праз гэтулькі гадоў знікае;

Што можна ўсё забыцца зноў,
Не ўспамінаючы благое.
Ды толькі спіны валуноў
Шрам трапяткой маланкі гоіць.

Мяне гукаць у тумане
Не марацца гудкі буксіра.
І верыш, ліха абміне.

А на душы, бы ў склепе, сыра...

* * *

Я сам сабе даўно хлушу,
Што непрыгнечаны, вясёлы.
А нешта ціснe на душу,
Ці калясніцы кону колы,

Ці нерухомы груз гары,
Якая называцца горам
Не пажадала да пары.

Мне знелюбіла быць актopам,
Мне знадакучыла ныраць,
Іграць даўно старую ролю.

Перадыхну — і зноў на рaць.
Не даць бы толькі волі болю.

* * *

Бяжым чаго?
Бяжым куды?
Абы з вачэй!
Абы з плячэй!
Не заўважаючы гады,
Імчым, імчым,
І чым хутчэй.

А хітры час
Глядзіць на нас,
Ён ведае куды
Мы дабяжым —
Апошні раз
Глынуць глыток жуды.

Пакуль яшчэ
Раса дрыжыць
І родзіць сенажаць,
Час навучыцца
Проста жыць,
Свой вырак паважаць.

* * *

За акіянам нематы,
За тры вякі да нашай эры,
У туманах паганскай веры
Цяпер, здаецца, ты.

Між буралому, між куп'я,
Уцёкшы з тайнае вячэры,
Як воўк апошні ў лесе шэры,
Адзін блукаю я.

З шрамом маладзічка ў ілбе
Праз тры вякі да нашай эры,
Праз туманы паганскай веры
Мне бегчы да цябе...

* * *

Гэтакіх цягнікоў няма,
Гэтакіх скразнякоў няма,
Гэтакіх немых вякоў няма
На зямлі,—
Каб адвезці,
Каб адарваць,
Каб аддаліць
Цябе ад мяне маглі...

* * *

Можа, не трэба было,
Можа, не трэба, можа...
Толькі наслаў святло
Ты, літасцівы Божа,
Каб сасляпіла мяне
Грэшнаю спёкай цела,
Думаў, што абміне,
Толькі не праляцела
Міма тое крыло,
Што асланяе гожа.
Значыць, наслаў святло
Ты недарэмна, Божа!

## *БРЫТВА*

Брытва —
Ранішняя малетва.

Ты зараслага думкамі голіш
І Бога моліш,
Каб, зараслы за дзень, гаспадар
Вярнуўся дамоў на вячэру,
Каб ягонага не ўбачыць ашчэру.

Ты не бываеш ленаю
Занесеная над венаю.

І дамавіна
Рупнасць тваю ацаніць павінна.

Бываеш сляпой і відушчай.

У немасці сцэнаў
Дазваляеш багаславіцца.

Над сіняю пушчай
Венаў
Белая бліскавіца...

* * *

Ці зробіцца роспач тугою,
Ці роспаччу стане туга,
Даруй мне, даруй мне благое,
Даруй мне, калі гэта льга.

Дзе жаўранак босай нагою
Яшчэ не ступаў,
На зямлі
Звіло сабе гнёзды благое,
Аж Бог не заўважыў калі.

А добрае ў злога слугою,
А добрае сцежкай ізгоя
Ідзе і не бачыць канца.
На добрае гляне благое
І ў пекла пашле,
Як ганца.

Паклічу дабро
І яго я
Ад хітрасці абараню.
Дарую табе ўсё благое,
Даруй за маю дабрыню.

* * *

Мора мне гэтыя шэпча радкі,
Здобячы пенай, што прошваю.
Гора мне: быццам жабрак пятакі,
Я ў цябе словы выпрошваю.

Ты адсыпаеш са шчодрай рукі
Словы з маною жаданаю.
Я медзякі, як і ўсе жабракі,
Ціха прымаю з пашанаю.

Мора прымае ў сябе перуны,
Ды не прымае салодкай маны,
З небам салёна гаворачы.
Мора занята глухой варажбой.
Разам са мной паўтарае прыбой:
...горача... горача... горача...

* * *

Гнеў мора
Моршчыць свой лоб сакратаў,
На даляглядзе размыўшы
Нябесны тын,
І, як пасля допытаў
Вязень з-за кратаў,
Выплёўвае зубоў бурштын.

* * *

Сухотныя крыгі.
Канае люты.
Варона сухар размочвае
У конскім следзе.
След непадкуты,
Як непадкутая доля воўчая.
А доля воўчая чэзне, менее
У прагнай дзяльбе.
І радзее зграя.
Адно вароны, як чорныя геніі,
Абсяг крыжуюць да небакраю.

* * *

Я выдумаў цябе, ці ёсць
Ты сапраўды на гэтым свеце,
Як ёсць адчай,
Як ёсць мілосць,
Як ёсць спякота ў кожным леце.

Калі не выдумаў,
Тады
Чаму цябе няма са мною
Ля абначэлай чарады
Пад аблачынай праліўною.

Ля абначэлай чарады
Маіх гадоў, што засталіся
Шукаць забытыя сляды
На доле і ў нябеснай высі.

Пад аблачынай праліўной
Маёй гаркоты і маркоты
Па той адной, па той адной,
Якую ведаеш даўно ты.

Табой назвалася яна.
Чыя мана?
Чыя віна?

* * *

Час адбіваюць званы касцёла,
Нагадваючы не зусім вясёла,
Нам з табою,
Мой лёсе,
Што мала ўжо засталося,
Каб круцілася клопату кола,
Каб слухаць,
Як звоняць званы касцёла,
Абыякавыя званы,
Сваёй не чуючы ў тым віны...

## *ПАВУЧЫНКА БАБІНАГА ЛЕТА*

Павучынка бабінага лета
З ласкай шарганула па губах.
Прыцемкі. Раса. Сцюдзёны пах.
Развітанне. Сум. Было ўсё гэта.
Восені пададзена карэта.
Ліст яшчэ зялёны на дубах.
Астывае духата ў тарпах.
І задумаўся радок паэта.
І паўдню пакуль стае святла.
Пара ад раллі, як ад вала.
Ды пад нечым рысу падвяла
Павучынка бабінага лета.

*КАНЕЦ*

Камедыю жыцця
І смерцю
Не запыніць.
І над труной
Прамоўцы давяцца маной,
Хоць кожнаму ў сваім канверце
Адрасаваны ліст,
А ў ім
Пазначана, калі павінны
Ён легчы ў лона дамавіны,
Стаць прахам.
І жыццём сваім
Клянецца кожны, як дзіця,
У вечнай памяці пры людзе,
Хоць, адышоўшы, ўсё забудзе.
Ды недзе ўжо яго куцця
Даходзіць.
А жалобны покут
Усе жывыя занялі—
Ядуць і п'юць,
Каб на зямлі
І пад зямлёй
Палегчы ўпокат.

* * *

Са страхам падыходжу да люстэрка,
Штодня ўсё больш сябе не пазнаю,
Як і натуру, быццам бы маю,
Тут не ўратуюць лямант ды істэрыка.

А можа, мне вяртаюць рысы нейчыя,
А ці ў мяне пазычылі мае?
Ці кон нябачнай свечкаю падсвечвае
І мне чужое нешта аддае?

Свае абрысы да апошняй рыскі
Няўжо я не набыў за ўсё жыццё?
Свет на мяне,
Далёкі свет і блізкі,
Глядзіць, як на капрызнае дзіцё.

Не мною дні мае даўно палічаны.
Такога, як чакае, прыме скон.
Ну а пакуль,
Змяняючы аблічча,
Ці паўтарыць мяне,
Варожыць кон.

*Historia magistra vitae —*
*Гісторыя настаўніца жыцця,*
*Яшчэ — бяда,*
*Што ўмее самавіта*
*Падвесці ўсіх самiх да адкрыцця,*
*Што ўсе мы, і здаровыя, і хворыя —*
*Памылка памяці, lapsus memoriae.*

* * *

У дзяжы гісторыі вякі
Пакідаюць на завод рашчыну
Нацыі.
І як бы чужакі
Не хацелі зруйнаваць Айчыну,
Напякуцца ўпарта праснакі
Духу напаміну
І ўспаміну.
Як бы там не каркалі крукі,
Бацька перадасць акраец сыну,
Бо ў дзяжы гісторыі вякі
Пакідаюць на завод рашчыну.

## *БЕЛАРУСЬ НА КРЫЖЫ*

А стараліся дружна і свой і чужы
На здранцвелым, на востракутым
Небу роўную маці распяць на крыжы
І аддаць Беларусь пакутам.

У старэйшых хацелі хадзіць браты,
Выракаліся быць крывічамі.
І суседзі сціскалі ў злосці раты,
Усміхаліся толькі мячамі.

Войны ўсе, бойні ўсе, зрухі ўсе
Беларусь аддавалі катам.
Зноў касе зіхцець у крывавай расе.
Адкляпаў яе ўвішны атам.

Сваякі сатаны гандлявалі душой,
Беларусь распіналі вякамі,
Прабівалі далоні, што пахлі дзяжой,
Не цвікамі,
А мерцвякамі.

Усявышні,
Хоць крошак зор накрышы,
Разгавей беларусу вячэру.
Згінь, крумкач, не кружы,
Беларусь на крыжы
Уваскрэсне ў пакутах за веру.

Як не выдасць Бог,
Не з'ядуць вепрукі.
Толькі вернік надзеяй дужы.

Крошкі зор збяруць у Бога з рукі
Выраі—
Беларусаў душы.

Як там ні варажы,
Што там ні кажы,
Паздзіралі з храмаў крыжы
Вылучэнцы, выжлы, віжы.
І самой апраметнай заложнікі,
Цвеляць д'ябла сп'яна бязбожнікі:
        І вяселле ў нас,
        І ігрышча ў нас,
        Хаваемся мы ў салому,
        Няхай ішчуць нас.

І ў саломе, як зерне,
Знойдуць іх,
Бог сваіх,
Чорт сваіх...

## *ПРАЦЯГ ВЯКОЎ*

На белай кашулі чырвоны пісяг
Ад злосці падступнага меча.
Бел-чырвона-белы балючы сцяг
Склікае на сумнае веча.

На веча,
Дзе ў вечнасці мусім спытаць,
Ці нам заставацца народам,
Ці толькі аб'едкі надзеі спытаць,
І моўкнуць, і глыбіцца ў одум.

Ці нам у агульным застоллі людзей
Паблізу ля покуці сесці,
Ці ціха чакаць, каб які дабрадзей
Наш хлеб не пярэчыў нам есці.

Узвіўся, як крык, на крыжацкіх касцях
І погань кіруе ў прадонне
Бел-чырвона-белы крывіцкі сцяг
У вечным памкненні Пагоні!

## *СПАЧАТКУ*

Вымаюць рабро ў Адама
Не на тое, каб Еву
Стварыць у XX стагоддзі.
Бо Адам не з раю,
А з-пад Чарнобыля,
З Гомельшчыны.
І рабро яшчэ у мясе жывым
Паляць у лабараторыі,
Каб шукаць у неачахлым попеле
Наяўнасць стронцыя.

Чалавецтва ў канцы
Свайго панавання зямнога
Усё пачынае спачатку.
Вяртае Богава.
Богу.

## *ЛЯШЧЫНА ЖЫЦЦЯ*

На трывалай ляшчыне жыцця
У турботлівым шуме лісця
Наліваецца сілай ядро
І трывалее духам нутро.
І звыкаецца да нематы,
Бо галлё пакідаюць браты,
Ападаюць гаротна на дол
Глухавечнасці ў ціхі прыпол.
Бліскавіца адчаю
Арэх
Правярае на святасць,
На грэх...

## *ДВАЦЦАЦЬ ПЯТАГА САКАВІКА*

Дваццаць пятага сакавіка—
Годны дзень
Беларускай Дзяржавы.
Веснаплынных вятроў талака
Пыл з кароны атрэсла іржавы.

Шматавалі нас досыць арлы
І з адной і з дзвума галавамі.
Мы не з нейкай бязроднай імглы,
Нас вякі як сваіх
Гадавалі.

Мы — ратаі святла,
Крывічы,
Верхачы неўміручай Пагоні.
Маладзік сакалом на плячы,
Гартны меч у цвярдое далоні.

Лучыць нашыя мары рака
Бел-чырвона-белага сцяга.
Дваццаць пятага сакавіка—
Наша свята,
Пароль
І прысяга!

## *АПАКАЛІПСІС*

Бог пройдзе басанож Нябесным Поплавам,
Пярун прытоіцца за хмарным тынам.
Планета галаву пасыпле попелам
Радыектыўным...

* * *

Певень першы раз прапяяў,
Змрок параніўся злосцю дзідаў.
Ты спрыяў праяве з праяў,
Ты свайго Каліноўскага выдаў.

І другі раз голас падаў
Певень,
Золаку моцы стала.
Утаропіўся лёс-удаў,
Не ўбярог ты свайго Купалу.

Пракрычаў певень трэці раз,
Забалела святлу на ўсходзе.
Голас твой нематой захрас,
Ты адрокся ад мовы,
Народзе.

Здзірванелі скрылі аралі,
Разагнуўся загнуты полаз.
Ці ўваскрэснеш духам калі,
Ці прыпомніш,
Які быў твой голас?

## *АДКАЗ*

Навошта ў куфрах хавацъ уборы,
Пытае этнограф,
А бабка ў гуморы
Адказвае:
На клады
Мусім накіравацца
У апратцы
Сваёй жа працы,
Каб нас пазналі дзяды...

## *СВЯТЫЯ*

Чарнобыль зрабіў
Нас, беларусаў, святымі.
Бо можам атоесамляцца з тымі
Нябеснымі прыбышамі,
Акрэсленымі ў святым пісанні,—
Апрамененыя,
Святло выпраменьваем самі.
І гэтае аўры святой,
Што світае над усёй Беларуссю—
Над сусветнаю сіратой
Не на адно стагоддзе
Хопіць!

Сапраўды,
Сціпласцю пракавечнай,
Гасціннасцю сардэчнай,
Маўклівай пакорай,
Надзеяй белазорай,
Сваім нашчадным наівам,
Сваім характарам сарамлівым,
Сваёй павагаю да бяды
Святымі
Беларусы былі заўсягды.
З ласкі лёса-айчыма
Раскашуемся рэшткамі,
Сінімі-сінімі
Свет бачым вачыма.

Божа!
Зрабі святых грэшнікамі...

А Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісе чаравічкі купіў,
Каб насіла, каб хварсіла,
Каб абцасікам да гулу
Біла-біла, не разбіла
Шараваную пяском-шчырцом падлогу,
Каб абула
Не ў апошнюю дарогу...

## *ПРА БАЦЬКОЎСТВА*

Яшчэ да пашпартаў і анкетаў
Дзяцей па бацьках называлі:
Базылёў сын — Базылёнак,
Петрачкоў сын — Петрачонак,
Базылёва дачка — Базылішка,
Петрачкова дачка — Петрачышка.
А потым не самі з сабой,
А бяссонным клопатам,
Быццам допытам,
Нябачных хросных бацькоў
Узніклі, каб знікнуць хутчэй
З празарлівых ці пражарлівых вачэй,
Дзеці падкулачнікаў, кулакоў.
Дзеці ворагаў народа,
Дзеці нацдэмаў, здраднікаў,
Як пустазелле тое,
Якое па меры росту палолі.
І толькі апекунам
Вачэй не калолі
Пралетаронкі, актывісцёнкі,
Беднацішкі, пралетарышкі.
Яны савеціліся, бо мецiлiся
У кіраўнічыя шышкі.
Падмяталі дзяцей аднаасобнікаў
З хутароў, як з якіх астравоў.
І вось апошнюю рысу падвёў
Дзетажэрца з чорнымі вантробамі,
Жахліва чуць:
Дзеці Чарнобыля...


4—1427

## *МАНАЛОГ ЗЯМЛІ НА СХІЛЕ ДВУХТЫСЯЧАГОДДЗЯ*

Я нямая, стэралізаваная,
Я забітая хімі-
катамі,
Я асушаная, паралізаваная
Са знявечанымі саванамі,
З сухарэчышчамі сукаватымі.
Я раблюся такой стэрыльнаю —
Ні лічынкі, ні чарвяка.
Нада мной цішыня магільная —
Ані жаўранка, ні крука,
На якім мог адчай павешацца.
Чорны крук
У блакіта ў сцяне
Быў ды выпаў.
І вусцішна мне —
Ні калгасніца,
Ні памешчыца.

## *НА ТЫМ СВЕЦЕ ВУГАЛЬКАМІ*

Гэты сумны жарт
Асвечаны вякамі:
Разбярэмся
На тым свеце вугалькамі...
Паквітаемся з даўгамі,
Разбярэмся,
Толькі трэба
Дроў бярозавых бярэмца.

А сягодня
І на гэтым свеце собіла,
Не гаворачы сякераю
З беразнякамі,
Беларусам
Разабрацца вугалькамі,
Вугалькамі, што з рэактара,
З Чырнобыля...

## *ЯК У КАЗЦЫ*

Казка робіцца явай сёння:
Бабка любая ў зоне,
Тупаць не захацеўшы пехаць,
Можна ў госці ехаць
На печы,
Можна ў космас ляцець
На печы,
Як на ракеце,
І гасцяваць у Сусвеце,
Покуль здароўе трывае.
Бо ад Перуна ў сакрэце
Паліць печку сваю
Радыеактыўнымі дрывамі.
А дзеці і ўнукі
Лахі пад пахі —
І папкі —
І абтрэслі рукі
Ад радыеактыўнай бабкі.
А бабка
Радыё слухае,
Як яно лье з паслугаю
На патэльні маны
Ялей,
Дзе пякуцца абяцанак бліны.
Бабка жыве, як у казцы:
Чым далей, тым страшней.
І яшчэ даплочваюць бабцы
Трыццаць такіх нявінных
Рублёў дамавінных...

## *УШАЦКІЯ ПРЫСМЕРКІ*

У зябкае неба сачу з-пад рукі,
І матчына хата пільнуе з-пад даху,
Калі яна выпусціць зор каташкі,
Галінка вярбовая
Млечнага Шляху.

## *НОВЫЯ СВЯТЦЫ*

Ідзе нацяжку маладзічка.
Яна чакае маладзічка́
Пульхнагубага,
З солодкім азадачкам,
Які цалавацьме
Ціхою хвілінай расчулення.

На колькі вякоў
Яе сваякоў
Слова чарнобыль
Значыла траву жывучую.
Гэта бабка ці прапрабабка
Маладзічкі,
Што нацяжку ідзе,
Спявала,
Цвелячы маладзічка свайго:
*Чарнобыль, чарнобыль —*
*Таўстое былле,*
*Хто мяне не любіць,*
*Гаўно кабылле...*
І святцы ва ўсіх сваякоў
На колькі вякоў
Малым давалі імёны даўнія,
Чутыя і перачутыя
Лесунамі, вадзянікамі, дамавікамі,
Зюзем, Жыжалем, Жыценем, Перуном,—
Імёны наступныя:
Адась, Аўлас, Астас, Аніс, Арсайла,
Бахрым, Базыль, Богша, Баркулаб,
Валадар, Даніла, Канстайла, Курыла,

Лукаш, Лютысь, Майсюк, Мялешка,
Радзім, Пратас, Селівей, Хадаш,
Юльяш, Юстын, Якуб, Язэп, Ясь...
Усім ставала імёнаў адвечных,
Царквою і даўніною асвечаных.

А ў век жахлівы Чарнобыля
Асвечаны хмарамі
Імёны новыя:
Атам, Плутоній, Радзій, Цэзій...

Якую вясёлую пастрыкушку
Свайму жанішку
Заспявае прапраўнучка маладзічкі,
Што ідзе на цяжку?

Якія імёны
Будуць даваць немаўлятам?

Ці хопіць іх, немаўлят,
На ўсе імёны старыя?

Алілуя! —
Гучаць мне з патайных сховін
Абязлюджанага сабора,
Што аглух ад людскога гора,
Як Бетховен...

## *У НАДПРЫПЯЦКІМ ЛЕСЕ*

Прыпяцкія берагі на шалі пясочныя
Паклалі хвалі апошняе веры.
Чарнобылем,
Як і сосны,
Падсочаныя,
Мы чакаем сваёй сякеры...

## *ХТО КАГО ПАКІДАЎ?*

Трымаючы мацней авоську,
Сабе гаворыць, як у сне,
Дзядок:
— Не я пакінуў вёску,
Яна пакінула мяне.

Яна ўцякла за тыя межы,
Што трактар знёс за небакрай,
За тыя сіласныя вежы,
Дзе рай вяшчаў
Варонні грай.

Усіх пакінула за тое,
Што ўсе зняважылі яе.
А пад жалезнаю пятою,
Як пад магільнаю плітою,
Трава ў абразе не ўстае.

Спалілі смаляныя лавы,
Што ўсіх трымалі ля жытла.

«Сыходзіш, вёска, з яснай явы»,—
Сказаў Купала.
І сышла...

## *ЖАЛОБА*

Пасля чарнобыльскае навалы
На Беларусь прыпала
210 — з 300 —
Херасім.
Хапіла ўсім.

Атам
Зрабіў Беларусь удавою.

А ва ўдавы
Не зачыняюцца хлявы,
Павыпушчана ґавяда.
Статак пасвіць бяда.
А ва ўдавы
Някошаныя паплавы
І пожні някошаныя,
Госці запрошаныя
З ласкі бяды.
На Дзяды.

Маўклівы кат
Не мыліць пяткі.

На нашай зямлі
Ці паўторыцца наш працяг?
Ці ў жарстве захаваецца след?
Як стронцый трашчыць
У нашых касцях,
Ці чуе свет?

## *ГУЛЯННЕ ПАД ЧАС БЛАКАДЫ*

Гліняныя званочкі
На лузе брукаваным
Звіняць вясёлым звонам.
Каб не ўцякалі ўпрочкі,
Прывязваюць каханым
І ўсім мужам шалёным.

Дзіцятка, як цялятка,
Звініць-звініць, і мама
Яго ў натоўпе чуе.
Над плынню часу кладка
Яшчэ з вячніц Адама
Дрыжыць,
Бяду вяшчуе.

У Вільні вольна духу.
Сівеюць вежаў скроні.
Плывіце, хмары, міма!
Пакапыціўшы скруху,
На Вострай Браме коні
Лятуць у верш Максіма.

## *КРЫКШТАЙ*[1]

Прасніцы —
Каб пралася прадзіва,
Прадзіва духу прадзедаў,
Каб вякі
Святкавалі сняткі...

Трывалыя куршы лашчылі дрэва,
Якое мусіць збуцьвець
І стаць зямлёю,
Схаваўшыся пад павець
Неба...

Крыжы смялеюць памалу,
Ім трэба
Пасля,
Калі ўчарсцвее зямля,
Закрэсліць паганскі дух,
Каб ён аглух
І аслеп,
Каб замкнуць цэментаваны склеп
Бяспамеццем (яно мацней ад замкоў),
Каб даты імшэлі ад імшы,
Як ад імжы вякоў,
На мяжы
Прывідаў і забыцця...

Толькі снягоў куцця
Зямная
Куршаў дасюль памінае...

---

[1] Прафіліраваныя дошкі з выявай галоў коней, кветак, сілуэтаў людзей.

## *ДЗЯЖУРНЫ ПА ВЕЧНАСЦІ*

У Кітабе —
У горадзе славай старым
Сам космас яму, Звездару, даверыў
Сямейны альбом планетаў,
І ён паказвае здымкі:

Гарачая кропля каметы Галеі...

Завірушыстае ўчасанне
Туманнасці Андрамеды...
Сатурн, як сябра мой
Карлас Шэрман у маладыя гады,
Наведаўшы юрлівак у Трапікана,
Самбрэра па-кавалерску насунуў...

У служкі вечнасці
Маюцца ў сямейным альбоме
Зоркі, якія гараць,
І тыя, якія даўно згарэлі,
Ды жывымі здаюцца
Іхнія пасмяротныя маскі.
І пра ўсіх ён апавядае
З радасцю, з болем, сумам.
І запрашае зірнуць на поўню,
На голы да зіхоткасці чэрап
З праямінамі падозранымі,
Бо па-нябожчыцку халодная поўня —
Светлая будучыня
Нашай планеты?

## *ДЫКТАНТ 30 КАСТРЫЧНІКА 1988 ГОДА*

У сшытку Мінска не месціўся сказ.
Дыктант дыктаваў слёзацечны газ.
Па жывых спраўлялі памінкі,
Чакалі размінкі
Знакі прыпынку —
Дубінкі...

* * *

Адабралі дажджы,
Адабралі снягі,
Адабралі святыя крыніцы,
Адабралі ў цябе, чалавек,
Не багі.
Ты калі гэта ўстаў
Не з тае нагі,
Што дазволіў такому ўчыніцца?

Сам сябе абабраў,
Абакраў, абкарыў
І застаўся, як дрэва сухое:
Над табою абвал,
Пад табою абрыў.
Пыл ляціць
У вятроў з перасохлых грыў.
Вочы сплакалі хмары-ізгоі.

Пачынаеш баяцца ўсяго па чарзе,
Што раджала цябе,
Што спрыяла:
Можа ў неба ўрасці
На таўсматай назе
Грыб не той, што ў загадцы
Стаіць у лазе.
І праявіцца жахам праява.

Вінаваціць каго?
У жабрацтва
Сам сабе
 Дапамог ты сабрацца.

## *ПАМІНАЮ*

На вачах маіх знікла стагоддзе,
У якім дазвалялася есці
Усё азярное, рачное, лясное
І стаяць пад дажджом
З босаю галавою,
Каб крыху падрасці.

На вачах маіх знікла стагоддзе,
У якім не былі гэтак людзі
Апраменены злосцю, манаю,
А хацелі яшчэ спачуваць
І спрыяць падобным да сябе
Пры жыцці.

На вачах маіх знікла стагоддзе,
Дзе называлі па даўніх імёнах
Кожную птушку, травінку, суседку,
Дзе ўмелі душой весяліцца
І апошнім дзяліцца ў бядзе,
Дзе мядзведзь не з музея
Задзіраў на лясіне метку,
І мёд цёк у казачніка
Па вусах і па барадзе.

Добрым словам любой парою
Пры нагодзе
Памінаю добрае старое
Стагоддзе.

## *УСПАМІН З 44-га ГОДА*

Наш гарод зрабіўся бальшаком,
Ім хадзілі ўсе пад нізкім небам.
Пахла зіма халодным малаком
І зрэдку — чорным хлебам...

## *ЗАПОЗНЕНАЯ ПАДЗЯКА ГУТЭНБЕРГУ*

Ушача. Партызаншчына.
Забытая друкарня.
Ніводнае не зашчана
Вакно. Варона каркае.

Вялізнае, зубчатае
Крутнуць бы кола.
Я асцярожна кратаю.
Нікога наўкола.

І кола я кручу,
Смялеючы ў налопе.
Цямнеецца ўваччу.
Я не крычу, маўчу.
Крычыць гузак на лобе.

Зляцела долу кола.
Прызнацца страшна дома.
Што ж, маю лоб не кволы —
Адно ўжо мне вядома.

Варона кар ды кар:
— Падзякуй за навуку.
Ну, раскажы, друкар,
Пабыў у друку?
Яшчэ і ў пераплёт
Патрапіш на праверку.

Кажу праз колькі год
Мой дзякуй Гутэнбергу,

Што даручыў станку
Свайму
Сказаць без груку
Худому хлапчуку
Пра сінякі ў друку.

Дзе ўшацкая зіма,
Той боль і млоснасць?
Цэнзуры як няма,
Ды ёсць галоснасць.
Па прывіду дасюль
Галосіць прэса наша.
Няхай малоцяць куль,
Абы густая каша
У міску чытачу
Натоптвалася тою
Кіроўнаю пятою
Пад шолах кумачу.

Круціся, кола, ўсмак,
Абы чытач не перхаў.

За першы свой гузак
Я ўдзячны Гутэнбергу.

*КОНІ СЫТЫЯ*

Нешта верныя сталінцы
Невясёлыя сёння,
Кожны сцішыўся ў стаенцы.
Прытаміліся коні.

Ён жа з размеркавальніка
Той авёс,
Што ў дыету
Ўведзены —
Ад начальніка
Да сексота —
Дагэтуль.

Дзе аброці каляныя?
Дзе жалезныя цуглі?
Парадняліся кланамі.
Ды заўчасна патухлі

Вочы б а ц ь к і налітыя
Гневам.
Точыць туга.
*Кони сытые бьют копытами.*
*Встретим мы по-сталински врага!*

## *ПАЎСЮЛЬ НАШ КЛОПАТ*

Сёння, пэўна, болей касманаўтаў,
Чым нядаўна ордэнаў у Брэжнева.
Ды жыццё палепшала не надта.
Мы зямлю не ўладкавалі грэшную,

А ўжо маемся рабіць парадак,
Як і дома,
У гасподзе Богавай.
Там бліжэй да манны,
І аладак
Напячэм з нябеснай дужа многа мы!

І накормім той нябеснай маннай,
Як маной пра будучыню светлую,
Жыхароў краіны ашуканай.
Абплакацім шлях у апраметную.

І, вядома, наш арыентыр на
Курс —
Каб мечы сталіся араламі.
Мы за атам і за космас мірны.
Толькі касманаўты — генераламі.

## *МЫ*

Мы не баяліся вучыць вучонага,
Саспелых ідалаў лізалі лізма,
Не шкадавалі колеру чырвонага,
Каб уцвяліць быка капіталізму.

Фанерна гаварылі,
А фанерыны,
Каб шыбу выбітую замяніць
Не мелі.
Фанера ўся —
На лозунгі зняверанывя,
Яны за нас крычалі,
Мы нямелі.

Палацы, цэрквы з босымі галовамі
Стаялі,
Цынк ішоў на труны тыя,
Што небам слалі —
Аж душа халодала —
З перадавой панурыя святыя.

Калі мы ўжо навучымся,
Калі,
Як людзі,
Жыць па-людску на зямлі?

## *І Я*

Я хадзіў дэманстраваць адзінства
У калонах шчыльных, як сцяна,
За сваё шчаслівае дзяцінства
Дзякаваў з відна і да цямна.

Дзякаваў таму,
Хто пыхкаў піпкай,
Быццам крэматорыем ручным.
Густа віўся над усмешкай хліпкай
Лагерных кастроў ахвярны дым.

Маразы змяняліся адлігай,
За адлігай следам — маразы,
Час усё мудрыў над чорнай кнігай
І галіў па-свойму — ў два лязы.

Я лічу,
Шануючы турботы,
Да сівой дажыўшы барады,
Лепей шыць знава
Дыхтоўна боты,
Чым мяняць халявы,
Перады.

## *ДАЗВОЛ*

На час галоснасці
Мы атрымалі дазвол
Галасіць бабрамі па роднай мове.
Няхай лебядой зарастае падзол,
Няхай там народ будзе гол як сакол,
Мы боб сваіх слёз збіраць у прыпол,
Як піянеры, заўжды наўзгатове.

А карта рэспублікі ў плямах,
Нібы
Бруцэлёзная
Прыгнаная з Прусіі па вайне карова.
Ёсць карта,
Дзе нельга збіраць грыбы.
Дзе могуць магілы выпростваць гарбы,
Дзе ўчуем голас
Архангельскае трубы.

Зямля маўчыць,
Як народ, сурова.
Ад радыяцыі
Беларусь гарыць.
Ці будзе, наогул,
Каму гаварыць?

## *ДАНЧЫК*

Ці ўвосень зацвіў святаяннік,
Ці верас замроіўся ўранні?
Выгнаннік-заакіяннік,
Крывіцкае песні даннік
Душу запрасіў на сняданне.

Душа беларуса, снедай
Забытай мелодыяй, верай,
І ў свеце свой покуць ведай,
Покуль ты не стала шэдай
У масе бязмоўна-шэрай.

Званы святое Сафеі,
Што ў «Слове» яшчэ звінелі,
Няміга, што ў смутку ўдавее,
У шчырапарыўнай завеі
Вяльможна наноў запанелі.

І цесна ў самоце адрыне,
Гасцінцу ў бетоннай папрузе.

Звініць і ў расе не стыне
Званочак забыта-сіні
На беларускім лузе...

## *ЗОРКА ШАНЦАВАННЯ І МЯДЗВЕДЗЯ*

*Вальдэмару Калініну*

А яна няйначай блізка недзе,
Пажаданая мне сябрам-цыганом
Зорка шанцавання і мядзведзя.
Можа, гэтая, што над маім вакном,

Калываючыся, праплывае,
Вырваўшыся ў беглай хмаркі з-пад крыса,
І здаецца мне, на ёй жывая
Зіхаціць з лугоў Ушаччыны раса.

Млечны Шлях
Ці шлях Мядзведжы, можа —
Аж дагэтуль касалапыя сляды.
Сябра цыгана пашчасці, Божа,
Ад уроцаў дай, лясун, яму вады.

Ды няхай бяда яго аб'едзе
На падкутым на дагледжаным кані.
Зорка шанцавання і мядзведзя,
І яго ты як свайго не абміні!

Я таксама сябру пажадаю
Ад раллі, ад ярыны, ад даўніны:
Хай яму, як доля маладая,
Свеціць зорка бараны і баразны!

* * *

Навальніца хацела скрывіцца,
Ды пазяхнула ў такой журбе,
Аж вывіхнула сабе
Сківіцу бліскавіцы.

## *ВЕСТКА*

Ападышам са дна каша
У фортку птушка заляцела.
Ці гэта нейчая душа
Мяне наведаць захацела?

Я на начлег яе прашу,
Прытулак птушцы прапаную.
Малю не гневацца душу
І цішыню душы пільную.

А можа, гэта боскі знак,
А можа, навіна благая,
Якая ў непамысных снах
Мой дзеяслоў жыцця спрагае,
А, праспрагаўшы, запрагае
У воз мой лёс,
Нібы каня,
І конь вязе дарогай дня.
Мяне па ўхабах, па выбоях,
І неяк мне шкада абодвух,
І воз і лёс.

Няхай крыло
Птушынае
Заслоніць зло!

Ці страх праверыў заадно,
Я пад мяхамі год ці гнуся.
Я з асцярогаю цягнуся
Да весткі —
Знікла праз вакно.

## *ПЕРАКЛАДАЮЧЫ БАРЫСА ПАСТАРНАКА*

З багавейнай бояззю, са смакам
Падбіраю вобмацкам радкі,
Гутару з Барысам Пастарнакам,
Зябкі мост будую ўздоўж ракі.

Салавей-разбойнік словагаю
Аглушае, запрашае — і
Немагчымасцю дапамагае
Посах угадаць у пугаўі.

Колькі б у туман ні гналі вы іх,
Пазнаюцца чоўны па стырнах.
Ступняў пяцістопных ямбаў вывіх
Адчуваў шалёны Пастарнак.

Ён над вершам панам запануе,
Бо радкі складаліся наўзрыдзь.
Я Паэту ціха прапаную
Беларускай мовай гаварыць.

## *РЫМСКІ ЭЦЮД*

Тут рухнула вечнасць.
Як вечны дакор,
З прадоння,
З яміны цягнецца
                        Форум.
Застыгла ўсё.
Ці прайшоўся віхор
Мармурова-халодным борам.

Нібы чарцянятка, з-пад караня
Пякельнага дрэва,
Што спеліць самоту,
Дзярэцца чорнае кацяня
Па змроку балючым
Калючага дроту...

## *МАГЧЫМА...*

*Памяці Яўгеніі Янішчыц*

Здаецца, пеўні закукарэкалі...
Нібыта вочы выслезіў дым...
І запытаемся ў забыцці:
— Магчыма, мы сустракаліся некалі
У тым
Забытым зямным жыцці.
У тым.

## *СУМНЫ ВЫВАД*

Ходзіць ісціна з кульбай пад пахаю,
А лянота ляжыць калодаю.
Чалавецтва —
Суцэльная мафія
У зацятай вайне з прыродаю.

## *ФІЛОСАФ*

Са шпорамі, а басанож
Бярэ з налёту крэпасці.
Ў вялізнай кучы
Хоча ўсё ж
Да ісціны дагрэбціся.

Свет на дасвецці будзіць ён,
Свой род вядзе з асветнікаў.
Чуваць далёка шпораў звон —
Ідзе
Філосаф сметнікаў.

Крычыць,
Аж б'ецца блін аб блін,
Прыроду ўдасканальвае.
Зноў
Зерне ён знайшоў
Адзін
Рацыянальнае.


5—1427

## *СТОП-КРАН*

Наіўны час той растаў і знік,
Як з вечаровай кудзеляй прасніцы.
Каб закаханасці запыніць цягнік,
Я тузаў стоп-кран
Касы аднакласніцы.

* * *

Крохкі кубак зімаў маладых,
Дзе глыток вады крынічна-колкі,
Крахнуў долу,
Як адчаю ўздых,—
Падбіраю цурачкі, асколкі.

Склеіць кубак той
І ўжо не той
Маю невялікую надзею,
Толькі не з крынічнаю вадой —
Талая памалу халадзее.

Надгубіць хачу тае вады,
Што напомніць,
Дзе жыла крыніца,
Каб сляды слаты,
Хаду бяды
Змусілі на момант запыніцца.

* * *

Да году год,
Да бяды бяда
Збіраюцца ў гурт адзіны.
І светлай і шарай гадзіны,
І кожнай пыліны з быліны
Мінулых часін
Шкада.

Шкада,
Што стала цяжкой хада,
Якая намеры мела
Дайсці да ісціны смела.
Шкада,
Што знікла з крыніц вада,
Адкуль напіцца душа хацела,
Але душу задушыла цела.

Шкада,
Што выпаў падлётак з гнязда,
Якому ўзляцець карцела,
А сцежка ў неба круцела.

Шкада,
Што засталася жуда
Адной гаспадыняй надзелу,
Дзе чорная ноч падаўжэла
І з торбай прыйшла
Каляда.

## СТРАХ

Мае памылкі
І грахі мае,
Рахунак,
Дзе растуць працэнты доўгу.
Я ў дзверы лёсу
Грукаю падоўгу,
І сорамам,
Як варам, абдае
Мяне ўсяго,
Мая дачка,
Бо ты
Адна ў мяне—
Мой шал,
Мой боль,
Мой нораў,—
Каб толькі злыя духі
З цёмных нораў—
Баюся —
Не знайшлі тваёй вярсты.

* * *

*Радзіславу Лапушыну*

І чысціня і глыбіня
Павінны мецъ душу і вочы,
Каб крыўдаў выслеплых гайня
Сурочыць не магла аднойчы.

Каб зло ў душу не запаўзло,
Каб позірк зайздрасць не прыцьміла,
Каб хцівасць не звіла кубло,
Каб чорная знічэла сіла.

Здрабнела перад дабрынёй,
Перад пяшчотай спалатнела,
Каб над душой чужой раднёй
Разгубленасць не груганела.

Нябёс амытых вышыня
Над імі вечнымі дваімі.

І чысціня і глыбіня
З вачыма і душой тваімі.

## *ПАГАСЦІНЫ*

Я ў гасцях,
Ён бліжэй штогод,
Дзень,
Калі я надзею маю
Зноў сустрэць, як некалі,
Маму:
З вуліцы
Пабягу ў гарод.

Мне штогод
У гасцях саладзей
Мёд цягнуць,
І хмялець паволі,
І тужыць па згубленай волі,
І раднець да чужых людзей.

Прывяла мама ў госці мяне,
Не сказала,
Калі дадому
Мне вяртацца будзе самому,
Прысмеркам
Ці як ноч міне.

У гасцях я,
Нібы ў бары
З сыраежкамі,
Баравікамі,
Не спяшацца дамоў прывыкаю,
Хоць вялікі дзень на двары.

Дні гатоў аддаць у расцяг,
Ды ў абрыў пазірае строма.
Ці спаткаемся там,
Як дома,
Невядома мне тут,
У гасцях.

## *УСПАМІН ПРА ВОСТРАЎ МУГУ*

На пенсіі чаўны
І стрэхі чаратовыя.
Век чалавечы і ў чаўноў і ў стрэх.
І валуны сцяны
Ад небыцця ўратоўвае
Няспешны астраўнога часу бег.

Па самы далягляд —
Яленец верацёнамі,
Якія выскачылі з рук бабуль,
Што з леташніх каляд
Прадуць кудзелю цёмную
На ніткі зрэбных ліўневых кашуль.

Саскочыць са страхі
У дрэўцаў мала смеласці.
Прабіў вушак прабой — двухдзюбы грак.
Пакуль яшчэ сухі,
Гатоў да ашалеласці
За сонцам на руках ісці вятраж.

* * *

Загон сваіх дужых дзён
Сярпом разгубленым дажынаю.
Мая саломіна аржаная,
Ты казытнула мой сон.

У прыцемак пад страху
Чакання ластаўка залятае.
Мая саломінка залатая,
Прашу, падрыжы крыху.

Дням незатульна ў капе.
Іржышча зябка раса ўпікае.
Мая саломінка хрупаткая,
Хапаюся за цябе...

* * *

Паслі мяне
Бяда і шчасце
Ў чатыры вокі.
Пашлі мне
З раніцай прычасце,
Ўладар высокі!
Пасля мяне
Якое масці
Тваё аблокі
Захочуць ліўнямі
Апасці
На сон далёкі?

* * *

Застаецца меней дамоў,
Дзе сяброў галасы жывыя
Рупяцца,
Дзе жывыя сябры.
Толькі болей сяброў дамоў
Падалося навечна,
А тыя,
Што да гэтай пары
Засталіся,
Чакаюць чаргі,
І над імі яшчэ кругі
Разыходзяцца,
Як са дна
Вечнасці,
Што сумуе адна.
І на могільніках нямых
Ты сяброў па жыццю наведваеш,
І таго нават сам не ведаеш,
Што на міг
Прывыкаеш каля
Камянёў і крыжоў
Да будучага жылля,
А думаеш,
Проста ў госці прыйшоў.

## *АСІМЕТРЫЧНАЕ*

...Лісце густое.
Сытыя гронкі.
Восень шчодрая на скразнякі.
Двух берагоў шурпатыя тронкі
Прыцьмілі лязо ракі.

...Сівярэе змрок туманковы,
Густы — не паварушыць.
Лісце вераб'ёў гаманкое
Дрыжыць і жыгае:
Жыць-жыць!

...Восень галутай.
Лісце як госці.
Толькі трымалася
Вера б і
Не абляцелі з рабіны мілосці
Слоў маіх вераб'і...

## *СІНІ СОН*

Авечак душныя каралі
У гор на шорсткай гарлавіне
У сне вятры перабіралі
І снілі сон свой
Сіні-сіні.

Сон сіні снілі
Пастаралі,
Што заблудзіліся ў даліне,
І рэчкі сінія,
Што бралі
Разбег збялелы на вяршыні.

Нібы ружанец на каране,
Ляжалі ў гор на гарлавіне
Авечак душныя каралі,
Аблудныя дакор лавілі.

Прызналі свой захмарны выган
Авечак душныя каралі,
І кожны паварот і выгін
Рачулак шыі паўтаралі.

Авечак душныя каралі
Вятры перабіралі смела.
Сінечу ў неба горы кралі,
І ціха сон-трава сінела...

## *МАМЕ НА ВАСЬМІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ*

Ты стала зямлёй,
А твае гады
Ідуць без цябе па зямлі.
Ідуць гады,
А твае сляды
З зямлі халады змялі.

Ідуць з маімі твае гады.
Дзе твае, дзе мае?
Калі
Замоўкнуць,
Прыстануць гады ад хады?
Не дазнаемся,
Як ні малі
Усявышняга —
Ён малады заўсягды
І стары,
Як скрыль араллі.

Жыву, каб чуць,
Як твае гады
З маімі ідуць па зямлі.

* * *

За дабро не серабром,
Не зялёнай меддзю,
Плоцяць за дабро дабром
У чатыры рэдзі.

Золата і серабро
Падуладны праху.
Ты дабро, нібы рабро,
Выламі без страху!

## *ПАСПЕЦЬ*

Паспець усё зрабіць і ў час сысці,
Не затрымаўшыся ні на хвіліну,
І ціха легчы ў жаўтапес ці ў гліну,
Такое розніцы, як і ў жыцці:
Ці з голаду глытаць пажадна сліну,
Ці смелай лыжкай боўтацца ў гусці.
Хай вока бачыць голую галіну,
А памяць помніць крону ўсю ў лісці.
Убачыўшы спакойную даліну,
Брысці, як ціхі човен у трысці.
І глыбіня глыбей сваю цярліну
Спяшаецца схаваць у забыцці.
Няма жыццю ні сну ані супыну.

## *ІЛОНЕ НА ПЯТАЕ ЛІПЕНЯ*

Жыццём жыццё працягваючы ў свеце,
Ты паўтарыла парастак святла.
У ліпеньскае зыбкае дасвецце
Ты да цяпла пяшчоты дадала.

І першы плач,
І першае памкненне.
Атаву смутку радасць даскубе.
І ты ў люстэрку вечнасці — ў імгненне —
Убачыла наступную сябе.

## *НА ЗАРУЧЫНЫ*

Спачатку,
Як дзядзька вясковы,
Які асцярожна ступае
На вымытую падлогу
Тым ботам,
Што меў канкрэтна размовы
З самім балотам,
А потым
Пакліча суседа сабе на падмогу
І, пяршак запіўшы кампотам,
Зацягвае песню ціхую,
Аж у хаце газоўка радасці ўспыхвае
І залівае святлом
Бяседу ўсю за сталом,
І тады, сапраўды,
Ходзіць хата,
Ходзіць дол,
Ходзіць хадуном падол.
Некаму вясёла праз край,
Нехта ахціх,
Нехта гамоніць.
Гэта ў суботні трамвай
Зайшоў вясковы гармонік.
І трамвай, як на колах хата,
Спяшаецца на заручыны.
І падрастае дзень,
І адпаведна ягоны цень
Журліва-гаркотна засмучаны.

## *СВАЯЧКІ*

Аплываюць у свечак пальцы
У бяспалую куксу апалую.
Свечкі, ўдзячныя цемраборцу агню,
Хацелі годна
Подых ягоны
Узвысіць у чысціню
Пальцамі голымі,
Але нашча згарэлі ў полымі.
Свечкі —
Сваячкі святла
У бажбе
Самі спальваюць сябе
Датла.

## *УЗРОСТ*

Як шкляр,
Узрост стараецца хутчэй
Прыцемнена-прытушанай слюдою
Зашкліць
Усё прынадна маладое—
Далей ад рук,
Ад вуснаў, ад вачэй!

Драпежна пазірай на маладых,
Успамінай нядаўнюю адвагу,
Бо ты жывеш,
Нібыта ў саркафагу.
Яшчэ з табой
Нахабны сябра — ўздых.

* * *

Чарга не спыняецца ў гэтым жыцці:
Прыходзім на свет, каб з яго ж адысці,
А следам наступнікі прыйдуць за намі,
Каб некалі ў нейкім інакшым быцці
Сустрэцца зямнымі забытымі снамі.

## *РЫГОР БЯРОЗКІН*

З пасмаю дыму ад папяроскі,
Заламанай па-кавалерску за вухам,
Дыміўся кратэрам
Рыгор Бярозкін—
Кволы здароўем, дужы духам.

Турмы, лагеры, фронт, уцёкі
Прайшоў з усмешкай нялёгкай
Смела.
Ён чуў здалёку Паэзіі крокі,
Якая яшчэ і хадзіць не ўмела.

Сябры яго звалі вясёла
Рэбэ.
Настаўнік быў сам
Да навукі ахвочы.
Дасюль глядзяць мне ў душу,
Як неба,
Ягоныя вечныя, біблейскія вочы.

## *ПЫТАННЕ*

Я запытаў сваю душу:
— Ці чуеш, як табе хлушу?
І мне ўсміхнулася душа:
— Адкажа за мяне імша...

## *САКАВІЦКІ СОН*

Бог прысніў Кабзара якраз
І прамовіў прачула:
— Сыне,
Украіна датуль не загіне,
Покуль жыцьме там
Дух твой,
Тарас...
Недзе ў сакавіку
Па вясне
Сон пра сон той
Прымроіўся мне.
За яго не карай мяне,
Божа,
Хай твой сон
Украіне паможа!

## *КЫЗ КУМАЙ!*

Кыз кумай,
кыз кумай,
кыз кумай —
На кані дагані дзяўчыну.
Еш салому, фасон трымай.
Быць усё мусіць чын па чыну.

Кыз кумай —
як прыцмок бізуна.
Паскакала адна дзяўчына,
Як танюткая лазіна,
Быццам са смаляка лучына.

Выгінаецца ўся й гарыць
І наўзмаш бізуном сцябае.
Пацалункам яе скарыць
Цельпуку надзея слабая.

Кпіць па часе вясёлы час,
Бізуном перапсюрыўшы спіну,
І, кіруючы ў дамавіну,
Цвеліць палам кожнага з нас:
Дагані, дагані дзяўчыну...

## ІДЫЛІЯ

*Віталю Батлагу*

Сціхлая жнівеньская
Ноч у засмяглай Малдове.
Аваднямі з каня
Валяцца znічкі доле.

Маці над возам пустым.
Спіць на зямлі жарабятка.
Крадзецца мякка паўз тын
Цень ад ляшчыны гарбаты.

Маці цягнуць свой воз,
Біць камяні капытамі.
Вырасце малакасос
І палыну паспытае.

Будзе ламацца спіц
Сонечная саломка.
Ну, а пакуль
Хай спіць
Будучы конь салодка!

* * *

Думаеш, часта сустрэнешся там
З тым, каго табе тут не хапае.
Гэта зямная надзея сляпая
Перадаецца апошнім гада́м.

Там ад душы пагаворыць душа
З душамі тымі,
Бо тут як нямая.
Гэта спадзеўка адчай сунімае.
Ходзіць сухімі імхамі імша.

Ды забываешся, вязень пакут,
Ворағ,
Магчыма, ўжо болей не люты,
Там напаткае цябе,
І таму ты
Просіш, каб лёс затрымаў цябе
Тут.

* * *

Старэю ў горадзе,
Затрымаўся ў гасцях
Са згоды горада
Ці з ласкі боскай.
Пясок хрумсціць у мяне ў касцях,
І нашчуся, і разгаўляюся вёскай.

Вёскай, якое даўно няма,
Што сеяла над вадою гурочкі
І палівала слязою.
Сама
Пайшла памаленьку
З кавенькай упрочкі.

Гэтай вёскай
Нашчуся і разгаўляюся,
У ёй, як у торбе сабака,
Я разгуляюся.

У века на свечкі не хопіць воску
Аплакаць слязамі гарачымі вёску.

## *ЛЯВОН БАРАЗНА*

Лявон Баразна,
Як грыбы грыбнік,
Збіраў беларускія ўзоры, строі.
Цягнуў адзін,
Бо быў каraннік,
Знаходак воз
У добрым настроі.

Лявон Баразна
Маляваў старых,
Бо адчуваў, што ніколі
Старым не будзе,
І кожны штрых
Жыў на палотнах ягоных
На волі.

Лявон Баразна
Піў чарку да дна
З паненкамі на закуску,
Рабіў дацямна,
Любіў давідна —
Па-беларуску!

Захавала
Лявонава баразна
След босы Скарынаў,
Крыўда ва ўсіх на Лявона
Адна,
Што рана
Сваю Беларусь пакінуў.

## *СЕЛЬСКІЯ ІНТЭЛІГЕНТЫ*

Парадзелі, як і лясы,
Сельскія інтэлігенты
Вінцукі, Дамэнты, Тарэнты.

Ад дажджоў, сівяроў, ад расы
Выліналі капелюшы,
Аблавушкі, плашчы і твары.

Не аглухлі іх душы ў глушы,
Не ўдзічэлі вачэй абшары,
Дзе цвітуць яшчэ васількі,
Не ўрачоныя брудам і цудам.

Важка рухаюцца камлюкі,
Абчасаныя клопату склюдам,
Абшарпаныя сквапнай бядой,
Як і партфелі іхнія,
Інтэлігенты.

На пражытак хапае рэнты
З сотак, з лесу, з каровы худой.

Да аблочыстага Кастуся,
Да прарочыстага Максіма
Дацягнуцца амаль магчыма.
Ды вішчыць у хляўку парася,
Ды сквірчыць саланіны пасок
На пузатай патэльні ўранні.

Пот і слёзы, світанне-змярканне
Паглынае штодзённы пясок...

## *ЯБЛЫНЯ*

*Сяргею Навумчыку*

На нажах скразнякоў азяблая,
Змоўклая ў крывавай расе,
Беларусь —
Адзічэлая яблыня,
Хто ні едзе — цябе трасе.

Карані твае лезуць з пекла ўсе,
Чужакі паламалі сукі.
У куродыме завязь спеклася,
Долу валяцца гарчакі.

Сад славяншчыны здрадай збэшчаны,
Што ні ствол — скалелы шкілет.
Ад Смаленшчыны аж да Брэстчыны
Цвет ляціць
На капытны след.

Болем
Карта кары палаплена.
Час тваіх не шкадуе меж.
Беларусь —
Незасохлая яблыня,
У атожылках ці адрасцеш?

* * *

А жалезныя хлопчыкі
Не такія жалезныя,
Два прытопчыкі,
Два прыхлопчыкі —
І яны ўжо залежныя

Ад заказанай музыкі,
Ды не імі аплочанай.
Шлях напрост дужа вузенькі,
Лепей вольнай узбочынай.

Ім ці з белаю гвардыяй,
А ці з чорнаю сотняю.
Незнаёмы з пагардаю,
Родныя з падваротняю.

Перад выпрабаваннямі
Усёй гайнёю трымаюцца,
Кулясорамунепрабіваемыя
І ў металалом не прымаюцца.

Ах, жалезныя хлопчыкі,
Вы, як джынсы, практычныя.
З сталі лобчыкі,
З медзі копчыкі,
А мазгі —
Сінтэтычныя!


6—1427

## *НОШКА*

Паўсюль яны родныя і свае,
І варта мне іхнія ўспомніць
Імёны паволі —
З гатэля, з кавярні
І з халаднаватага слова фаэ,
Нібыта з сенцаў,
Выходжу ў поле.

Шнітка,
Міжыпарніца,
Свінакроп —
Знаёмыя травы,
Яшчэ незабудкі
Я помню ў канавах,
Ды лепш ад хвароб
(Ад якіх, я забыўся)
Катовы мудкі.

Яны з сінізною
Ці з сівізной,
Пра гэта дакладней
Сказала б кошка,
Што позіркам
Прыцемак паліць вясной.

Духмяныя травы —
Пахучая ношка
І лёгкая,
Памяці несці яе
 Няцяжка

У роспачы, ў смутку, ў надзеі.
О, дзякуй вам, продкі,
Мае дабрадзеі,
За ношку,
Што памяці моцы дае.

## *НА ПРЫСЛОНКУ*

Садзіцца сонца за камяніцы.
Астывае асфальт нагрэты.
Неўзабаве цені
Павыпрастаць спіны захочуць.
Як некалі куры іхнія на куросадзі,
На лаве ўкапанай кабеты
Аціхаючы, крокчуць, кудакчуць, сакочуць.
Зусім жа нядаўна, зусім
Падахвоціць кудахтанне куркі,
Грэючыся ля пячуркі,
Хацелася, нецярпелася ім,
Як гэтым, што ў вазочках едуць,
Няўседам малым:
— Куд-кудак, куд-кудак,
Яечка з кулак!..
Гора пілі і нагбом і каўшом,
Радасць наведалі,
Смуткам абедалі.
Не з барышом
Развітваюцца жыццялюбіцы —
З кірмашом.
Грэюцца на апошнім седале...

## *КАЛІ?*

І сам не заўважыш ты,
Калі разменяў-такі
Кахання свайго залаты
На марныя медзякі.

І будзеш жыць драбязой,
Здымаць чужыя куты,
Расу называць слязой
І пушчай густой кусты.

Застаўшыся далуках,
У неба працягнеш ксты.
І пойдзе хадзіць па руках
Даверу твайго залаты.

## *ПРЫВЫКАЮ*

Яна прыліпла да ўспаміна
(І ўжо здаецца залатою),
Як калісь да падэшвы
Гліна,
Расчуленая ўшчэнт слатою.

Густой начы глухая сажа
Чарнелася і нелюдзела.
Мяне тады чакала Саша
З ушацкага райфінаддзелу.

На ўзгорку,
Што насупраць пошты,
Ля хаты гліны да адвалу.
Пра хату ўспомніў я навошта?
Ды Саша там кватаравала!

Там гліну я мясіў сярдзіта
І ў хісткай цемры марыў хістка.
І цалавала ў лік крэдыту
Мяне ля хаты фінансістка.

Нярaз пасля гаршкі на гліну
Мяняў,
Стаяў над чарапкамі.
Цяпер гляджу ўспаміну ў спіну,
Да дзён мінулых прывыкаю.

* * *

А цяпер мне і падумаць дзіка,
Што цябе калісьці не было,—
Добры дзень,
Унучка Дамініка —
Воч маіх апошняе святло.

Радуюся ўсмешцы, плачу, крыку,
Тытулу шаноўнейшаму — дзед.
І малюся: ўнучку Дамініку
І пасля мяне не ўкрыўдзі, свет!

Ланцугу жыцця хапае звенняў
Звычкі навязаць,
Каб не ўцяклі.
Змена прозвішчаў і пакаленняў,
Перамена месцаў на зямлі.

* * *

Тралейбус прыстоіў
Ля каштаноў на скрыжаванні.
І каштан кулачком калючым
Грукнуў у дах тралейбусу.
Некалі на скразняковых палутарках
Ездзіць часта даводзілася
І, каб папрасіць шафёра спыніцца,
Трэба было малаціць кулаччом
Па драўляным дашку кабінкі.
Дык, можа, гэта з каштаноў нехта
Захацеў тралейбус спыніць,
Каб паехаць туды,
Дзе цёпла і дзе зялёна,
Каб уцячы з голай восені.
А раптам нехта з маіх сяброў
Паспеў каштаном сукаватым вырасці
І захацеў са мной у тралейбусе разам
Праехацца ў маладую,
Захмялелую восень,
Як некалі.
А як зразумеў намер каштана
Тралейбуснік?

## *ПА ЧАСЕ*

*Барысу Бур'яну*

Гады маладыя — сама багадаць,
І кожны сустрэчны пры добрым імі.
І хочацца ўсіх пераймаць, абдымаць
І шчабятаць з усімі.

І спаць салодка ў снягах, быльнягах.
У шчасця душа не скупая.
Сяброў палічыць
На руках, на нагах
Пальцаў ніяк не хапае.

Вяртаешся з кірмаша нацянькі
І моліш, каб ліха драмала,
Хапае пальцаў адной рукі
Пералічыць памалу,

З кім хочаш сустрэцца,
Гаворку пачаць,
А з кім —
Памаркоціцца і памаўчаць...

* * *

І раптам прыходзіць канец
І кажа:
— Пара! Запыніся!
Ты ўвесь заінеў, як сівец,
Што любіць туліцца панізе
Вясёлай даліны жыцця,
Дзе косяць траву маладую.
І сам сябе да забыцця
Шкадую, шкадую, шкадую.
І веру сваёй жа мане,
Выкручваюся па-вужачы:
Не дойдзе каса да мяне
І нойдзе на камень ляжачы.
Не звыкшы нікога вініць,
Пракос незакончаны скосіць,
Халодна каса зазвініць —
І скосіць...

* * *

У невядомасць галаву высоўваю
І мітуслівамy жыццю кажу:
Паклон і дзякуй
За жытло часовае,
І за бязмежжа ўсё,
І за мяжу,
Якую перайсці не будзе дадзена
Ні мне,
Ні ценю хісткаму майму
На бераг смерці і жыцця,
Таму
Чуваць, як немач палі падпілоўвае,
Каб дробных клопатаў атрэсці тлю.
Апоры сукаватыя, яловыя,
Хоць, можа, вечным сном
Свой сум прысплю.

## *УСПАМІН ПРА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА*

Пад час свайго зямнога вандравання
Ты не любіў дакладнасці адной:
Дзе нарадзіўся.
Вечнасць тая пані,
Што стане да пакутніка спіной

І ўсе яму паказвае разлогі,
Дзе спіць сабе
Гадоў наступных гром.
Ты нарадзіўся там,
Дзе ўсе дарогі
Сышліся,
Каб абнашчыцца Дняпром.

Ты весела сцвярджаў —
Іван Кабыла,
З якога дом Раманавых пайшоў,
Быў конюхам у дзеда люба-міла.
Твая радня царам чалом не біла,
Пагоняй гнала,
Біла прыбышоў.

Ты верны рыцар
Слоў крывіцкіх, гойных,
Якія не загубяцца нідзе.
Твой цень відушчы
Па забытых гонях
Ідзе
І за сабой сляпых вядзе.

* * *

Смачна зяхае печка
і засланяе рот
(з языком агнявістым
і зубамі бярозавымі)
чорнаю даланёю засланкі.
Толькі згадаю —
і захочацца цёплага хлеба
за прамяцінамі
пальцаў аеравых...

## *ПАМЯЦІ РОДНАГА СЯБРА*

На пакутнай зямлі
Анатоль,
Аляксандраў сын,
Анікейчык,
Ты не слухаў падказак нейчых,
Чуў чужы
І не чуў свой боль.

Ты за іншых, за ўсіх хварэў,
За смаўжоў,
За сляпых караедаў.
А маланка цаляе,
Ведаў,
У вяршаліны годных дрэў.

Сорак пяты запомніў ты.
Трыццаць сёмы падмёў палаці,
Нянькай наскае мовы
Маці
Вочы сплакала да слепаты.

Здолеў проціставіць парыў
Паслужэнству і паслушэнству,
Па свайму вобразу і шаленству
Ты вякі для вякоў паўтарыў.

Беларускі край у журбе.
А на ўсіх твайго сэрца хапала —
Караткевіч,
Машэраў,
Купала.
 Не хапіла цябе на сябе...

## *ЛЕС ІГАРА ШКЛЯРЭЎСКАГА*

Зямлі бацькоў лясамі пакланіцца,
Над Прыпяццю шумець,
Прасіць лясы,
Каб даланісты ліст,
Як сталяніца,
Трымаў з трымценнем
Каравай расы.

Заўчасна
Па зямлі не спешыць месу,
Адчуць дыханне краю,
Як сваё.
Вярнуць пазыку
І аддзячыць лесу
За зруб, за дровы
І за вудаўё.

Лес не прадасць,
Не выдасць у бядзе,
Бо з караня
Зялёны род вядзе.

## *ДЗЯЎЧАТЫ З МАЛАДОЙ ПАРЫ*

Дзяўчаты з маладой пары,
Дзе вашы станы, вашы рукі,
Дзе спадкаемцы скрухі — рухі,
Што маладзілі дол стары?

Вы тут, а я вас бачу там,
Дзе вы былыя, маладыя,
Сваёй нясмеласцю худыя,
Непадуладныя гадам.

Мне вашы з даўніх вечароў
У непадробленым суроку
Ўсплываюць позіркі здалёку,
Нібы кругі са дна віроў.

* * *

Лепшай на зямлі й на небясі,
Одумнай, парыўнай, рызыкоўнай,
Радуйся і затрымацца папрасі
У цябе законнаю князёўнай.

## *АБЛІЧЧА ТВАЙГО СЛАНЕЧНІК*

Калі маладзік-зарэчнік
Знік за начной спіной,
Абліччa твайго сланечнік
Засвітаў нада мной.

Настрой мой — сумны паплечнік
Трызніць даўняй вясной.
Абліччa твайго сланечнік
Нада мной,
Нада мной,
Нада мной.

І там,
На Сцяжынах Млечных,
Дзе ява стане маной,
Абліччa твайго сланечнік
Схіліцца нада мной...

# *Лінія рамяства*

## *КРУЖАЛА*

Быў я таптан,
Быў я капан,
Быў [redacted] на кружале,
І быў на базары.
Як жыў быў,
Сям'ю карміў,
Як памёр —
Выкінулі вон.
Сабакі касцей не ядуць.

*(ушацкая загадка пра збан)*

Зварушыць запавет
Маладзічок быліны.
Ляпіць нанова свет
Прыемна
З цёплай гліны.

Яшчэ святла стае,
Кружала не прыстала.
І формы ўсе свае
Свет набывае стала.

Як Саваоф,
Шэсць дзён
Ганчар тварбой заняты.
Сняць сакавіты сон
Авечкі, казляняты.

І жваку жвуць валы.
 І папугай без клеткі.

І свет яшчэ малы
І ўжо вялікі гэткі.

Какосаў чарапы
Прабіла смагі джала.
Адчай яшчэ сляпы
І ўвішнае кружала.

Плыве ахвярны дым
І ў Дэлі, і ў Мадрасе.
І ўсё, нібы ў былым,
І ўсё ў магчымым часе.

## *БАМБЕЙ*

Каплічка каля берага.
Клады.
Пад час прыліву
Паўтарыўшы мукі,
Крыжы, як тыя здані,
З-пад вады
Крычаць ратунку,
Распасцершы рукі.

Няма надзеі на нябесны дах.
Адзін нязменлівы
Настрой журлівы.
І тут свае турботы,
На кладах,
Як і ў жыцці.
 Адлівы і прылівы...

## *НА ЎСКРАІНЕ ДЭЛІ*

Валацугі і жабракі
Грэюцца, як на пяколку,
На парэпанай цвердзі.
Тут папрасіць з рукі.
Тут зябка драмаць на золку.
Тут блізка да смерці.

Жабракамі на свет усе
Мы прыйшлі, і яго мы
Пакідаема жабракамі.
Паднясе нам ці абнясе
Нас занядбаных лёс невядомы,
Крыўдзімся, наракаем.

Уцякач-небасхіл прылёг
Грэцца ў свеце яшчэ неастылым,
Напамін у ягоным паглядзе:
Мы — ўсяго толькі прах тых ног,
Што прайшлі тут і сталі пылам.
Пыл падымецца, пыл асядзе.

## *ПАД'ЯЗДЖАЮЧЫ ДА АГРЫ*

Моліцца небу арба
Пальцамі растапыранымі.
Козы, каровы, дзецi
Разам усе як адна сям'я.
І ўсё разам — нібыта
З ветхага запавету
 Забляяла, замычэла, заплакала.

Здаецца, людства яшчэ маладое
І не было ні патопу,
Ні войнаў сусветных,
Ні чарана Чарнобыля.
І вера яшчэ маладая,
Як гэта дзяўчынка,
Што прасявае снядание праз сіта,
А ў сіта паспеў заляцець
Верабей вясковы.

Але, напэўна, седзячы ў сіце,
Яму захацелася ў горад —
У сіці,
Дзе ўжо чырыкаць будзе:
— Чынч-чынч.
А калі яго пыльнуць
Па-гарадскому груба,
Па-вясковаму пацікавіцца:
— Чым-чым?
Чым яго пыльнулі,
Чым ён правініўся.

Хлеб-соль табе, раніца —
Вясковая старанніца!

## *АРМЯНСКАЯ ЦАРКВА Ў МАДРАСЕ*

Стаптаны, як парог,
Стары святар,
А паства падалася ўся ў Аўстралію.
Храм звекавечыць дойліды стараліся.
На сцены голыя глядзіць алтар.
Самота свой не захінае твар.

Святар гаворыць,
Што нікуды ён
Адсюль не з'едзе,
Тут з касой шчарбатую
Сустрэне,
Тут сабе грудок сасватае.
Разрабаваны двух стагоддзяў плён.
Магільных пліт
Яшчэ спакойны сон.

Святар на развітанне б'е ў званы.
І чуліцца жалобная мелодыя.
Самлела спёка,
А душа халодае,
Нібы званы адлітыя з віны
Чуць водзван прагнуць
З горнай стараны.

Боль, як на раны соль,
Кладзе рука
Пра землятрус...
Хоць не сачы за прэсаю!
Там, пад абваламі, руку парэзала
Матуля,
Каб карміць крывёю сынка.
Хапіла выжыць дзевяць дзён
Струмка.

Я ля тэстамента значок кладу
З выяваю Максіма Багдановіча.
Ён, як святар апошні,
Думку новячы,
Адводзіў ад аблудных душ бяду.
Выходжу ў тлум.
З сабой нясу жуду.

## *БЕЛАЯ ВЕДЗЬМА*

*Джэмс Фірсавай*

Па дарозе нябеснай з Агры ў Мадрас
Мне варажыла белая ведзьма
(White witch па-англійску).
Карцела ўвесь час,
Як таксіста, пілота паруліць:
— Едзьма!

Здавалася, «Боінг» не думаў ані
Ляцець.
Аблачыны ішлі караванам.
І лёс мой не як,
А на далані
Маёй
Быў раскрыты вачам туманным.

Лічыла зоркі, ці шмат іх,
Ці
Глыбокія ліній разоры.
Што ёсць, што было,
Што будзе ў жыцці,
Што ўбачыць мой лёс белазоры.

Ішлі аблачыны.
Стаяў самалёт,
Здавалася мне прынамсі.
Традыцыйнага недаверу лёд
Раставаў і памалу скранаўся.

Мяне захістала ад чараўства,
Хапіла радасці да Непала:
З ліній жыцця супала
Лінія рамяства!

## *СВЯТАЯ КАРОВА*

Я чуў даўно пра святых кароў.
І мне, нарэшце, святая сустрэлася.
Ці, можа, не грэла старая кроў,
На сонцы вострымі рэбрамі грэлася.

Святая —
Духам святым жыве
Без гаспадара, без догляду.
Пастаўкі дзяржаве ёй не ў галаве,
І вольна ходзіць такою дохляю.

Парой пра яе ўспамінае Бог
І нешта ёй пасылае ласае —
Траву маладую, амаль мурог,
Каб зласавала падласая.

Ідзе па праспекце, як па расе,
Не хвалююць яе светлафоры пагаслыя...

І ў нас каровы лічы што ўсе
Святыя,
А іх называюць калгаснымі.

* * *

Нялётнае надвор'е ў Катманду.
І снежаньская юшыцца залева.
Душа мая гавела і шалела
І кнігаўкай адводзіла бяду

Ад нетрывалага таго гнязда,
Што бытаваннем з лёгкасцю названа.
Чарга аблокаў.
Гор цвярдых нірвана.
І ў сары з туманоў ідзе нуда.

Каля намоклых пальмаў,
Смяглых крам,
Каля кароў святых на скрыжаваннях.
Тыбецкі Буда не перажывае,
Што лівень змые
Пяцістрэхі храм.

І я дамоў думу сваю вяду
Паднеб'ем у кудлатую завею.
Душа мая калее і гавее.
Адкрыты шлях:
Ушача — Катманду.

## *СПРАДВЕКУ*

Напэўна, няма ў тым драмы,
Здзіўляцца няма чаму.
Хто ў крамы ідзе,
Хто ў храмы,
І моляцца хто каму,
Адзін — іконе,
Другі — Мамоне,
Хто Хрысту,
Хто Будзе.
Так было, так будзе.

 Так ёсць і сёння.

## *ПРЫСМЕРКІ*

Дзень адгалёкаў, адхадзіў, адтупаў,
Адхляхатаў у мене і ў мане.
Пільнуючыся сцежачак і ўступаў,
Ступаюць ступы[1], і на шыі ступаў
Званочкі звоняць мякка ў тумане.
(А так, у засені паўдзён праспаўшы,
Вярталіся дамоў каровы з пашы.
Лысоню пераняць заданне мне!..)

Ідуць сабе ўгару
За ступай ступа.
Званочкі ўрочлівыя звоняць скупа,
Абы не заблукаліся ўначы,
Да Бога ў Гімалаі ідучы.

---

[1] Ступа *(санскр.)* — храм.

## *АРМЕНІІ*

Сціскалі скалы ў гневе кулакі,
І сталі гневу камякі каменнямі.
Гавораць з хмарамі твае вякі,
Як Млечны Шлях,
Твой алфавіт,
Арменія.

Ступіўся злыдняў люты ятаган,
І племя гордае армян не менее.
Спаконнае,
Як неба, як Севан,
Тваё імя ў гісторыі,
Арменія.

Гасцінны дом спагады і святла,
Мы шлем табе паклон,
Прамень і я.
Для зла ты непрыступнаю была,
Ты будзеш вечна,
мудрая Арменія!

## *ПАЛАЧКА-СТУКАЛАЧКА*

— Стук-стук, Коля!
Стук-стук, Міця!
— Дзеткі, ў школе
Не шуміце!

Палачка-стукалачка —
Гульня дзіцячая.
Дарослыя глядзелі,
Дарослыя пабачылі,
Што гэта вельмі проста
Застукаць і суседа,
І дружбака,
Бо ў КДБ рука
Такая, што ні следу
Не будзе ад суседа,
Няцяжка дружбаку
Ў сырым заснуць пяску.

— Стук-стук, Мікола!
Круціцца кола.
— Стук-стук, Мікіта!
У крыві шэрая світа.
— Стук-стук, Васіль!
Заплакаў кавыль.
— Стук-стук, Марысіца!
Чэкіст не хрысціцца.

Чырвоны ад крыві,
Гарачы ад слёз
 У камунізм ляці, паравоз,

Коламі стукачы!
Мільёнаў лёс
Застукалі стукачы.
Ляціць паравоз
Па касцях разлук
У плачах, лямантах, крыках.
Толькі чуваць на стыках:
Стук-стук, стук-стук, стук-стук...

## *ЧЫМ БАГАТЫ*

У краіне жабракоў,
Дужых еднасцю,
Дзеляцца спакон вякоў
Шчодрай беднасцю.

У краіне лайдакоў,
Дружных радасцю,
Дзеляцца спакон вякоў
Голазадасцю.

У краіне чарвякоў,
Шчасных вераю,
Дзеляцца спакон вякоў
Вечнай цемраю.

Б'ецца, прагне галыцьба
Скварку зласаваць.
І завецца барацьба
Класавай!

## *НЕПАЎТОРНЫЯ*

Ад сораму мы чырванеем цэглаю,
А верад выхваляцца не сціхае.
Мы адгароджаны ад свету цэлага,
Нібы ваўкі,
Чырвонымі сцягамі.

Мы ганарымся, радуемся, цешымся
І забаронамі і абаронаю.
А працаваць, як свет, не дужа чэшымся.
З нас кожны ў свеце белаю воронаю.

Рыпім-скрыпім іржавымі завескамі
Аглушаных дзвярэй дзяржаўнай клеці.
Цвёрдакаменныя мы ўсе,
Савецкія,
А гэта значыць,— лепшыя на свеце!

Давер наіўны з-за гары папер
Намеру з добрай мінаю міргае:
Зроблена ў СССР —
Рамонту не падлягае!

## *ТОРФ ГІСТОРЫІ*

*Зянону Пазьняку*

Стагоддзі — не гаі збялелакорыя,
Звідна спавітыя смугою гімна,
Стагоддзі ад пакут і здзекаў хворыя
Прытойваюць архівы —
Торф гісторыі,
Які гарыць уедліва і дымна.

Ступае ісціна на жэрдцы-палачцы,
Каб ацалець, хаваецца няшчадна.
Архівы —
Міжусобіц усыпальніцы
І сведкі лютыя,
Таму і паляцца,
Гараць, як купа,
Глыбліва і чадна.

І сёння дым віецца над архівамі,
Тут завіхацца звыклі без прынукі.
Зрабіліся забойцы палахлівымі,
Спяшаюць заручыцца дырэктывамі
І ад крыві адмыць
Сляпыя рукі.


7—1427

## *ПАДАЙЦЕ ГОЛАС!*

Майстры хлусні і творцы чуткаў,
Падайце голас, стукачы,
Хоць пакажыцеся з закуткаў.
Яшчэ ж надзейныя ключы

Ад сейфаў,
Дзе тамы даносаў
І карткі ўліку шчырых вас.
Яно не будзе носу зносу,
Што чуйна нюхае ўвесь час,

Дзе, можа, пахне змовай нейкай,
А дзе на ўладу спее злосць.
У службе гнецеся капейкай,
Бо трыццаць срэбранікаў ёсць.

Не могуць глухнуць вашы вушы,
Растуць, як кактусы, яны.
На небе, ў моры і на сушы
За рупнасць вам растуць чыны.

Не любіце цвяліць гусей вы,
Лепш ціхай сапай, пакрысе.
А што, як час расчыніць сейфы
І вы засвеціцеся ўсе?

## *Варажу на Вялікай Кітайскай сцяне*

### МАЯ ПЕРШАЯ НОЧ У ПЕКІНЕ

Жмурыцца маланка ніцавока.
Скептык скрывіцца:
Вядома ўсё, пакінь!
Я ад'ехаў ад Ушач далёка.
Дыхаю экзотыкай.
І мне Пекін
Уначэлы, перад навальніцай,
Пахне цёплымі вантробамі ў хляўку,
Дзе на ўбоінах нож бліскавіцай
Разразае падчарэўе вепруку.
Кот сваёй чакае свежаніны.
Неўзабаве скварка тлуста засквірчыць...

І ўспамін з малечых год
Ад хіны
На губах даўно пакрыўджаных
Гарчыць...

### НАВЕДВАЮ ЗАБАРОННЫ ГОРАД

Я забаронным горадам іду,
Мясціны забаронныя чытаю,
Стагоддзяў успаміны варушу,
Чамусьці ўспамінаю Маўджуду,

Зайздрошчу задуменнаму Кітаю,
Што забароннаю зрабіў душу.

Цярпліва падпіраюць цішыню
З разяўленымі ляпамі драконы,
І нехта сочыць з ніадкуль за мной,
Каго аднойчы ўпотайкі сасню.
Так, як і гэты горад забаронны,
Душа сябе бароніць даўніной.

## *ЖЫВЫ ФАНТАНЧЫК ЛЯ ХАРБІНСКАГА БАЗАРУ*

На вуліцы, дзе крамы, крамы, крамы,
Малы жыхар вялікага Кітая,
Не адчуваючы апекі мамы,
Сам самапіску з штонікаў вымае.

І накіроўвае струмок на рэбры
Нагрэтага ўчарнелага рыштока,
Нібы йерогліфы ў гарачым срэбры
Ён адлівае, як сапраўдны дока.

Яго абходзяць рыкшы і хадыкі.
Здаецца, спёка дапякаць прымлела.
Праз тлум, праз гвалт,
Праз штурхатню, праз крыкі
Цурчыць-цурчыць
Жывы фантанчык смела.

## *МОЙ СОН У ХАРБІНЕ*

У снах далёка ад дому
Праяўляюцца плёнкі старыя
Дзён былых і наступных,
Магчыма.
...Бачыцца сябра Міхась Стральцоў
Босы, як сам апостал...
Унучка мая Дамініка,
Нібыта яна ўжо вялікая
І са мной гаварыць умее...

Праяўляюцца плёнкі найлепей
У цемры.
А ў вечнай
Ці будуць яны праяўляцца,
А калі будуць,
Ці доўга?..

## *БАЧУ РАНІШНЮЮ ДАЛЯНКУ*

Адной рукой трымае парасон,
Другой прытрымлівае свой падолік
Так, што смяецца смелае каленца.
І ўсё, што рухаецца, наўздагон
Цячэ імклівым сэнсам без сімволік.
Гляджу, а ў памяць,
Як дзяўчына ў сенцы,
З марозу ўскочыла Цярэжка-ўсмешка:
— *Дзядулька, аролік мой,*
*Падымі падолік мой.*

*— Бабулька, царыца мая,*
*Каротка спадніца твая...*
Спакойна сонца веер развінае.
Яна ідзе канкрэтная, зямная.
Абцасікі пад ногі сталі самі,
Каб паднялася трохі кітаянка
Над прахам, страхам,
Над панурым тленам.
Абточаная вечнасці вятрамі
Ідзе ў Даляні позірку каханка —
І перад ёй нямы чарговы пленум!

## *СМАКУЮ ВІНО, ЯКОЕ ЛЮБІЎ ДУ ФУ*

*Гао Ману*

Я надгубіў віно,
Якое піў Ду Фу,
І закусіў разваранным бамбукам,
Але не ўбачыў дно
І завяршаць страфу
Даверыў вераснёўскім сумным гукам.

Як цёплы сырадой,
Адстоены, густы,
Бялелася віно
Ў кілішку кволым.
І ўзняўся мой настрой
Да горнае вярсты,
Радок схіліўся перад вечным долам.

Цягнулася сцяна
У дзесяць тысяч лі,
Што звалася Вялікаю сцяною.
Цішэла гамана.
І цеплыня зямлі
Здавалася вядомаю маною.

## *ЗАХАПЛЯЮСЯ ВЯЛІКАЙ ПАГАДАЙ ДЗІКІХ ГУСЕЙ*

Вялікая пагада дзікіх гусей.
Ці гэта прымоўкла званіца?
З тугі ўпалыней,
Як гара, палысей,
Вяртайся сюды павініцца

За свой недавер да нябёс,
За грахі.
Пачуюць твой шэпт утрапёны
Сем ярусаў
Аж да крылатай страхі.
Злых духаў прагоняць драконы.

Вялікая пагада дзікіх гусей.
А дзе яны,
Радасці гусі?
Адчай пазірае часцей і ласей
У вочы здарожанай скрусе.

А скруха свае не мяняе шляхі
І душы трымае ў палоне.
І ўбачыць сляпы, і пачуе глухі,
І небу ўзнясуцца далоні.

Прачнецца на досвітку дождж-хмарасей
І будзе званіцца званіцы.
Вялікая пагада дзікіх гусей
Дазволіць душы прыпыніцца.

## ВЕРШ, ЯКІ ЎЗВАРУХНУЎСЯ Ў МУЗЕІ Ў СІАНІ

Праз чатыры тысячы год
У апошнім шаленстве ашчэраны,
Што крычыць гэты голы рот,
Што за вецер гуляе ў чэрапе?

Можа, хоча пра цёмны жах
Расказаць адкапаная мумія:
Хай жывы паглядзіць на прах
І пра тленнасць сваю падумае.

Ці не ўстаў нябыт з-пад зямлі,
Каб успомніць жыццё забытае.
Што за буры тут адгулі,
Ён правалам вачніцаў выпытвае...

## ВАРАЖУ НА ВЯЛІКАЙ КІТАЙСКАЙ СЦЯНЕ

На Вялікай кітайскай сцяне,
Ад самога сябе далёкі,
Ці забыла мяне,
Ці не?
Варажу —
Абрываю аблокі...

## *СУСТРАКАЮ ПЕКІНСКУЮ РАНІЦУ*

З ночы яліне пагады золка.
Ціха святло ўваскрасае.
Раніца —
Шэрая перапёлка
Ад расы крыло абтрасае...

## *ГЛЕДЗЯЧЫ НА КІТАЙСКУЮ СЦЯНУ*

Цела сваё каменнае змяя не кратае,
Прапаўзаючы праз вякі ў спакоі.
Так і рупіць хрыбеткі шурпатыя
Пералічваць прымлелай рукою
Доўга-доўга.

## *ЗАХАПЛЯЮСЯ ВЕЧНЫМ ЛОТАСАМ*

Нашае лотаці прадзед зялёны,
Сват парашута і парасона,
О аблавухі,
Прымі паклоны.
Хай будзе ў шане твая персона!

Прымі пад засень,
Схавай ад спёкі,
З крутой далані акрапі слязою.
 О, небу роўны,

Лотас высокі,
Ты з ціны ўзрос,
Не заплыў бузою.

Гэта ў табе нарадзіўся Буда,
З цёплых тваіх вырастаў пялюшак.
У каранях тваіх страхам балючых
І на лістах
Прыдрамала цуда.

## *ГРЭШНЫ Я ШКАДУЮ ВЕРАБ'Я*

Я сумаваў па ўшацкіх вераб'ях,
Я славіў вераб'ёў каля Парыжа.
Ката-птушатніка,
Што сочыць хіжа
За шэрым,
Праганяў, каб пырхнуў птах,
Каб не змаўкаў ягоны чык-чырык.

І гэта ж трэба ехаць вёрст за столькі
Ажно ў Сіань,
Каб бачыць у застоллі,
Як смажаны нябесны працаўнік
Пададзены бульбянаму табе...

Я, у думках пераксціўшыся, каштую
І крылца крохкае
І ножку тую,
Што, чую, за душу мяне скрабе.
 Прымаю на душу нялёгкі грэх.

Вярнуся я ў Вушачу іншы нейкі,
І на мяне ўзірацца верабейкі
Спалохана
Пачнуць з-пад ціхіх стрэх.

Аднойчы век мой запярэчыць: до!
І вераб'ём душа пакіне цела.
А нехта скажа:
Птушка паляцела
Шукаць сваё няпэўнае гняздо...

## *З СУМАМ УСПАМІНАЮ ПРАПАНОВУ НАЧНОЙ РЫКШЫ*

Гандаль на піндаль. Тавараў навала.
Гэта не наша прадмесце Траецкае.
Рыкша начная прапанавала
На матацыкле з ёю праехацца.

Ездзіў з такой бы, відаць, давідна я.
Часу ў турыста няма на адведзіны.
Рыкша начная ўся завадная,
І матацыкл нецярпліва заведзены.

Яўна ў накрытую небам краму
Хмуры скупеча не пойдзе з жонкаю.
Думкамі я вырываюся з гаму
З матарызаванаю амазонкаю.

Цеста хлапчына пратае люта,
Быццам бялізну тую на сажалцы.
Тута адчуеш, што значыць валюта,
Тут, дзе ўсё парыцца, варыцца, смажыцца.

Толькі ў савецкага ў будучым часе
Ўсё абяцанае,
Як бы ў праекцыі.
Тут я за цвёрдасць сваю не ручаюся —
Дужа хацелася з рыкшай праехацца.

Мне нерашучасць успомніць прыкра ж.
Чорныя вочы, як зайздрасць, у рыкшы...

## *А ШТО Я ПАЖАДАЦЬ МАЮ?*

Колькі вякоў у Кітаі
Кожны сабе жадае
Нарадзіцца і жыць ў Ханчжоу,
Харчавацца ў Гуанчжоу,
Ажаніцца ў Сучжоу,
Паміраць у Лючжоу.

Адпаведна ў Ханчжоу
Лагодна і плодна,
У Гуанчжоу
Не бедна і не галодна,
У Сучжоу дзяўчаты,
Як ветру павевы,
А ў Лючжоу багата
Камфорнага дрэва,
З дрэва камфорнага дамавіна
Доўга захоўваць цела павінна.

Паўтараю ў Кітаі,
Меркаваць бяруся,
Што я пажадаць маю
Сабе і сябру ў маёй Беларусі?

Нарадзіцца і жыць па-людску
У Слуцку,
Харчавацца ў Белавежы,
Дзе ежа свежа,
Ажаніцца ў Полацку,
Каб ад палачанкі
Аблізвацца, як ад мачанкі,
Было,
Да чарнобыльскай эры
Так было пажадана.
І на вечны спачын —
Толькі б не рана! —
Адыходзіць
У зямельку, некалі шчырую,
Можна паўсюль такі —
Радыцыя на вякі
Забальзаміруе.

## *ЖАЎТАЛІСТ МАЙГО РАЗВІТАННЯ*

Парушыўшы крохкую цішыню,
Вырваўшыся з нератоў галля,
Жаўталіст прыклаў даланю,
Мацае,
Ці не астыла зямля...

## *ДАКТОРКІ*

*Тамары Іванаўне Прышавалка*

Мы любім матуль
любіць на адлегласці,
Здароўе іхняе
давяраць урачам.
Мы смутку
не хочам пазычыць вачам.
Мы цешымся
са сваёй нягегласці.
І мокнуць і стынуць
бальніцы раённыя
На лютых ліўнях
ды на сіверах.
Матуль даглядаюць
забытасць і страх,
І добрыя весткі,
як дзеткі прыёмныя,
Да іх халадзеюць.
І крыламі белымі
Халатаў сваіх,
як анёлы, ўрачы
Стараюцца
чорную крыўду ўрачы.
Дакторкі,
як веснія яблынькі ў вэлюме,
Над неастылымі папялішчамі
Бездапаможнай
людской бяды
Святлеюць,
далічваючы гады,

Што сквапнай хваробаю,
немаччу знішчаны.
І на дакторак
матулі з надзеяю
Глядзяць,
і далёкіх сваіх дзяцей
Успамінаюць
часцей і часцей,
Дзяцінай спагадай і ласкай
абдзеленыя.
Даверліва дзеляцца
маці з дакторкамі,
Як апошняй скарынкай,
думкамі горкімі...
А дочкі дзе,
дзе сыны?
Чакаюць
тэлеграмы яны.

* * *

Цераз капрызлівую раку
Кладкай трывалай самаю
Доля вяла мяне за руку
Зажуранай мамаю.

Я назалеўся на скразняку.
Неба мне сны растлумачыла.
Доля дала мне кій у руку
Нязлою мачахай.

Я нагарбеўся на цаліку
Над кожнай соткаю.
Доля мне падала руку
Спагадлівай цёткаю.

А недзе ж лётаў яшчэ херувім,
Быў бацькам сам Усявышні.
Ды першы мой дзякуй
Ім траім,
Што пераняць мяне выйшлі.

*More majōrum —*
*па звычаю продкаў,*
*Ці, як рабілася ў даўніну,*
*Пчолы сваіх не цураліся лёткаў,*
*Сум гаркату аддаваў палыну.*
*Лічыць узрост свой*
*душа не гадамі —*
*Грамніцамі, Саракамі, Дзядамі.*

## *ВЯЛІКАДНЕ*

Пушчу душу — няхай ідзе
Па руні, дзеразе, вадзе,
Хай валачобнічае.
А можа, чоўны чые
Перавязуць на бераг веры,
Дзе, адчыніўшы ў свята дзверы,
Ў нядзельку кшчоную, святую
Вялікадне душу ўратуе.
І захмялелае вясло
Абудзіць сонечна сяло:
*— Вялічка прыйшло,*
*Яечка знясло...*
Ярылава аблічча
Яечка паўтарае.
Яшчэ зямля сырая,
А ўжо на копы лічыць
Гаспадарочак,
Слічны паночак
Ураджай на полі
І спарыну ў прыполе.

Хай валачобніцай ідзе
Душа барамі ды дварамі,
Няхай вяртаецца з дарамі,
Няхай раскажа,
Дзе
Яшчэ душа жыве ў бядзе,
А валачобніца таксама.
Хрыстос васкрос!
 Уваскрасае мама

Ці голас
Бог уваскрашае,
Ласкава мама запрашае:
— Гаспадарочак,
Бяры ліхтарочак,
У тваім хляве праява стала,
Праява стала, праявілася,
Усе кароўачкі пацяліліся,
Хрыстос васкрос, сын божы!
Дальбог,
Быў у нашай Лысоні рог,
Як маладзік, прыгожы!

## *ВЯРНУЦЦА Б...*

Абнашчыць бы небам пагляд,
Ад звадаў усіх,
Ад шаленства
Назад бы вярнуцца
У сад
Маленства.
Вярнуцца б,
Вярнуцца, вярнуцца
І да маладога ствала
Шчакой прытуліцца,
Душой прыгарнуцца,
Адчуўшы павагу святла,
Якое прачнулася толькі,
Яшчэ не стаміла сябе
У вечнай сяўбе
Спіну не струдзіла да колькі.
Там плот
Кожным моцным калом
Смяецца сабе рэдказуба,
І ў пеўня разяўлена дзюба,
Салома заснула кулём.
Там белаю дзеўкай смятана,
Там прыпечак мама змятае
Крылом
Вогнехвостага пеўня,
Бурчыць сырапеня
У цёрле,
А ў горле
Шпака
 Рагоча гарошына.

Анёл,
Што запрошаны
Усім сялом,
Змятае нябачным крылом
Спакусы жарству
З бальшака.
Ды чуеш, як цісне
Штодзённасці волава,
А пух бязважкі
Крыла анёлава
Растае.
Нячысцік рагаты
Зацята
Напамінае заслугі твае...
Павыліняў далягляд,
Пазнесла яшчэ да Каляд
Кладкі ўсе да паленца.
Пад корань вымерз
Сад
Маленства.
Як і куды
Вярнуцца назад?

## *ВІШШО*

Я на бярэзіне вішу.
— Шумі, шумі,—
Шапчу вішшу —
Гнуткаму, прудкаму,
Увішнаму голлю.
У бярэзіны
Зялёныя хрэсьбіны.
А зімой
Ёй самой
Стаяць у ваколлі
Голлю,
Так бялець,
Што аж снегу будзе балець.
Бо сустрэне зіма
Небам, золлю.
А пакуль няма
Вятроў-завейнікаў,
Што перапаўзуць мяжу,
З вішша навяжу
Бухматых венікаў.
Венік схвошчацца,
Зробіцца гальнём.
Заскача смех па дошчачцы:
— З агнём гульнём,—
Прапануе печы
Вымесці под.
Певень па-хлапечы
Ускочыць на плот,
Аж коміну-недарэку
Захочацца зацягнуць

Дымнае ку-ка-рэ-ку.
— Ой, белая бярэзіна,
Баліць мая сярэдзіна,—
Пажаліцца з песні жняя.
— Я ж не я,
Я ж не я,—
Бярэзіна песні адкажа.
Белае чорным
Зробіць сажа.
У белай бярэзіны
Зябкія пярэзімы...

## *ХТО Ж ЦЯПЕР?*

З маленства чалавецтва медыцыну
Застаў я.
Памятаю з маленства,
Як лечылі — не калечылі! —
Чын па чыну
Ад вогніка, ад валасня,
Ад шаленства,
Ад ванцака, ад паляруша,
Ад упуду...
Хваробаў усіх,
Каб не наклікаць іх,
Пералічаць не буду.

Калі вырывалі зуб
Ніткаю суравою,
Кідалі зуб у падпечак
З прыгаворкай такою:
— Мышка, мышка,
Бяры зуб стары,
А мне новы, здаровы падары...

З хітрасцю невялічкаю
Змагаліся з барадаўкай,
Па-ўшацку — дзічкаю.
На лузе лавілі
Зялёнага коніка —
Казялка,
І, не выпускаючы яго з кулака,
Да дзічкі хілілі
І шэптам малілі:

— Кызі, кызі,
Дай мазі,
А я табе — дзічку...

Як лішай выводзілі,
Ці па-ўшацку — круг?
Тут усё вырашае рух.
З шыбіны бралі халодны пот
Вайстраком нажа,
Клалі на сук
У лаве а ці ў падлозе,
І, каб круг ішоў на звод,
Сук нажом крыжавалі
Без жалю.
Лепей за ўсё чаравалася
На суку ў шчарбатым парозе,
Бо круг уцякаў далёка.

На ваду шапталі
І піць давалі
Ад уроку,
Ад злога вока.

Зёлкі, травы
Ад living рознага наслання
Ведалі суседзі —
Усе як адна радня.

І вера жыла ў наіве,
І ў кожным парыве —
Надзея.
І ў заўтрашні дзень
Як у ваду глядзелі,
У ваду з крыніцы
Праз вякі
Барадатыя чараўнікі,

Зацятыя чараўніцы,
Дактары
Медыцыны паганскай пары.

Дзе цяпер яны,
Знахары?
Патухлі, аглухлі,
Аслеплі
У Вушачы, ў Бычках,
У Леплі.

І выйшаўшы з лесу прагрэсу,
Прадраўшыся
З сінтэтычнага хлуду,
Як лясун некалі,
Хто ж цяпер будзе лекаваць
Ад атамнага ўпуду?
Хто ацаліць крыніцу
І золак золкі?
Божа ласкавы!
Хто загаворыць травы,
Хто загаворыць зёлкі,
Хто перажагнае
Даёнку даярцы
Ад радыяцыі?!

## *Б'ЕЦЦА Ў БЕРАГІ...*

І рака не ўвайшла была ў берагі,
І ўвайшла маладзіца ў раку.
За плячыма ў хустцы сынок,
Хваля як не пад сэрца,
І ў хустцы рагі
Развязала сама неўзнаку,
І сынок на дно,
Як сярпок.

І песню да ракі
Прыгналі чужакі,
А песня жаліцца,
А песня кволіцца,
А словы джаляцца,
А словы колюцца:
Ой ты, ціхенькі Дунай,
Паціхусеньку гуляй.
Там удоўка хадзіла,
Пару сынкоў радзіла,
У карабель усадзіла.
У ціхі Дунай пусціла.
Ой ты, ціхенькі Дунай,
Калыхай маіх дзяцей.
Нікне плыні паясочак,
Песня просіць ласкавей:
Ох ты, жоўценькі пясочак,
Накармі маіх дзяцей.
Песня хоча, каб пачулі,
Песня жаліцца часцей:

Ах ты, шэрая зязюля,
Забаўляй маіх дзяцей.
Коціцца з вачэй сляза,
Зябнуць росы на галлі:
Ох ты, ніцая лаза,
Вочы дзецям не калі...

Потым, як блакада прайшла
І прыйшла цішыня ў сяло,
Маладзіца ішла да ракі,
І само, без чаўна і вясла,
Без яе яе гора плыло.
І гукалі сябрука хлапчукі.

Зноўку песня, як залоўка,
Не сціхала папікаць:
Цераз колькі год удоўка
Пайшла ў Дунай ваду браць.
Удовачка ваду браць,
Карабельчык падплываць.
А ў тым караблі
Два малойчыкі былі.
Стала ўдоўка і стаіць,
На малойчыкаў глядзіць.
Песня, ўскалыхні жуду,
Казытні душу вірам.
За аднаго сама йду,
За другога — дачку дам.
І жудою лютаю
Чорны вір успенены.
Ох, дзе ж гэта чутана,
Каб брат з сястрой жэнены.
Каб родную маці
За жонку сыну браці.
Ідзі, сястра, ў зялён луг.

Будзе табе мілы друг.
Ідзі, мамка, ў цёмны лес,
Няхай цябе хоць звер з'есь.

Усмешка ўшацкай вады
Не чакала бяды,
Ды пайшла ў вякі
Нацянькі
У чорнай хусціне.
Ад страху
Вада не стыне.
Каняю тугі
Б'ецца ў берагі...

## *АБЛАЧЫНА-САМАБРАНКА*

*БЯСЕДА БАГОЎ*

I

Ва ўшацкай хаце за спагадным сталом
Сяджу і Дамавіка чакаю.
Ён, думаю, прыйдзе з клапотным чалом,
Вянчаным вянком з зялёнага маю.
Мяне здрыганула,
А гэта воўк
Ступіў на след мой у лесе недзе.
Таўкач куццю яшчэ не датоўк
І ў ступе з каргой пазахмар'ем едзе.

А вось і Сам, Гаспадар,
Дамавік
Ці з печы злез,
Ці выйшаў з запечка.
У белай даўгое кашулі ўзнік
Ці здаўся, ўроіўся.
Бразнула вечка
У куфры, дзе густа калісь было,
А цяпер зрабілася рэдка.
Дык пасядзім.
Ці запалім святло,
Ці, можа, ў прыцемках лепей, Дзедка?

Варушыць пальцамі —
Боссю лацвей
Хадзіць да кумы ў адведкі.
 Бай ідзе па сцяне,

Нясе сямёра лапцей
Для жонкі, для сябе, для дзяцей,
Ды не для Дзедкі.
А ў Дзедкі вочы і барада
Гараць агнявітым жарам.
І асалода ў іх і жуда
Ці, як сказалі б французы,
Шарм.
Без пеўня, без жару ў гаршку,
Без віна
Перасяляўся Дзедка ў матчыну хату,
Бо бацькаву хату спаліла вайна,
І жару хапіла, як брагі свату.

Сталі ў кутах сівыя дзяды —
Прыцемкі — нелюдзімы.
Мне светла ад Дзедкавай барады
І цёмна ў душы.
Сядзім мы
Маўчком з басаногім Гаспадаром.
Усё ён помніць і ведае.
І Доля мая недзе едзе вазком,
Кабылка ў яе, я думаю, гнедая.

Чакаем некага.
Ціха наўкол.
Сягоння якраз Каляда багатая.
І цягавіты трывалы стол
Прыпамінае, прыгадвае,
Колькі за ім пабыло, пасядзела,
Піло ды ела, гуло ды цішэла,
Зрабіўшы бела,
Гуляла смела.

Голас за гэтым сталом
Ніколі не ціх
 І зноў, як тады,

Таямніча,
Пачулася мне,
Мамін голас усіх
На Дзяды з пашанаю кліча:

— Мароз, мароз,
Перавядзі дух, спачні,
Хадзі да нас,
З бяроз дуг не гні,
Гарэлкі глыні,
Укусі кілбас.

— І ты, грамок,
Адамкні свой дамок,
На голы лес не грымі,
Папаску прымі!
— Усе Дзядочкі хадзіце
І за сабою мёртвых вядзіце!

Вядома, стаіць на куце куцця,
Ячмень адпакутваў у ступе,
Пакуль ён крупамі стаў,
Да выцця
Завеям хочацца быць укупе.
І клёцкі з душáмі
У гонар Дзядоў
Дымяцца бакамі крутымі.
І продкі прыходзяць
З забытых гадоў,
І душы іх грэюцца ў цёплым дыме.
І зварана некалькі клёцак даўгіх,
Завуцца сарокамі,
Рэдка
Ўгадаеш, не з'еўшы, ў якое з іх
Замест душы —
Срэбраная манетка.


8—1427

І каб не журыцца,
Варылі, бывала, жур.
Пасцілі шчыра на ўсе пасты.
І ўсмешка хавалася за каптур,
Вурчэлі, як тыя каты, калаўроты:

— Як кісель дык кісель,
Дык і жур густы.
А каб то́му кісялю чырвоныя боты,
Каб па вуліцах гуляць,
Красных дзевак забаўляць.

Ашчэрыўшы рот, як плот,
Усміхалася прасніца:
Пост падняў кабыле хвост,
А там — масленіца.

. . . . . . . . . . . . . .

Паплечнік Дзедкі
Маўчыць, як нямтур,
Прыйшоў са свайго абходу —
Праверыў межы нябачны Чур,
Падземную ўсю гасподу.
На межах сваіх панасыпаў грудкі
І межы ўсе паабнёс частаколам.
— Чур! — толькі гукні,—
Вартаўнік тупаткі
Усхопіцца хлопцам вясёлым.
Не стаі чужы ля ягонай мяжы,
Капрызлівы нораў у Чура:
Віхор крутане,
Запусціць глыжы.
Ад Чуравага прыслепнеш прыжмуру.

II

Стол помніць, як пах духмяна пірог,
Як на ім рэзалі
Са свежаніны скварку.
Стол не змяталі ніколі на рог,
Каб не звесці на клін гаспадарку.
Не сядаў у шапцы за стол маладзён,
Каб не была глухою цешча.
Бохан не быў цемем уніз кладзён,
На покуце вешчавала Вешча.

На вуліцы гамана, хадня.
А ў хаце сталу ўспамінаецца на выгодзе.
Знянацку напружылася цішыня —
Нарадзіўся ў імгненне гэтае злодзя.
Зляцеў са стала на падлогу нож —
Спяшае мужчына, мне шэпча
Прыкмета.
Няхай заходзіць, яшчэ не ноч,
Напэўна ж, не прывядзе зло,
А пажадае, каб за сталом было
Няспіта, няз'ета.
Ступай жа смялей, хадзімец,
Здымай свой армяк — невідзімец.
Ты, можа, той,
Што прыкідваецца сіратой,
Сам з кокаць, барада з локаць,
Вусы па сажню, вочы па бобу,
Не бачыць ні дробу.
Ці з тых краёў
Цябе нос-павадыр прывёў,
Дзе стаіць дуб зялёны,
А пад дубам тым бык пячоны,
А ў яго баку нож тачоны.

 . . . . . . . . . . . . . . .

Прыйшоў Пятрок,
Сарваў лісток
З календара.
Знайшлася махра.
Скруціў казіную ножку
І дыміць не патрошку.
Былы малады партызан,
Пасля будаўнік
Светлага заўтра не ў жарты
Піць усё, што гарыць, прывык
З поўнай шклянкі ці з добрай кварты.
Не перавяліся ў Вушачы асілкі.
Пятрок і ў Пскове і ў Дзісне
Выпрасіць у смаляное кабылкі
І мёрзлай сучцы ўцісне.
Пятрок — мая дарагая радня,
Бацькаў пляменнік.
Час не ўкінуў у нашую шчырасць лядня,
Не замёў сцежку згоды разладу венік.
І пасля казінае ножкі і кварты
Лагодзіцца Петраку.
І па-ўшацку зноў я
Хачу пажадаць сваяку,
Каб даў яму Бог здароўя
У ручкі, ў рожкі,
І між ног трошкі.

III

Імгла смялець пачала.
Вакно азарыла ўспышка.
У цішыні са стала
Звалілася лыжка.
Мне шэпча на вуха
 Прыкмета:

Спяшае кабета.
І ўмомант — не рыпнула нават брамка —
У хату ўплыла — а ўся са святла —
Аблачына-самабранка.

Брацца ўсё само пачало
Адкуль,
Невядома.
Нахмурыўшы чало,
Разаслаўшы саломы куль,
На палацях хоча разлегчыся стома.
Смех, задыхаўшыся, прыбег,
Бо гнаўся за смехам
Спех.
І некуды Цемра са злосці сышла,
Сваю адчуваючы сілу,—
Час будзе, і ўсіх са святла
Забярэ ў магілу.

А ў застолле спаўзаюцца і злятаюцца,
Прыязджаюць, выходзяць з кутоў
Разнаякія і аднастайныя,
Не злічыць ног, хвастоў, капытоў.
Тут жа босыя, і абутыя,
І падкутыя, і раскутыя.
І тыя,
У каго замест плячэй шыя,
Замест ног рогі,
А замест рагоў ногі.
Кожная пачвара
Знойдзе сабе пару.

. . . . . . . . . . . . .

Крук,
Каб дужацца з тлом,
 Пабываў на крайсветнай дзялянцы,

Прынёс пад кожным крылом
Па шклянцы
З вадой гаючай, з вадой жывучай —
Зачарэпнуў з крыніцы пад кручай.
Раны пазагаіў і ажывіў
З сівых вякоў
Суседзяў і сваякоў,
Сабраўшы ўсіх на бяседу,
Як на парадку.
Пазнаёмлю з імі
Не ўсімі
І не папарадку.

## IV

Не маючы з транспартам клопату,
Заломваючы кругі,
Злятаюцца прыбышы, іншавяскоўцы,
Паслядоўнікамі бабы-Югі,
Асядлаўшы
Лёткія талеркі і ходкія сподкі,
І, як пушчы-дрымушчы кудлатыя,
З'яўляюцца сценямі прапрапродкі.
І ўспамінаюць часы пры цару Гароху,
Калі людзей было троху,
Калі ішлі
Скураныя рублі
І драўляныя капавікі.
І выпадак такі:

. . . . . . . . . . . . . . .

А было гэта ўсё,
Калі
Яшчэ сам Бог хадзіў па зямлі.
 Як старац-сівец з торбаю ды кійком

Падышоў запытацца дарогу,
А баба,
Срачку маломy падцёршы блінком,
Рукою з блінком ты кіўнула Богу.
А ў паравіны тыя
І ў азіміне і ў ярыне
Каласы да самое зямлі
Цяжарылі сцёблы.
Усяго ў спарыне
Было ў той людской старане —
І чарка, і скварка,
І хлеб быў цёплы.
А як такое пабачыў Бог,
За сцябліну ўзяўся і знізу даверху
Каласы сашмаргнуў,
Апошні не змог,
Бо тут падняўся і лямант і вэрхал.
Загаласілі з усіх галасоў,
Прасілі Бога каты і сабакі
Пакінуць хоць колас,
І Бог сышоў
Да іх спагадай.
І ў знак падзякі
Каты і сабакі лізалі сляды
Якія Госпад пакінуў.
А калены ў саломіне для людской чарады
Засталіся ў знак намапінаў,
Якім было і быць магло
У каласах сцябло,
Каб кайліва бачылі.
І кожны, хто лусту ў рот нясе,
Каб не забываўся,
Што жывема ўсе
На долі кашынае і сабачае.

Во, ласка мякка прыскочыла з хлева,
Высмактаўшы надой,
І нашых кароў прывяла з сабой,
Усё рагатае малакаводнае дрэва:
Гілёню, Звяздоню, Лысоню,
Букетку, Гарбалыску, Лісіцу.
І вуж з-пад парога спрасоння
У хату пачаў прасіцца,
Напомніў, каб налілі сырадою
За тое,
Што гаспадара размінае з бядою.

Прысунуліся з дочкамі Зданькамі
Ціхія Здані.
Гусі-лебедзі прыляцелі.
Ворах прайшоў па целе,
Як і некалі, ад распавядання:

. . . . . . . . . . . . .

А было.
У канцавую хатку
Унадзіўся начаваць панічок.
Чорны фрачок.
Нос як смычок.
Галава з букатку.
І начлежыўся,
І вылежваўся.
Ды неяк надарылася —
З медзвядзём скамарох
Таксама абначаваў у хатцы.
І ледзь панічок пераступіў парог,
Мядзведзь і згроб яго ў абхапцы.
Позна было, не палілі лучыну,
І ў каганцы дагарэла сала.
Толькі й бачылі таго панічыну —
Як карова языком злізала.

Праз колькі часу.
Цімашок, гаспадарскі сынок,
Гуляў у пяску.
Да яго панічок
Наблізіўся з-за вугла.
І запытаўся старожка:
— Цімошка, Цімошка,
А ці дома ваша кошка?
— Дома, дома.
І сямёра кацянятак прывяла.
І мама яшчэ казала,
Што свіння ў нас на панічоў.
І панічок даў драла,
Знік, як дымок з карчоў,
І болей не начаваў,
Бо ласку адное кошкі
Доўга яшчэ адчуваў.

V

На стале страў даволі —
І посныя, і скаромныя.
Песні цесна селі ў застолле —
І сарамлівыя, і бессаромныя.

Зачынае кума,
Ёй уседу няма:
— Расхадзіліся суставы
Каля печы, каля лавы,
Самы большы сустаў
З тапарышча ўстаў.

Кум, зусім не тугадум,
Заглушае п'яны шум:

— Калыхала баба дзеда

Ў дубовым карыце.
Як ускочыў дзед на бабу,
Хацеў задавіці.

Усхадзіўся ціхі стаў,
Ціхі стаў вірлівы стаў:
— Упрысядкі прысядаў,
За касматую хватаў,
А за тую касматую
Тры дні сядзеў за хатаю.

Ад вясёлых жартаў Хвэлькі
Як не трэснуць з смеху бэлькі:

— Мамулечка, п'яна, п'яна,
Свярбіць мая абіз'яна,
Ой, пайду я к Тумашу,
Абіз'яну пачашу.

І хоць цераз дарогу хата,
У хроснай клопатаў багата:

— П'яна я п'яна, п'яненька,
Агарнула ночка цямненька.
Дома ж па мне дзеткі бядуюць,
Дзе ж наша мамка начуець.

Замоўклі загады й законы,
Бяседнікі пасалавелі,
З павагай б'ючы паклоны
Сукрыстаму богу Хмелю:

— Самагоначку мы гонім,
Самагоначку мы п'ем,
Нам апараты разбіваюць,
А мы новыя куем.

## VI

А чорт у куце,
Уну́рыўшы плечы,
Шые ў духаце
Машну для скупечы.
Курцы дзядзькі
Свае капшукі
Развязалі памалу,
А загадка
Ужо загадала,
Што пад яйкамі гладка,
Чхае ад дыму,
Ды няма ёй сутрыму,
Пазіраючы на капшукі,
Загадвае нацяනькі:
Машоначка барання
Дае і звечара і зрання.
І загадвае зноўку,
І пытае салоўку:
— Салавей, салавей,
Што на свеце саладзей,
Ці гарэлка, ці мядок,
А ці ў дзеўкі перадок?

. . . . . . . . . . . .

А вяселле шукала сарочку
У барку ды ў ярку ды ў вірочку.
А маладая клікала
Усю сям'ю на параду,
А была багатырка вялікая:
Для вераду мела спераду
Дзесяціну саду
І млын ззаду.
А пераборлівы будучы зяць —
Сала любіць, а на свінню не ўзагнаць.

І знайшло вяселле сарочку,
І ўроцы дачку вяселлеву не сурочылі.
Маладую з русявымі кудламі
Сваталі два магуты,
Адзін з іх свірнамі, кублами,
Другі — галоўным уруччам славуты.
Той, што з добрым уруччам,
Лавіў імгненні,
І даланёю вадзіў па калене,
І таямнічым шэптам казаў:
«Я табе яшчэ не ўсё паказаў,
Палавіна матузом прывязаў».
І маладая наўздзіў выгодам
Вырашыла капрызна:
Хлеб годам, грошы пераводам,
А ўруччa ў векаўшчызну.
І пайшла.
А як з маці развітвалася,
І палохалася, і дапытвалася:
— Мамулечка, ў клець вядуць.
— Не плач, дачушка, той дадуць.
І хорам жадалася,
Каб малое кугакала
Заплакала
Кналецці́ю:
— Кацілася калясо з клеці,
Любіцеся харашо, дзеці.

VII

Просяцца злыдні
У хату на тры дні,
Ды гэта гэтакі невыводны род,
Як паселіцца ды развяселіцца,
Не выганіш і за год,

І за тры
Не вытурыш як ні туры.
Трасца
У дарогу адна не падасца,
І калі ўжо ўваляцца ў двор,
Дык усе дванаццаць сясцёр,
Каб у гасцях набыцца:
Трасавіца, агнявіца, зябавіца,
Гнятавіца, кархавіца, глухавіца,
Ламавіца, пухлявіца, жаўтавіца,
Старгавіца, глядавіца, нявідуха.
Не баяцца сёстры ніякога духа.

У лапці з куракамі абулася гразь
І сунецца на кут, дзе ўсё — бліс ды ясь.
Ды яе з падпеччыка мыш
Запытала нясмела:
— Гразь, гразь, чаму ты не гарыш?
— Я б гарэла, каб не была карэла.

А за граззю ўслед нявогляддзю кароста,
Яна не проста,
А панская хвароба —
Важная асоба.
Ад каросты не ўміраюць,
Толькі рукі не гуляюць.

Ды прыкапыцілі кабыліцы-небыліцы,
Уваліўся меч-самасеч —
Не далі насланню напірыцца.
Кулічок з кулачок палез у печ,
Даў злыдням, трасцам, гразі, каросце
Сыру санлівага
І хлеба драмлівага,
І выкінуў сонных гідліва,
 Аж забраджэлі іхнія косці.

VIII

Каго дарогі блудлівыя прывялі,
Каго крывыя.
Нехта зайздросць пераcтраўляе ў валлі,
Нехта ад радасці вые.

. . . . . . . . . . . . . .

Цмок і сынок яго Прыцмок
Сасмягла локчуць бражку,
Ажно ў Прыцмока лоб узмок,
Аж скінуў Цмок сярмяжку.

У бацькі з сынам языкі,
Як вогненныя шылы.
Ад іх святло ва ўсе бакі
Разбеглася штосілы.

...Быў у суседа хатні Цмок —
Бо праз кажух касматы
Лёс мужыка вітаў —
Валок
Багацце Цмок у хату.

Цмок з бедняка багатыра
Зрабіў
І ўзяў у казку.
Ды папрасіў гаспадара
Зрабіць такую ласку —

Яешню на страху насіць
Мужык той мусіў Цмоку.
Насіў і жыў усмак,
Ды сыць
Яго ўзяла.
Аброку
 Аднойчы не панёс мужык,

Дык ад яго багацця
Застаўся —
Рымфа кажа — пшык,
Як толькі Цмок на хаце
Не ўбачыў ежы.

І дымок
У неба ўзбег высока.
Пусціў гасподу дымам Цмок.
Мужык не ўбачыў Цмока.

## IX

Бліжэй да поўначы,
Як сяляне некалі на таргі,
Хату святлом нечуваным поўнячы,
Пачалі з'язджацца
Багі.

Рахманы ён, бо дужы,
Як шчыры беларус.
Адно не любіць сцюжы
Пярун-залатавус.

Усе багі — суседзі,
А ён — Спадар як Бог.
І летапісец недзе
Сцвярджаў:
«Пярун ёсць мног».

Ярыла ён і Юр'я,
І Жыжаль — ясны зрок,
Што ў хаце з-за каптур'я
Лучынкай турыць змрок.

Пярун зрубіў даміны
Са срэбраных бярвён.
Балюе імяніны
На Чысты чэцвер ён.

На гэты дзень глухая
Сава пачуе грук.
Дзяцей сваіх купае
Да ўсходу сонца
Крук.

Да ўсходу сонца мгліцца.
І на бягун-ручай
Дзяўчаты, маладзіцы
Бягуць падмаладзіцца,
Памыцца, змыць адчай.

І перунова служка —
Буцян-гарынага
Глядзіць,
Дзе лясне пужка,
Адтуль бяжыць імга.

Пражэрлівыя птахі —
Гарцуюць гарцукі,
Юрацъ вятры,
Бо жахі
Шануюць хіжакі.

Спыніўся дуб-вандроўнік.
Смяецца барана.
І лашчыцца дзядоўнік
Да Дзеда Перуна.

. . . . . . . . . . . . . . .

Зюзя ў белым кажусе
 Грукаецца пабайнёю,

Барадой даўгой трасе,
Бо завеі ўсёй гайнёю
Гналіся
І ў бараду
Ўплюталіся ўледзянела,
Зюзю аж рука замлела
Іх выплютваць на хаду.

Зюзя ціха ходзіць —
Ён
Босы, як належыць богу.
З барады завеі вон
Выгнаў,
Як з глухога стогу.

Перуновае лазы
Помаху
Было б даволі.

А за Зюзем маразы
Уваліліся ў застолле:

Тут Прагун, Траскун, Скварун,
Пабягун, Цягун, Дрыгун,
Крахкатун, Звягун, Маўчун,
Казытун, Крутун, Шчыпун.

Покуль назавеш усіх,
Ад марозу зойме дых.

Зюзя сеў.
Крыса павець
Цёпла Цёцю ахінула:
— Ды не бойся ты ззюзець,
Грэе ўсіх мая затула.
Я ж не люты на двары,

Грэю пуннікаў у пуні,
Млынарам віру віры,
На палях бадзёру руні.

Адшукаць ва ўсёй акрузе
Цяжка
Лепшага ад Зюзі!

. . . . . . . . . . .

Дунай-жанчына Цёця,
Усё ў руках пяе.
Здалёк пазнаць яе,
Як паву па палёце,
Няцяжка.
У капоце
Рудое ходзіць Цёця,
Не ходзіць, а плыве,
Як рыба ў цёплым плёсе.
Вянок на галаве
Са спелага калосся.
Нясе ў руках плады
Зямныя, сакаўныя.
І на зламанне шыі
Ад Цёці галады
Ўцякаюць хто куды.

У крывічанкі Цёці
Мілосць да крывічоў.
Ва ўсіх яна ў шаноце,
Як пані ў панічоў.

Усе крывічанкі-багіні
Крывіцкім багам удалад.
Бог сэрцам абвяне, абгіне,
Адчуўшы юрлівы пагляд.

 . . . . . . . . . . .

Ляля дужа маладзенькая.
Пра яе прыход яшчэ
Праз снягі сініца ценькае,
Пад ільдом дунай цячэ.

Да яе ідзе з кавенькаю
Сон вачэй
З жабрачай жменькаю —
Хай красой яго ўрачэ!

У вянку з вясновых красак
Карагодны кружыць круг.
Мроіць пра яе падпасак,
Згадкай грэецца пастух.

Ападаюць вісажарынкі.
Весялей расце трава.
Гэта ў гожай Лялі жаўранкі
Вылятаюць з рукава.

Юр'еў конь мяце хвастом
Сцежкі,
Дзе праходзіць Ляля.
Перад Пятром
Трэцім днём
Разгуляўся конь
І ў шале
Разбіў камень капытом.

## X

А Жыцень —
Дзяцюк невысокі,
Паджары, падцяты,
У залётах зацяты,
Пускаецца лёгка ў скокі.

Малое дрэва ідзе спрадвек
Ці ў сук, ці ў балаву,
Гэтак і малы чалавек
Ці ў струк, ці ў галаву.
Гэта ж і пра бязмен
Загадку загадвае баламут:
Сам худ,
А кутасы з пуд.

Ва ўсе свае тры вокі гала
Жыцень у жыце выглядае,
Дзе прыдрамала
Жняя маладая.
Ці прыдрамала,
Ці ўрачкавала,
Жыцень хапае,
Якая папала.
Ён за ёй са сваім рагачом,
Як з таўкачом,
Гоніцца, пакуль не дагоніць,
А дагнаўшы, не выпускае,
Пакуль не дагодзіць.
І засланяе вочы
На сорам жаночы
Погаласка людская.

Жыцень не дазваляе коласу
Цалаваць зямлю,
Азіміну сеюць —
Кожнае зерне ў раллю
Утоптвае сам.
Ківае пальцам пагрозліва гультаям,
Зернегубам і коласагубам
Ускудлачаным чубам
Махае
Ды падмахвае барадой яшчэ.

Маючы ўруччa на падоймішча
З маладзіцаю ля каравая
Ходзіць у перапевы,
Ажно лістом чырванеюць дрэвы:
— Ой, не ўстою, ой, не ўлежу —
Упіраецца ў адзежу.
І таксама маладзіцы
Не ляжыцца, не сядзіцца:
— Ой, не ўлежу, не ўстою
За сваёю ліхою.
Суровы Жыцень
На пешчы такі не скупы,
Любіць усё рабіць у пару.
З поля нядбаліцы
Пераносіць снапы
Дбайнаму гаспадару.
А той, хто жонку любіць забывае,
Прыбытак мае,
Хоць мала дбае.
Ярыла налеццем хрэсьбіны ладзіць
І жытнічкаў
Па залацістых галоўках гладзіць.
Пасля жытняга хлеба
Маладая патрэба.

XI

Сабраліся спёкі і халады.
У хаце і Змітраўскія Дзяды.
Далёкі сваяк мой Зміцер
Хіцер —
Нос Белуну выцер,
А за гэта ад Белабога
Меў золата многа.

«Цёмна ў лесе без Белуна,
Хмарна ў сэрцы без Белабога,
Без Белабога не да парога»,—
Крывічы паўтаралі здаўна.

Носіць белыя насавы,
Вечна з посахам,
Белабароды.
Заблукаеш —
Праз шум баравы
Правядзе і пакажа броды.

Сочыць на жніве,
Каб у блот
Не пайшло аржаное калоссе.
Да жанцоў прыходзіць штогод.
Торба грошай вісіць на носе.

Просіць старац,
Каб нехта нос
Выцер, ды бедняка гукае.
Той, хто просьбу здаволіць,
Мае
Кучу грошы і шчасце воз.

Хай на покуць сядзе Бялун —
Падарожнікаў даўні спагадца,
Бацька плёну
І сонцаў шчырун.
Пацяплее ў мамінай хатцы.

. . . . . . . . . . . . . . .

А Жыжаль Сварожыч
Над дымам варожыць
Увесь у гарачай парчы.
 Булавой галавешка на левым плячы.

У правіцы крэсіва ў Жыжаля,
Крэсівам ён выклікае Крэса,
Што завецца агнём
З барадою рыжаю.
Крамянец у лявіцы,
А ў крамянца
Галава баліць без канца
Ад трэсіва
Ці, як кажуць цяпер, ад стрэса.

Не жмурачыся, Жыжаль сам
Курыць сабе фіміям,
Падкрэсліваючы, што без Жыжаля
Усе б не выжылі.
Не мелі б ні лыжкі жыжкі,
Ні густыша.
За ўсіх у Жыжаля
Гарыць душа.

Аднавокіх балотных малютак,
Што блукаюць ля скарбаў,
Загнаўшы да змроку ў хлявец,
Як тых авец,
Узгарэўся Жыжаль
Высветліць кожны закутак.

А Зніч—
Жыжалёў родны крыўец
Ведае з даўніны,
Бо пад хурымам казалі чуткі:
Не так чорт страшны,
Як яго малюткі.

А дачкі Знічовы—
Запальчывыя Знічкі

Згараюць,
Шануючы сварогавы звычкі.

. . . . . . . . . . . . . .

Радасць неба азарыла
Аж да глыбіні.
Едзе маладзік Ярыла
На крутым кані.

Конь Ярылаў белы-белы,
Як вясной сады.
Яравыя прагнуць стрэлы
Вырвацца з нуды.

Тужаць стрэлы яравыя
Ў цесным сайдаку.
Конь — віхурыстая выя—
Ўдзячны седаку.

Апранахі белай крылы
Б'юцца на вятрах.
У Ярылы досыць сілы
Змрок скрышыць у прах.

А чарнейшая чупрына
За крыло крука.
Любіць лашчыць ціхаплынна
Каласы рука.

З барадою залатою,
Доўгай, як зіма,
Ён прайсціся пехатою
Любіць нездарма.

Дзе Ярыла ступіць смела
Босаю ступой,
Жыта вырасце ўкусцела
На раллі скупой.

А куды свой самавіта
Позірк кіне — ўраз
Закрасуе дружна жыта
У пагодны час.

Пуга, звітая ў тры рэдзі,
Ззяе на святле,
Маладзік Ярыла едзе
Ў залатым сядзе.

## XII

У хаце туманіста-шэда.
У хаце вірыць гамана.
Але не ў бяседу бяседа
Лясная
Без лесуна.

Лясун-ласун
Па лесе брыдзе
З дзеразоваю плёткаю,
Ловіць пчалу ў верасовае барадзе,
Каб абсмактаць салодкую.
Боты з бяросты.
Нестарога ўзросту.
Ростам з лес,
Як і лес, багаты.
Лясун-хварсун
Калі йдзе ў сва́ты
Да даўгалыгай лясішкі,
На каралі збірае шышкі.
Такія каралі
Калючыя, як вусы лесуна,
Даспадобы лясное кралі,
Іх аценіць умее яна.

Лясун не вып'е ні цэбра віна,
Каб не пачаставаць мядзведзя.
Мядзведзь з відна да цямна
Лесуновы харомы вартуе недзе.

А ў лесуна сваты
Абутыя ў боты з моху,
Кожны левы бот без пяты,
А ў ботах поўна гароху,
Каб не ацялякваді ў дарозе,
Не доўга венік абтоптвалі на парозе.

І сваты ў хату лезуць,
Аб парог зады чэшуць,
Ілбамі вушак падпіраюць
І ў кацёл пазіраюць,
Ці тлуста капуста,
Ці вялік кацёл кашы,
Ці наядуцца сваты нашы?

. . . . . . . . . . . . . . .

І шум і гам заціх.
Як глянуць — з коміна
Прыехаў Вададых
Вярхом на соме
На
Бяседу.
Вадзянік
Не можа без віна.

Азызлы твар.
Жывот
Не ў згодзе з дзягаю.
Засмяг прадонны рот,
Прапах бадзягаю.
 Як наш сусед Трахім,

Прывык да грукату.
Ён мала есць зусім,
А п'е да ўсюкату.

Як гаспадар віроў
Жыве данінаю —
Бярэ ад млынароў
Душу нявінную.

Ваду цягае ён
На тое кола,
Дзе
Млынар яго здавён
Трымаў не ў голадзе.

Увіты Вададых
Сцяблін супонямі.

Мо ён з прыроддзя тых,
Што дзеда помнілі.

Механік па млынах
Век зжыў не балмаччу.
Пёр на крывых рагах
Сам чорт ад Галвіньша.

У споднiках рудых,
Бо йшоў балотамі,
Вясёлы Вададых
Плыве з залётамі —
Русалка блізка,
Дык
Вядзе агледзіны.
Упіўся вадзянік.
Куцця не з'едзена.

 . . . . . . . . .

І не ваўкі яны й не сабакі,
Бліжэй да ворагаў пастухоў,
Амаль рахманыя вышчаракі
Набеглі ў хату з усіх бакоў.

Зязюля вылецела знячэўку,
Да аднаго прыпала ваўка.
Ў зязюлю перакінула дзеўку
Благое вока чараўніка.

Княгіня стала ў сям'і птушынай
Зязюляй шэрай,
А князь — жаніх
Ваўком завыў
І з усёй дружынай,
Ужо з ваўчынай гайнёй,
Заціх.

А праляцела ўсе баравіны,
Ніхто адчаю не дапамог,
Там,
Дзе згубіла свае слязіны
Зязюля,
Вырас зязюльчын мох.

Ваўчыныя не ядуць прысмакі,
Не сырамясіцу, а праснакі.
Дзе плачуць шчырыя ваўкалакі,
Там з-пад карчэўя
Бягуць раўчукі.

Іх смутак грэе ўспамінам хата.
Ваўкі — халодныя сваякі.
Ваўчыных ягад спее багата,
 Растуць ваўчыныя баравікі.

Нюхнуць бы не мядзведжай табакі,
Глынуць бы настоенай на траве.
Хінуцца да людзей ваўкалакі,
Бо людская душа ў іх жыве.

Ім хочацца,
Забытым, бяздомным,
Адчуць наноў чалавечы страх.
Ды ваўкалачвацца ў лесе цёмным
Іх доля.
Дадому травее шлях.

## XIII

Сабраліся ўсе
За нашым сталом,
Што помніць маміны рукі.
Ахінула лагода маўклівым крылом
Да раніцы гукі і рухі.

Хто з паганскіх часін
Часаў пешака,
Хто на вятрах пёрся конна.
З усіх багоў
Аднаго сівака
Не відаць у застоллі—
Кона.

. . . . . . . . . . . . . .

Недзе, дзе свету прысветак,
Дзе неба ідзе на схон,
Дзе ўдзень нараджаецца ветах,
Заснуў сабе
 Волат Кон.

Ссівілі яго часіны,
Збялілі яго гады
Ад аблачыны чупрыны
Да туману барады.

Дрэў ні ў лясах,
Ні ў дубровах
Такіх не расло аддаўна,
Як у ягоных бровах
Любая валасіна.

У свеце ўсяму жывому
Ён даў неадменны закон
І права не даў нікому
Змяніць яго,
Выйсці за кон.

Калі б з-пад броваў-дрэваў
Зірнуў, прачнуўшыся, Кон
На свет—
Свет увесь згарэў бы,
Бо Конаў наменнік—
Скон

За ўсімі пільна цікуе,
Свайму не верачы сну,
І кару выносіць такую,
Якая ў каго на кану.

І толькі любой парою,
Не збочваючы нідзе,
Канодумка—
Вечная мроя
У вырай душу вядзе.

 . . . . . . . . .

Хай спіць валаціна Кон,
Пытаннем не патурбую,
Якую
Мне долю накрэсліў ён,
Добрую ці благую.

Са мной пабыць яшчэ
Папрашу,
Угавару долю
Не спяшацца заказваць імшу—
Не позна ніколі.

Бяглівага веку свайго веташок,
Як пустабрэх,
Не сцацкаю.
Хачу напіцца на пасашок
З крыніцы ўшацкае.

Пакуль не прачнуўся
Кон-пільнавок,
Пакуль бяда сляпая,
Хай па-зямляцку
На след мой воўк
Яшчэ ступае...
P. S.
Вясёла вяселле гуляе Сам,
Як заўсёды,
Трыццатага сакавіка.
І я ў гэты дзень
У думках
Тэлеграму ў Вушачу дам,
Павіншую як сваяка.
І, хоць не п'ю ні глытка,
У думках
Да дна коўш асушу
З медавухаю маладою.

І з мамінай хаты Гаспадара
Папрашу
За маю душу
Не спрачацца з бядою.

Хай ва́да,
Як збузяненая вада,
На сухія лясы сплывае.

Пакуль за душой
Цікуе бяда,—
Душа жывая...

* * *

Месту, каб стаць Парыжам,
Спачатку патрэбна мясціна
Такая, якая ў вяках
Не знікае
І ўсіх змушае
Пераймаць, пакланяцца,
Але з ахвотнай пашанай.
Яшчэ неабходна цвёрдасць,
Каб не паддацца
Ні мілоснікам чулым,
Ні зайздроснікам хіжым,
І заставацца
Парыжам, Парыжам, Парыжам...

* * *

Рыфмаў дужа мала
На Парыж,
Як і грошай у паломніка-турыста.
Можа,толькі агароднае
*Акыш*
Загучыць, як прывітанне,
Ганарыста.

Зайздрасць беднага багатаму
*Акыш,*
Бог прымае, як і даўшы, галыша.
І, здаецца, гэтае паветра сніш.
Па красе здаўна галодная душа.

Боязь краю незнаёмага
*Акыш.*
Кожны дзень твой пачынаецца спярша.
Пыху сціш,
Падумку зніжаную ўзвыш,
Ап'яней ад ветралому-скавыша.

У Парыжы—
У сталіцы летуценнікаў
Разумееш тлен усіх лаўровых венікаў.

Вучыць сціпласці
І тым жыве Парыж.
Прага славы, марнасць марнасці—
*Акыш!*

## *ДАРУЙ І ПАЧУЙ*

Ледавік, калі ішоў на Еўропу,
Дзесяткі метраў за год прасоўваўся,
І ў панцыр каменны браў не з налопу,
І меў прытулак у нас не часовы.

Кіламетраў з паўсотні штогод рашуча
Захоплівае ледавік Чарнобыля.
Не маюць ратунку ні мора, ні суша.
Такому каню не завернеш аглоблі.

Не запеленгуюць бяду радары,
Як стукачы, аблавухія.
Еўропа, даруй і пачуй,
Спадарыня,
Ледавік радыяцыі рухаецца...

* * *

Няма замежнае травы,
Трава ў Вушачы і ў Парыжы
Не дбае аб сваім прэстыжы,
Ды ведае свае правы —

Не прызнаваць мяжы нідзе,
Расці служанкай цемры з праху,
Рунець без літасці, без страху
На радасці ці на бядзе.

Няма травы за той мяжой,
Адкуль не вернешся ніколі,
Не вымаліш спатолі ў долі
На мове нематы чужой.

У царстве ценяў, што ў трысці,
Свой цень адрозніць сілу страціш.
Не ўчуеш сам,
А ўчуе за́ціш,
Як будзе там трава расці,

Дзе выпала й табе брысці,
Каб ахінуцца муравою,
Бо без зялёнага канвою
 Не абысціся ў забыцці...

* * *

Чалавек чалавеку чужы,
Так, відаць, павялося ад Бога.
І на покуці і на крыжы
Ці ад болю, ці з балю крычы—
Не расчуліш, не ўшчуеш нікога.

І самотныя зоры радней
Між сабою ў Сусвеце,
Чым людзі.
Спачуванне мільгне ў перапудзе
І растане, як след ад саней
На зімовай дарозе бяды,
Халаднейшай за сэрца людское,
Незаўважнай хадой па якое
Адыходзяць упрочкі гады.

У счужэлых лясах гарадоў
Беспрытульная радасць блукае,
І падказвае вестка благая
Наступленне людскіх халадоў.

## *ПАРЫЖ КАНЦА КРАСАВІКА*

*Ірыне Заборавай*

Парыж канца красавіка.
Квартал не месціцца ў квартале.
У за́глушы асабняка
Французскі салавей картавіць.

У крыгаходнае рацэ
Глухіх машын,
Як нечаканка,
Галодны позірк урачэ —
Ільдзінкай блісне парыжанка.

Спрабуе змрок загаварыць,
Гудок алярма дахі рэжа.
І манпарнасаўская вежа
Канцэртнай сукняю гарыць.

* * *

На Рускім могільніку Парыжа
Схілілася Яраслаўнай жалоба.
Жвіровы холад.
Аблокаў абніжжа.
Пярэчыць нябыту слабая спроба.

Абломкі знаці, акраўкі світы,
Надзея нацыі, інтэлектуалы.
Адное кнігі вокладкі-пліты,
Змест спаконвечны,
Сюжэт трывалы.

Яны засланялі сабой Айчыну,
Яе панеслі ў зямлю сырую.
Ані ўспаміну пра іх, ні ўшчыну.
Ўсіх прыме Госпад
І ўсё даруе.

Не просяць ні літасці, ні адплаты
Званы прысядзістае званіцы.
Становіцца ясна, хто вінаваты.
Ды хто перад мёртвымі будзе вініцца?

## *У МАЙСТЭРНІ Ў БАРЫСА ЗАБОРАВА*

Слівіна з выбалелымі сукамі
Адцвіла. Зацвітае каштан.
Пранырлівы, як сам шатан,
Верабей у мураве зялёнае
Нешта шукае.

Маэстра з чорнай яшчэ барадою
Вераб'я па-гаспадарску пасе,
Як пад Мінскам бычка-трацячка па расе
Разам з бадліваю чарадою.

Пыл вясковых дарог
Успамінае мінчук карэнны.
Ірына ў гарачую бульбу
Кладзе па-ўшацку кроп.
Мастака з Амерык, з Азій, з Еўроп
У Беларусь скіроўваюць гены.

Забыўся мой гатэль на Распаі.
Як некалі ў мамы маёй, гасцюем сябры.
Дыміцца бульба ў парыжскім двары.
 Быкава адно не хапае.

Барыс у марах не ў ба́рах —
У бара́х зялёных,
Якія забрала чарнобыльская чума.
Карцін у майстэрні амаль няма—
Яны ў дарозе, яны ў салонах.

Забораўся конь не чуе сутрыму...
Дзядзінцы крывіцкія
Праступаюць з імжы...
Мастак у Парыжы,
І з-за мяжы
Слава вяртаецца на радзіму.

* * *

Як і некалі полацкі
Часцік дробны ў тамаце,
Прадаецца ў бляшанках
Паветра Парыжа.
Накупі і надыхайся
У сасновай хаце,
Каб бярвенне жывіцай
Заплакала рыжа.

Ад паветра Парыжа
Хмелевата багема
З туманом перадасца
Карчыстаму ляду.
І згадае ў самоце
Лірычная тэма
У залеве неонавай
Талію далягляду.

І жывеш,
Толькі ловіш паветра,
Пакуль аж
Прах твой закансервуюць,
Не шкадуючы цынку.
Келіх неба Парыжа
На ўспамін перакуліш,
А на дне парыжанкай —
Згледзіш
Смуглую аблачынку.

* * *

Піў бы я мёд і віно,
Горка пахмелле маё,—
*пяяла ўшацкая бяседа*

Як у п'янку, ўцягваешся ў Парыж
Паступова, ахвотна, трывала.
І пасля неатушанай смагай гарыш,
І пахмелля ўспаміннага мала.

Радасць раніцы словам парыўным
*Парыж*
Папярхнулася ад захаплення.
З Бахусам чмур Амур
П'юць вясёлы барыш,
Сваякі ў недалёкім калене.

І прызнацца сабе не асмелішся ты,
Што з парыжскага алкаголю
Ні ў мальбе, ні ў кляцьбе
Да апошняй вярсты
Болей выйсці не зможаш ніколі.

## *АДЗЬЁ, ПАРЫЖ!*

Адзьё, Парыж!
Бывай, Парыж.
Наўрад яшчэ цябе пабачу.
Табе ў вякі,
А мне ў Вушачу.
У кожнага свой шлях,
Свой крыж.

Яшчэ распаліць смутак мой
Твая апошняя катрынка.
Душы самотнае падтрымка
Патрэбная душы самой.

Успомняцца лычы глякоў
І парыжанка, як з іконы,
Што несла доўгія батоны,
Нібы бярэмца смалякоў...

## *УДАКЛАДНЕННІ ДА АСАБОВАГА ЛІСТКА ПА ЎЛІКУ ПАРТЫЗАНСКІХ АТРАДАЎ*

ПАЭМА СМУТКУ

Гэта два лісткі са школьнага журнала,
запоўненыя бацькавай рукой
у патрэбным парадку дбала.

Не на анкеты такія,
дзе адзначаліся дзеянні баявыя,
журнал прызначаўся гэты.

*Месяц назва прадмета*
*прозвішча і імя вучняў*
*чыслы месяца*
Усё ў адпаведных клетачках месціцца.

*Адзнакі аб наведванні*
*(пропускі заняткаў, спазненні)*
*і ацэнка (адзнака) пасяховасці вучняў*
*(вусныя адказы) і пісьмовыя работы*
А заместа іх:
баявыя пярэдадні,
раненні,
атакі,
супрацьгазы,
стаптаныя боты.

*Характарыстыка заняткаў*
*і паводзіны вучняў*

А тут не падлічыш колькасць
сталёвых ападкаў
і колькасць атручванняў.

*Прозвішча выкладчыка*

Чорт не біў яшчэ ў кула́чыкі,
і ўжо выкладвай апошнія сілы,
і сваё забудзешся прозвішча,
як прыцісне бамбёжка ды мароз яшчэ.

1

*БАРАДУЛІН ІВАН РЫГОРАВІЧ*

Гэта бацька мой,
які мне дагэтуль пахне распараным летам
і снежнакажушнай зімой.
Яшчэ ён пахне мне
стружкамі з-пад барана,
зямлёй, што рассыпаў рыдзель лабаты,
цапавільнам і слёзамі зерня ў гумне,
пахне пахамі ўсімі, якія забрала вайна,
прыглядаючыся да таты.
І дагэтуль мне пахнуць
прыкарэлыя да твару бінты
толам сляпым
і марганцоўкай бязлітаснай
(бацька з бомбы тол выплаўляў
і агонь круты
лішнюю лютасць з толу выціснуў).
Яшчэ мне помніцца з давайны,
калі перакульваў лішнюю чарку,
не адчуваючы за сабой віны
і не ўшчынаючы з мамай сварку,
лагодна, без гвалту і крыку сам
размаўляў з лапавухім фікусам —
фікус бацька рашуча абдымаў
і ў запале
называў яго імем суседкі Валі.
 Чамусьці не падабалася мне

сена ўтоптваць на гары,
ці па-літаратурнаму — на гарышчы.
Пацяруха калолася гэтак,
хоць сябе на кускі раздзяры,
хацелася піць, даводзіла духацішча.
Хмурыніліся ў бацькавых руках вілы,
мы з мамаю пераймалі сена.
У бацькі хапала сілы.
Сена на беркаўцы важылі без бязмена.
Гілёня вярталася з пашы
і, думаючы пра зіму,
сваім загадкавым му-у-у
ухваляла клопаты нашы.
Дзесяць беркаўцаў увобмаль хапала,
а папеўка пра рэзгіны
малечае вуха не абмінала:
*Усе залёткі як залёткі,*
*А мая, як рэзгіны:*
*Усе гуляюць, весяляцца,*
*А ў мае—ўсё хрэсьбіны.*
Мне ўсё яшчэ ніякавата
ад незразуметай віны.
Помню, сена ўжо спала.
Толькі дзе яны,
мама і тата.
І я палез на гару
гэтакім ціхім ценем.
І — думаў ад сораму ўвесь згару
разам з сенам:
тата з мамаю цалаваліся
і на мяне ажно ўзлаваліся
усяго на імгненне,
а потым мяне жалелі,
цалавалі,
са мной дурэлі
на свежым сене.

2

*НАРАДЗІЎСЯ Ў 1908 Г. В. М. УШАЧА*

Нарадзіўся ў вёсцы над Вечаллем
у малахацінная Кавалеўшчыне,
гэта б усе аднавяскоўцы пасведчылі
і пугуркі ў густым алешніку.
Спачатку паставіў в.,
а потым мястэчка Ушача.
Чаму спатыкнуўся на вёсцы,
крыху ніжэй растлумачу.
Кавалеўская хата ў вайну,
як і ўшацкая,
згарэла ў сорак чацвертым.
Агонь разбіраў абедзве
па бервяну
па даўнасці дрэва сярдзітым экспертам.
У Кавалеўшчыне
утравеў курганок ад хаты,
дзе жылі Грышчаняты.

3

*БЕЛАРУС*

Напісаў з вялікай літары,
быццам выразаў лыжку з ігрушыны,
бо маці з Міцкевічаў,
з беларусаў, вядома,
дый бацька Грышка старавер збеларушаны,
па ім у сына Івана сінія вочы
і валасы як не цямней ад саломы.
Бабуля стала Барадулініхай, Грышчыхай,
і Грышчанятамі былі ахрышчаны
 дзеці ўсе, а было іх што бобу,

раслі і цвялілі бяду і хваробу.
Шкада, што выгавару бацькавага не помню,
помню губы і ўсмешку.
Каня сваёй памяці рассупоню,
хай пасецца на ўзмежку
забыцця.
Хаця
ўспамінаю адразу
бацькаву фразу:
«А дзе мой чорненькі?» —
Гэта значыць, што бацька
напамінаў пра дзягу,
якой, руку даверыўшы жалю,
маю да навукі цягу
зрэдчас павышалі.

Наша глыбінна-крывіцкая старана
з балцкай падсветкай
плыла часцяком лодкаю без стырна
паўз перагібістыя берагі
паланізацыі і русіфікацыі,
не паспяваючы і не жадаючы
да ніводнай звыкацца.
На тых, хто шарахаўся зайцом у хлудзе,
пазіралі з дакорам,
бо вышэй над усім ушацкія людзі
ставілі сорам;
добра таго біць, каму баліць,
добра таго лаіць, хто сорам маіць.

Калі хто ў шляхту ціснуўся,
як у паз прусак,
ці пад касцёлам стаяў бараной,
з яго кпілі ўсмак,
як
вымаўляў язык яго вялы:

«едэн конь бялы,
другой вараной».
Калі хто дужа стараўся хварсіць,
што хутка набраўся горада
і ўмее русіць,
што нібыта ў начальства выцерабіўся,
на таго махалі рукой —
напіціраўся.
Задоўга да веласіпеда
і матацыкла
сусед частаваў суседа
і жартаваў, як шляхта ўзнікла:
ваўку хапіла жывот
і воўк пабег па карчах,
па кустах, па лядах,
і шляхоцкі ўзнік радавод
у ваўчыных прысядах.
Карчэўскі — прысеў у карчы,
Хвашчэўскі — сядзеў у хвашчы,
і гэтак прозвішчы ўсе лічы.

Бабуля Малання лічыла
католікаў недавяркамі,
а польскую мову беларускаю,
але пакалечанай.
На куццю Перуна залагоджвала скваркамі,
а на Вялічка перад іконай кленчыла.
Бабуліна маці —
бабулькаю я называў яе
і з гасцінцамі пераймаў за пуняю, —
яшчэ ўспамінала унію
далёкай тае
пары,
калі
на нашай зямлі
па-беларуску Бога славілі святары.

4

*РАБОЧЫ*

Перш чым працаваць цесляром
у м. Ушача, мусіў спачатку
пакінуць Кавалеўшчыну
і двойчы ставіць дом,
дзе па дастатку пяклі букатку.
А ўвесь Ушацкі раён
мяжаваў з тагачаснай Польшчай.
і ў нас газета выходзіла
«Прымежны калгаснік».

І калі ў Глыбокім чокаліся,
чуўся ў Вушачы пошчак,
дзе кожны жыхар быў пільны,
асабліва рэліктавы дробны ўласнік.
І ў Кавалеўшчыне
за шклянкаю самагонкі збіраліся ўтрох
і, павесялеўшы, казалі:
— Давай пасадзім Стахвана...
І тут жа пісалі, што брыку сена
ці цэлы стог
прадаў ён у Польшчу,
і рана-рана,
калі ўжо за мяжу збіралася ноч,
чулі, як з дзядзькам замежным
ён гутарыў ціха,
а ўдзень не ўзнімаў на вяскоўцаў воч...
Гэта пасведчыць сама Петушыха.
Хоць Петушыху язычніцай звалі
за доўгі язык.
Яшчэ дадавалі,
што ў Стахвана ў падвале
знік
польскі шпег.
 А Кавалеўшчынай жарт за Петушыхай бег,

ад яго ні ў пельку, ні за бэльку,
бо малыя вачапоры як наліха
ўсе дуракавалі:
«Мама, мне пашый такую ж камізэльку,
як у нашай Петушыхі—
з рукавамі».

Шчырэла тройка
(пазней я даведаўся,
што аўтар гэтае птушкі-тройкі
мянушкаю шэры Кардынал
ці проста — Шурык).
Выдавалі ў хаце і вокны, і перабойкі,
пад допытамі
пачынаў гаварыць камянямі падмурак.

У Котлас,
у лес зімовы, сыры
высаджалі з «быдлятнікаў» кавалеўцаў.
Не вярнуўся ніхто — ні малы, ні стары.
А падазронасці воз,
на якім ехаў перапуджаны лёс,
не падскокваў на брукаванцы ўлегцы.

І мама, тады зусім маладая,
не выганяючы страх з вачэй,
сказала бацьку майму:
— Пакуль нас бяда выглядае,
дай, Божа, ногі, адсюль хутчэй
з'едзем...

І пераехалі без тугі
на новыя, савецкія хутары,
што афіцыйна гучалі:
вёска Гарадок II (другі)
Востраў-Сарочынскага сельсавета.


10—1427

Зямля — неабжыты рай,
карчуй карчы, камяні выдзірай
і потым ары.
Жыві сабе пасяленцам
з Новага Запавету.
Востраў —
прагал у моры лясоў
называецца з даўніх часоў.
У «Хроніцы Быхаўца»
упамінаюцца астравы...

Ды з лебяды,
з асакі — разучай травы
сябе называе мясціна:
Верасовачка.
Узгорак, балацявіна.
Што валуны не самі тут перасоўваліся,
доўга помніла бацькава спіна.
Раскладвалі вогнішча на валуне,
награвалі, а потым на часткі скіпалі.
Валун, што вякамі горк у палыне,
аддаваць не хацела зямля скупая.
За пазухай у Верасовачкі яшчэ
ляжыць валун з адкрыжаным бокам.
Шмат вады сцячэ,
шмат начэй уцячэ,
а ён так і будзе ў неба глядзець
скамянелым прарокам.

Звялі на самоў хвост
у Кавалеўшчыне племя мужчынскае,
языкамі скасілі, што косамі,
паклалі самую сілу, самы кром, улост.
Было браць пачын з каго
(Маякоўскі некалі раіў з Дзяржынскага).
 На торг паспелі з козамі.

З Верасовачкі мне запомнілася,
як вухкалі пугачы ўначы,
як зімой на гілёў плялі пляніцы,
як жнеі жалі ў латоцы, жаласна пеючы,
і яшчэ — з малаком чарніцы...

5

*БЕСПАРТЫЙНЫ*

Абавязковае пытанне глуха
графа задавала
ад вясковае развалюхі
да таежнага лесапавалу.
Мама пасля ўспамінала няраз,
што бацька стараўся быць далей
ад партыі, а значыцца, ад улады.
Не пасадзілі — і будзь рады.
Як след не ўзялі з ГПУ аўчаркі,
хмялей
без чаркі.
А вы, парцейцы, пацейце,
дрыжыце за крэсла,
пільнуйцеся, каб з куросадні
вас не пастрэсла.

6

*АДУКАЦЫЯ: 3 КЛ.*

Звычайна яшчэ ўдакладнялася жартам:
тры класы з калідорам.
Такім, як бацька, ў навуцы ўпартым
 можна было і ўсю дзесяцігодку

агарацъ не з горам
напалам.
Бацька сам
хацеў быць грамацеем,
але станеш дзе ім,
калі за маці трэба дагляд
(Грышчысе было пяцьдзесят,
калі ў яе знайшоўся Іванька—
падскробак, апошняя ўцеха
і нянька).
Бацька ў сям'і быў сёмым дзіцём,
упаў як град
на галаву;
папярхнуўшыся вясковым жыццём,
як асцём,
хто ў Ленінград,
хто ў Маскву
падаліся ўсе сёстры, браты.
Пажадалі брату Іваньку,
бы з казкі герою,
у дарожным настроі:
    — Вялік расці,
дзевак басці!
Маці глядзець будзеш ты.
Уцяклі ад калектывізацыі
і Салаўкоў
на голас фабрычных гудкоў,
і з часам
у тлуме, ў дыме
сталі рабочым класам,
які кулакамі цвярдымі
у светлае заўтра падганяў кулакоў.

Бацька ў вушацкіх крамнікаў
браў пад запіс у доўг
 усё, што цяпер завём дэфіцытам,

і не адзін бы тады воўк у лесе здох,
каб яго крамнікі ашукалі са спрытам.
Іван меў усё
ад каня да дугі.
З дзвюх сталіц прыязджалі
і плацілі даўгі.
Ушача хварсіла мураванкамі.
І любіў паказваць бацька,
як цвяліліся крамніцы нязлосна
з сялянкамі:
— Хадзі сюды да мяне, сяроўка!
— Ай, часу не маю, мая ж ты сяброўка...

Калі ажаніўся, не пытаючы згоды,
рабіць давялося не цераз пень-калоду —
упрогся ў навуку туга,
спасцігшы спрадвечны аратайскі закон.
Не для слоўка прыгожага ён
са сшыткам мог параўнаць загон,
з пяром —
нос кірпатага плуга.

7

*ЯКІМ Р. В. К. І КАЛІ*
*ПРЫЗВАНЫ Ў ЧЫРВОНУЮ АРМІЮ:*

Не забралі, не замялі
часінаю хмарнаю,
белабілетнікам стаў
не па сваёй віне,
і ў адказе кароткае
*не.*

8.

*УДЗЕЛ НА ФРАНТАХ:*

Тут бацька пасля запытання
паставіў двухкроп'е
і зноў кароткае
*не.*

Са стагоў успамінаў
па кузлачку нагроб я
мурагу, што мякка казыча ў сне.
Райваенкамат (называлі і енкаматам,
Бо знаёма ўстанова і з енкам і матам)
перад самай вайною
сабраў на манеўры мужчын,
каб да небяспекі магчымай спіною
не стаяў ні адзін.
Мы дзівіліся з дарослых дзядзькоў,
як з драўлянымі вінтоўкамі і гранатамі
яны, ад недарэчнай радасці
не стрымліваючы мацюкоў,
перамогу ўяўную сваталі.
Адзетае так-сяк,
так-сяк абутае
мазгоў неправетраных плодзіва,
падпеаразанае акраўкамі, путамі
называлася войскам
і страх бадай што наводзіла
на беспрытульных сабак.
Пакуль мы ў песнях
самаўпэўнена пеніліся,
ды бровы сурова хмурылі,
ды надзімаліся грозна рапенямі—
Еўропай топала войска фюрэра.

9

*АДКУЛЬ, КАЛІ З ЯКОЕ ПАСАДЫ ПРЫБ. У ПАР. АТРАД*

Бацька словы паскарачаў,
каб смясціць у адзін радок,
адказаў:
*з вёскі добраахвотна.*
А вёска якая, Кавалеўшчына
ці Гарадок?
У мяне на душы слотна.
Добраахвотна ішлі ў калгас,
добраахвотна ехалі ў Котлас.
У кожным пытанні ёсць лаз,
ёсць подлаз
(і праверка на подласць),
мы дасюль па інерцыі жывем напаказ,
з далані на даланю
перадзімаючы ісціну і пацяруху.
На ўсе пытанні адказ
дасць некалі час
пра добраахвотнасць нашую ўсю
і партызанскага руху.

10

*ЦІ БЫЎ У ПАЛОНЕ:*

Пытанне гэтае асабіста
цікавіла і партыйнага і армейскага
асабіста,
з іх кожны вынюхваў усё
ад недазволеных слоў і сноў
да высноў,
ці духам савецкім

пахне ў ваякі пот,
каб элемент варожы з ходу
пусціць ў расход,
атрымаўшы маўклівую згоду
бацькі народаў.

Партызаншчына—
таксама добраахвотны палон,
за якім з-за лініі фронту сачылі,
і шнур бікфордаў
са страху класавага сучылі,
каб дамоў не пускаў анікога ён,
каб толькі пускаў
цягнікі варожыя пад адхон.
За партызанамі пільна глядзелі
з Вялікай зямлі—
на давер не адбіралі надзеі,
ды ўлік на пасля вялі.

11

*ЗАЙМАЕМАЯ ПАСАДА*
*І РАЁН ДЗЕЯН. АТРАДА:*

*З 8/X-42 г. па 8 ліпеня 1944 года́ баец бр. Мельнікава атр. ім. «Катоўскага». Дзейнічаў. Ушацкі р-н, Віцебскай вобл.*

Калі зрэдку, бывала, прыходзіў дамоў,
нічога не расказваў пра дзеянні баявыя.
І ад цікаўнасці да дарослых размоў
балелі ў мяне і вушы і шыя.
Парою ў запале з-за каптура
хацелася закрычаць *ура!*

Як спаць мясцерылася цішыня
і дзверы былі на завале,
бацька расказваў мне пра свайго каня,
якога Мальчыкам звалі.
Як цяпер разумею,
бацька быў нейкі час ездавым,
падвозіў сілкаванне бою на перадавую,
трымаў у парадку
каня і збрую.
І віўся над ім
асабіст-херувім.

На крухмал у нас гаварылі іл,
мама на свята прыходу таты
варыла на малацэілоўку.
І лозунг вядомы: фронту — тыл
усе запасы стрыг пад нулёўку.

Я запомніў на ўсё маленства
пра грознасць брыгады Смаленскай.
Смаленцы на немца наводзілі страх,
ад гневу святога,
узляталі масты, як ад толу.
І дзе яны праходзілі па тылах,
там рабілася гола —
хоць пакаці шаром.
Смаленцы з'яўляліся,
як з яснага неба гром
грымучы.
Заставаліся ў хаце падушкі —
выпускалі пух,
як з акупантаў дух,
і навалачкі ішлі на анучы.
І смаленцы ў Вушачу прыйшлі —
у сталіцу партызанскай зоны.
 Тут ужо не ўстанаўлялі свае законы,

гэта ж не на нічыйнай,
безабароннай зямлі.
І зносілі ім хто валёнкі,
хто нейкі кажух,
хто даматканіну, хто крамніну.
У заключэнне ў РДК перад местачкоўцамі
выступіў агітатар-зух
і падзякаваў ушацкім усім
за добраахвотную такую даніну.
Пад канец, калі прамова пагасла,
з апошніх самых радоў
у некалькі нясмелых ратоў
задалося пытанне,
просячы адказаць без маны:
— Пасля вайны
ці будуць калгасы?
І камісарысты агітатар недвухсэнсоўна
сказаў як адсек:
— Будуць калгасы ў нас, безумоўна,
а як
без іх?!
І ўвесь сход абмяк,
заціх.
Хоць ты назад кожны сваё забірай,
што ахвяравалі смаленцам-суседзям.
Ад роспачы тут не адзін
зароў бы мядзведзем.
Дужа ўжо не хацелася
вяртацца ў калгасны рай.

Са смаленцаў, дарэчы,
быў Міхаіл Ягораў,
што ўзнёс над рэйхстагам сцяг.
А ў 1961 годзе буфетчыцы капрызны нораў
усе мае намаганні звёў на прах.
 У віцебскай гасцініцы, ў «Дзвіне»

(шкада, што ўсё гэта магнітафон
не наматаў на сінтэтычны вус!)
паўлітра «Пярцоўкі» не хапіла мне,
каб Ягораў прызнаў,
што ён, хоць напалову, ды беларус.
Буфет буфетчыца зачыніла на абед,
адно беларусам застаўся
ў Ягорава дзед...

У сене — каб цёпла і цёмна —
я памідоры бацьку спяліў
і фарбаваў на Вялічка яйкі
шалупкамі ад цыбулі.
А бацька тытунь без жалю смаліў,
і клопат быў ва ўсіх —
у мамы, ў мяне, ў бабулі.
Садзілі тытунь, гадавалі, сушылі,
а потым бацькавы пальцы крышылі
ліст і карэньчыкі.
Востры нож
стукаў па дэнцу дзюбкай,
а жарт дарослы ўсміхаўся на ноч,
шчэрыўся незачыненай грубкай:
　　Тытунёк-самсон,
　　маладым на любасць,
　　а старым — на сон.
Пасля вайны
яшчэ маленькай ялінка была,
што стаяла на ростаньках,
калі на расстанне
бацька даў мне з вінтоўкі стрэліць,
хоць быў я крыху вышэй ад ствала.
Гаркота мая ніяк не растане.
Я слаба ўпёр у плячо прыклад
і мяне на зямлю пакаціла
 цёмнаю парахавою сілаю.

Які ж быў у бацькі
спалоханы-злосны пагляд!
І ён мяне — ў апошні раз — вылаяў.
Не саўладаў я з сілай грымучаю.
Мы рассталіся, бацька засмучаны
і ягоны сын, якога
крыўда на сябе самога мучае.

З гадамі кожны пачне разумець,
што жыццё — тая самая клець,
дзе ўсяго навалена кучаю.
Ды кожны свае
мяхі дастае
з мукою, з мукаю.
А доля
галоднаю перадойкаю ў поле
самотна мукае.

12

*РАНЕННІ І КАНТУЗІІ:*

*няма*

Вывела бацькава рука сама,
хоць душу ягоную бесперапынна ранілі
крыўды і клопаты раннія,
і знявагаю цесляра кантузіла
начальства даваеннае таўстапузае.
Пасля няма ўпэўнена кропка стаіць —
няма чаго даўнія крыўды таіць!

13

*УЗНАГАРОДЫ:*

*няма*

Іх радавым давалі не часта,
слава — такая кума,
што круціцца каля начальства,
павагі больш у яе паглядзе
да таго, хто пры званні
(загвоздка тут не ў прызванні),
хто пры пасадзе.
Кропку тут не паставіў
не таму, што не хапіла
чарніла,
а таму што, няйначай
задумаўся на імгненне,
адкаціўшы абраз каменне,
і пласт саломы стомы
ўхапіўшы на вілы ўсмешкі,
хацеў успомніць без спешкі,
як гаспадароў заможнікаў
да прэміявання пуцёўкамі на Салаўкі
чулыя кіраўнікі-бацькі
узнагароджвалі не бліскучым значком,
не граматою папяроваю,
а вепручком,
караваю.

Узнагарода
ад імя народа
ўручаецца ўсім здаўна.
А нагода?
Лёгкая на паміне яна.
Бацька без узнагарод,
а сын законнанароджаны,
 ад імя народа ўзнагароджаны,

агароджаны,
як гарод
ад патраў.
Давалі ордэн — не тэрмін! —
браў.

14

*СЯМЕЙНАЕ СТАНОВІШЧА:*

*Барадулін Грыгор*
*Віцебскай вобл. м. Ушача*

Добра, што гэты пункт у анкеце
мама так і не ўбачыла,
бо крыўда магла ашпарыць гарачая
з прычыны тае,
што ў анкеце,
нібыта на белым свеце,
няма яе.

Успамінала мама бацькаў расказ,
як Мельнікава брыгада Лепля займала.
Мельнікаўцы па гарнізоне ўдарылі ў час,
а суседняя брыгада адстала,
пакуль самагонцы скручвала горла,
і ўсіх назад
нямецкая дакладнасць адпёрла.
Хапіла і партызанам,
і іхняй адзінай гармаце.
Бацька казаў, што пабачыў пекла,
а ў яго выпытвала маці,
ці памяць яму не адсекла,
ці помніў ён жонку і сына,
а ён адказваў, што была і такая хвіліна,
аж не помніў сябе,
і мама была ў журбе.

Бацька ў анкеце помніў мяне
і ў прыдачу
за мной запісаў Ушачу.
Любога чуласць такая кране...

*8 ліпеня 1944 года*

Адной і той жа рукой
пастаўлена дата
і ўнізе ўласнаручны роспіс.
А мне ў каго запытацца,
тата,
каб не расцячыся слязамі ўроскіс,—
кім заблытаны,
людзьмі, забыццём,
дзень твайго расстання з жыццём.
Я ж пятага мая
чарку жалобы ўздымаю,
не чокаючыся, стаўлю на стол,
і зноў мне пахне разгневаны тол.

...Ад такога ўспаміну
крывадушнік бы ашалеў,
ды я прыгадваю,
як зайздросна глядзеў я ў захапленні
на кішэні
ў портках і на рамень,
як мы з табой, зайшоўшы за хлеў,
спаборнічалі смялей,
хто з нас далей
пашле свой струмень...

А на апошняй старонцы
апошнім пунктам
мне цяпер у кожным сугуччы
чуецца стронцый,

атам — не конь партызанскі Мальчык,
яго не спутаеш і жалезным путам),
як жменя прысака—

15

*БАЯВАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА:*

> *тав. Барадулін Іван удзельнічаў у многіх баях па разгрому нямец. гарнізонаў. На сваім асабістым рахунку мае забітых немцаў 17 чал. падарваў 1 аўтамашыну, 4 падводы з жывой сілай, чыгуначнага палатна ўзарвана 13 рэек маральнапалітычна ўстойлівы Аддзадзены справе партыі Леніна-Сталіна*

Зарэзаць пеўня, забіць вепрука
не падымалася ў бацькі рука,
і суседа заўсёды прасілі.
Толькі б не бачыць разяўленую дзюбу,
не трымаць ашчэраны лыч бы,
хоць бацька быў, вядома, пры сіле.
А тут — канкрэтныя лічбы.

Чаму ж ні ордэна, ні медаля
не знайшлося для радавого
Івана Барадуліна?
Не адкажа зямля.
Не помніць ад радасці перамога
нікога.

А ён жа заўсёды
любіў падводы,

млела душа ад асалоды
ў шпаркай яздзе
да вайны...

Да вайны шыліся з палатна штаны,
кашулі.
Скачучы «Лявоніху», ў гуле
жонку падколваў без зла:
*Лявоніха мая жонка была,*
*Нямытую рубашонку дала...*
Піцаваў за капейкі —
ішлі нягуста рублі —
прыбіваў, працуючы ў райкамунгасе,
рэйкі,
каб шчытныя хаты былі.
Усё на вайне давялося —
забіваць, узрываць.
Думаю, разабраўшыся ў бацькавым лёсе,
Бог паспеў яму дараваць.
Што тычыць маральнай стойкасці,
дык бацька быў з той касці,
якая белай была ад працы,
ні нудзе, ні бядзе
бацька не звык скарацца
нідзе.
Не за гарамі, не за марамі,
а тут — на гонях, на лядах
пярун і лівень вучылі маралі
быць цвярдым у сваіх паглядах,
дбаць пра сям'ю, араць, касіць,
сарочку насіць
і новую ў Бога прасіць.
У бацькі да чытання ахвочага
уся палітычнасць ішла
з «Віцебскага рабочага»,
 газету выставіўшы да святла,

ахвотна пад нос сабе бэкаў і мэкаў,
а, значыцца, ў палітыцы нешта кумекаў.
І ў мяне малога,
ў якога ад літараў разбягаліся вочы,
пытаўся:
«Што тут напісана,
кабыла лысая?» —
Ды я адказваў:
«Віцебскі рабочы».
І ўсміхаўся бацька рахмана:
абы сын не хварэў на пана!
Газетамі хата была абклеена
аднастайна,
справе партыі Леніна-Сталіна
былі аддадзены нават сцены,
бо й яны мелі вушы.
Бабуля Малання
і мама маліліся за нашыя душы
і ўвечары і ўранні.
Дзякуй Богу, хоць сёння
за даўнасцю гадоў здалена
графа пра аддадзенасць
партыі Леніна-Сталіна!

16

*КАМІСАР АТРАДА*
*КАМБРЫГ*

*14 чэрвеня 1944 г.*

Зразумела, што камісар самы аддадзены
справе партыі Леніна-Сталіна
і адпаведна да камандзіра прыстаўлены,
і роспіс ягоны
ў выглядзе закручастай перападзіны

не расчытаць,
бо пяро са сталінскай сталі.
А загадка ў святым наіве
просіць задумацца ў здзіве:
прыехалі камісары
усё поле папісалі.
Не толькі поле,
кажэрку лапленую на плячах
як маёмасць апісвалі
з нахабнаю пысаю,
з бляскам сталі ў вачах.

Затое разборлівы pocпic камбрыгавы,
па почырку можна лічыць,
што чалавек неблагі.
У Мельнікава тады яшчэ
рука не ўздрыгвала.
Камбрыг пасля вайны дбаў пра пірагі,
якімі яго нядоўга карміла ўлада.
Млыном загадаў, ды атрымаў паніжэнне
і з кукішам у кішэні
застаўся і жыў, казалі, з акладу.
Нязграбнымі пальцамі аратая-воя
лічбы і літары выведзены,
апошняя ледзь відна,
нібыта пяро забыцця сівое
у чарніліцы скону да дна
чарніла чарноту даставала,
бо знікаў у нябыт
бацькаў апошні год.
г — літара цьмяна ўсплывала з правалу,
ідучы таксама на звод.

Госпадзі,
твая пачатковая літара
апошняя накрэсленая бацькавай рукой.

Госпадзі,
пот крывавы з ілба ягонага вытры,
прымі душу раба твайго,
супакой!

Маленькае *г* нагадвае кручок,
бацька быў рыбаком адменным.
Госпадзі,
выскубі яму на падушку
з воблака кузлачок,
госпадзі,
набі ягоны сяннік сенам,
накошаным ягонай касой,
супакой!

Паплечнікі ўспаміналі слаба,
што бацька ўпаў каля возера,
ягоную нязнойдзеную сынам магілу,
схаваную ад мітусні людской,
госпадзі,
абарані ад злога позірка,
заслані ад сляпой далані бульдозера,
Госпадзі,
не дай загінуць душы — дай сілу,
супакой!

Мама ў паддзёўку бацькаву
зашывала святы лісток
з замовай ад кулі, ад пікі,
ды лісток засланіць партызана не змог.
Белы свет — стог,
стог вялікі.
І, як іголку,
чалавека ў ім не знайсці.
На золку
ў сваім жыцці

мы спадзяемся не разгубіцца
ні ўвысі, ні доле.
Кожны з нас — апошняя спіца
ў сонечным коле,
над зялёным, пажоўклым, згаленым гаем
адмільгаем —
і марым зноў паўтарыцца...

Пацямнела анкета
штыкецінай са штыкету
бацькавага бытавання зямнога,
а вечны мой смутак шэпча:
малі,
каб даў яму ісціны посах
(з вінтоўкай ён пахадзіў па зямлі),
каб не заблудзіўся бацька твой
на нябёсах,
Бога малі...

Малю Бога!

* * *

Я ў свеце настолькі адзін,
Я ў свеце настолькі маленькі,
Што памяці сцёртай каленькі
Збіваю,
Паўзу ў напамін,

Каб Бог не забыўся мяне,
Ды я перад Богам маленькі,
Мае Ён не ўчуе маленні
І нават уніз не зірне.

Як спусціцца Бог на зямлю,
Дык я, перад небам маленькі,
Даткнуся да лёгкай кавенькі
І крыўды на попел спалю.

* * *

І свая ўзважанасць у глыжа,
Сарамлівасць — у апранахі.
І свая ў гэтым свеце мяжа,
Над якой апякуюцца страхі.

Страх рухавы і страх ляны,
Страх абразы і страх пашаны,
Страх нязгоды і страх віны
Пераблытаны, перамяшаны,

І свая прыгажосць у смаўжа,
І свая зграбнасць у чарапахі,
І свая немата ў крыжа,
І свая міласэрнасць у плахі...

## *ДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ*

Беларусы ўсіх краёў, яднайцеся!
Нас няшмат, а будзе менш яшчэ,
Як адступім, зломімся пад націскам,
Як ад нас рашучасць уцячэ.

Праз усе вякі нас толькі ціснулі
І хадзіць хацелі як па тлі,
Нас душылі волгамі і вісламі,
Кожны тужыў за́шмаргу пятлі.

Нас турылі з Бацькаўшчыны, з Дзедзіны,
Нам, панам крывіцкае зямлі,
Котласы, Чарнобылі адведзены,
Маем права мы на мазалі.

Нас палілі, катавалі, пратталі,
Малацілі нас, нібы кулі,
Каралі, забойцы, імператары
І бацькі працоўных мас,
Калі
Беларусь, як палатніну, кроілі
На мундзіры ды на каптаны,
Каб магілы з нашымі героямі
Уціскалі валуны маны.

Над святынямі пазруйнаванымі
Паклянемся дбаць пра карані.
Будзем Янкамі, а не Іванамі,
Што не ведаюць свае радні.

Працавалі мы на ўсе імперыі,
Папрацуем на сябе, браты.
Дык адродзімся душой і вераю.
З намі Бацька Бог
І дух святы!

# ЗМЕСТ

## *AB OVO*

*UITAE MAGISTRA*

*Лінія рамяства*



*Варажу на Вялікай кітайскай сцяне*

## *MORE MAJŌRUM*



## *Няма замежнае травы*

**Барадулін Р.**

Б 24 **Міласэрнасць плахі: Кніга паэзіі.— Мн.: Маст. літ., 1992.— 302 с., [1] л. партр.**

ISBN 5-340-00895-9.

**Бородулин Р. Милосердие плахи: Книга поэзии.**

Новую кнігу паэзіі Рыгора Барадуліна склалі вершы і паэмы апошніх гадоў. Вечнае пытанне да неба і да Бога: што ёсць жыццё, адчай чарнобыльскае навалы, карані паганства ў душы і ў разуменні свету, позірк на далёкую ўжо цяпер партызаншчыну вачыма сённяшняга дня, лірычнае споведзь і ўсмешка, інтымныя радкі — такі тэматычны абсяг кнігі паэзіі «Міласэрнасць плахі».

**Б** $\frac{4702120202-054}{М\ 302(03)-92}$ **42—92**

**ББК 84Бел7**

Литературно-художественное издание

*БОРОДУЛИН РЫГОР ИВАНОВИЧ*

*Милосердие плахи*

*Книга поэзии*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*БАРАДУЛІН РЫГОР ІВАНАВІЧ*

*Міласэрнасць плахі*

*Кніга паэзіі*

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк
Мастак М. Р. Казлоў
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо
Карэктар Л. П. Бялова

ІБ № 3672
Здадзена ў набор 26.06.91. Падп. да друку 23.12.91. Фармат $70\times90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Афс. друк. Ум. друк. арк. 11,12+0,07 укл. Ум. фарб.-адб. 11,31. Ул. выд. арк. 9,39. Тыраж 3800 экз. Зак. 1427. Цана 2 р. 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.